● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

2 красавіка 1996 г. аўторак, № № 89 — 90 (22892— 22893)




# ЗВЯЗДА

# ЗВАРОТ

## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р.ЛУКАШЭНКІ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Дарагія суайчыннікі!

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

2 красавіка 1996 года ўвойдзе ў гісторыю як дзень заснавання Супольніцтва Суверэнных Рэспублік. Упэўнены, што гэты крок поўнасцю адпавядае спадзяванням нашага народа і інтарэсам нашага грамадства. Нас па праву называюць народамі-братамі: агульныя гора і радасць, сумесная барацьба супраць іншаземных захопнікаў аб'ядналі беларусаў і рускіх у адзінае цэлае, разарваць якое нікому не дадзена. У рэферэндуме 1991 года большасць з вас ясна і аднязначна выказалася за захаванне нашага агульнага дома — Савецкага Саюза. Але тады наша воля была праігнаравана. У маі мінулага года вы яшчэ раз пацвердзілі свой выбар адносна саюза з Расіяй. Я як народны Прэзідэнт рабіў і раблю ўсё для таго, каб апраўдаць давер беларускага народа ў гэтым важнейшым для нашай будучыні пытанні.

Паважаныя суайчыннікі, іншай палітыкі за мінулыя паўтара года, у тым ліку і на прэзідэнцкіх выбарах, я вам не абяцаў. І вы заўсёды падтрымлівалі гэту палітыку. Таму, выконваючы волю сваіх народаў, мы з Прэзідэнтам Расіі падпішам дагавор, які выправіць гістарычную памылку 1991 года, што раз'яднала беларусаў і рускіх. Палітыка збліжэння з Расіяй — гэта палітыка для народа, для кожнага з вас. Аб гэтым вы можаце меркаваць самі па выніках, якіх нам удалося дасягнуць за апошні год.

Самы наглядны вынік нашай палітыкі — святло, цяпло, гарачая вада ў нашых дамах у гэту страшную, суровую зіму. Мы дабіліся аднолькавых для беларускіх і расійскіх суб'ектаў гаспадарання цэн на энерганосьбіты і сыравіну. Нафту, газ, іншыя тавары атрымліваем з Расіі па цэнах, значна ніжэйшых за сусветныя. Штогадовая эканомія толькі за кошт гэтага параўнальная з крэдытам Міжнароднага валютнага фонду, прадастаўленне якога абстаўляецца ўмовамі, не заўсёды прымальнымі для Беларусі, не заўсёды ўлічваюцца інтарэсы простых людзей. Вы ведаеце, што падпісана надзвычай важнае для нашай эканомікі пагадненне аб нулявым варыянце, у выніку чаго рэспубліка пазбавілася ад велізарных даўгоў Расійскай Федэрацыі за энерганосьбіты. Стварэнне Супольніцтва Суверэнных Дзяржаў замацуе ўсё станоўчае, што было набыта ў адносінах паміж Беларуссю і Расіяй і створыць якасна новыя магчымасці для іх развіцця. Супольніцтвам беларускім і расійскім грамадзянам гарантуюцца абсалютна роўныя правы ў пытаннях сацыяльнага забеспячэння, працаўладкавання, аховы здароўя, набыцця маёмасці і будаўніцтва жылля. У любым пункце супольніцтва, няхай гэта будзе тэрыторыя Беларусі ці Расіі, грамадзяне нашых краін будуць адчуваць сябе дома, ні пры перасячэнні граніц, ні пры ўладкаванні на работу з вамі не будуць абыходзіцца як з іншаземцамі. Як і раней у Савецкім Саюзе, любы беларускі юнак, любая беларуская дзяўчына змогуць атрымаць адукацыю ў любой ВНУ Масквы і іншым цэнтры навукі і адукацыі Расіі. Аб'яднаныя ў Супольніцтва Беларусь і Расія будуць разам ісці па шляху ўдасканалення эканомікі. Супольніцтва дасць магчымасць забяспечыць работай працоўныя калектывы нашых буйнейшых прадпрыемстваў, якія з самага пачатку ствараліся ў разліку на саюзны рынак. Беларускія суб'екты гаспадарання будуць ва ўсім, у тым ліку па цэнах на сыравіну, энерганосьбіты, знаходзіцца ў аднолькавых умовах з расіянамі, а гэта азначае, што беларускія тавары будуць канкурэнтаздольнымі на неабсяжным расійскім рынку. Супольніцтвам мы на якасна новай аснове адродзім эканамічныя, сацыяльныя, культурныя і навуковыя сувязі паміж Беларуссю і Расіяй. Аб'яднанне матэрыяльных і духоўных рэсурсаў беларускага і расійскага народаў дазволіць хутчэй пераадолець крызісныя з'явы і забяспечыць нашым людзям дастойнае жыццё.

Гэта будзе зроблена шляхам правядзення ў жыццё сумесных беларуска-расійскіх праграм у эканамічнай, сацыяльнай, навуковай і іншых галінах. Праграмы не застануцца на паперы, як гэта адбываецца ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У Супольніцтве яны будуць выконвацца за кошт яго бюджэту, які фарміруецца шляхам узносаў Беларуссю і Расіяй. Першая будзе праграма сумесных дзеянняў па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Вы ведаеце, што пры развале СССР Беларусь засталася адна з гэтай страшнай бядой. Са стварэннем Супольніцтва нязмерна ўзрастуць магчымасці па аказанню дапамогі людзям, якія пацярпелі ад гэтай вельмі цяжкай у гісторыі чалавецтва ядзернай катастрофы. У Супольніцтве будзе створана невялікая, але паўнамоцная і дзейсная сістэма органаў улады. Усе важнейшыя рашэнні будзе прымаць Савет, у які ўвойдуць кіраўнікі дзяржаў, парламентаў і ўрадаў дзвюх краін. Пры іх прыняцці ў гэтым вышэйшым органе і Беларусь і Расія будуць валодаць абсалютна роўнымі правамі. Абмяркоўваецца міжпарламенцкі кангрэс, работа якога дапаможа аб'яднаць вопыт і інтэлектуальны патэнцыял дэпутатаў дзвюх краін, уніфікаваць беларускае і расійскае заканадаўствы. Пастаянна дзеючым органам Супольніцтва стане выканаўчы камітэт, які складаецца з роўнай колькасці прадстаўнікоў беларускага і расійскага бакоў і будзе фарміравацца двума кіраўнікамі дзяржаў. Мы ўпэўнены ў тым, што сістэма органаў супольніцтва будзе працаваць хутка і эфектыўна, у той жа час не наносячы ўрону суверэнным правам Беларусі і Расіі. Хачу падкрэсліць, што Супольніцтва стане якасна новай формай міждзяржаўнага ўзаемадзеяння. У ім не будзе той ненатуральнай цэнтралізацыі, ад якой пакутаваў Савецкі Саюз. Але ў ім не будзе і той слабасці, неэфектыўнасці, з-за якой практычна няма аддачы ад Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У Супольніцтве і Беларусь, і Расія застануцца свабоднымі і суверэннымі. Пасля падпісання дагавора наша рэспубліка будзе самастойна вызначаць сваю ўнутраную і знешнюю палітыку. Не верце тым, хто крычыць аб здачы суверэнітэту, гэтага няма і ніколі не будзе. У дагавор, які мы падпішам 2 красавіка, уключаны палажэнні, якія гарантуюць свабоднае ажыццяўленне беларускай і расійскай дзяржавамі сваіх суверэнных правоў. Скажу больш, аб'яднаўшы з Расіяй свае матэрыяльныя і інтэлектуальныя рэсурсы, беларуская дзяржава зможа эфектыўней і хутчэй стаць на ногі і ўмацавацца. З усталяваннем Супольніцтва ўзрасце ўзровень забеспячэння нацыянальнай бяспекі. Беларускія і расійская прававахоўныя органы змогуць аб'яднаць свае намаганні для барацьбы са злачыннасцю. Беларусь і Расія яшчэ цясней будуць супрацоўнічаць у справе абароны сваіх граніц. Але нашы ўзброеныя сілы будуць выконваць свой саюзніцкі абавязак у адносінах да Расійскай Федэрацыі толькі на тэрыторыі Беларусі. Я адказна заяўляю: ні адзін беларускі ваеннаслужачы не будзе адпраўлены ваяваць за межы Беларусі. Усе размовы аб тым, што беларусы будуць прымаць удзел у падзеях у Чачні або іншых канфліктах на тэрыторыі іншых дзяржаў СНД — гэта бессаромная хлусня. Такая хлусня патрэбна была праціўнікам дагавора, каб запалохаць народ. Гэта карта сёння біта. Гэтай ноччу расійскія войскі пакідаюць Чачню, і ў Чачні пайшоў другі працэс, у напрамку міру. Беларусь будзе дынамічна супрацоўнічаць не толькі з Расіяй, але і з іншымі краінамі, і перш за ўсё са сваімі суседзямі. У нас ёсць усе магчымасці для таго, каб адыгрываць больш значную ролю ў мірным супрацоўніцтве ў нашым рэгіёне. Суботняя сустрэча з Прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім яшчэ раз пераканала мяне ў тым, што заходні вектар нашай знешняй палітыкі з'яўляецца выключна перспектыўным для беларускай дзяржавы. Як паўнапраўны суб'ект міжнароднага права Беларусь будзе і далей актыўна працаваць у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншых міжнародных арганізацыях.

Паважаныя суграмадзяне! Мы з вамі жывём у знамянальны час, пачынае збывацца мара народаў Савецкага Саюза, перш за ўсё славянскіх народаў, аб яднанні. Запэўніваю вас як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, што не пашкадую сіл для таго, каб гэты працэс атрымаў новае развіццё на карысць нашых людзей.

Паважаныя суграмадзяне, дарагія суайчыннікі! Я выказваю вам сваю падзяку, усім тым, хто падтрымліваў і падтрымлівае маю палітыку, я дзякую тым, хто верыць мне як кіраўніку дзяржавы, я запэўніваю вас, што ўсё, аб чым я сказаў сёння, будзе рэалізавана. Я не падвяду тых людзей, якія выбралі мяне Прэзідэнтам. Дзякуй.



## АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

29 сакавіка ў Маскве адбылося падпісанне Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь, Рэспублікай Казахстан, Кіргізскай Рэспублікай і Расійскай Федэрацыяй аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах.

**На здымку**: у Георгіеўскай зале Крамля ў час падпісання дагавора.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, Белта.**

## БЕЛАРУСЬ І ПОЛЬШЧА СТАНУЦЬ МІРНЫМ МОСТАМ ПАМІЖ УСХОДАМ І ЗАХАДАМ

Нягледзячы на актыўныя заклікі з колаў польскай грамадскасці адмяніць візіт прэзідэнта краіны Аляксандра Квасьнеўскага ў Беларусь, яго сустрэча з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам усё ж адбылася. Яна, як і намячалася, прайшла 30 сакавіка ў рэзідэнцыі «Віскулі» ў Белавежскай пушчы.



На заключнай прэс-канферэнцыі, абгрунтоўваючы неабходнасць сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, польскі прэзідэнт адзначыў, што з ростам колькасці нявырашаных пытанняў ва ўзаемаадносінах Беларусі і Польшчы асабістая сустрэча кіраўнікоў суседніх дзяржаў становілася ўсё больш актуальнай. Паводле яго слоў, папярэднім кіраўніцтвам абедзвюх краін, на жаль, з-за адрозненняў у падыходах да вырашэння шэрага праблем было ўпушчана шмат часу, і цяпер яго трэба наганяць. «Я ўпэўнены, што суверэнная Беларусь патрэбна Еўропе, — падкрэсліў Аляксандр Квасьнеўскі. — Беларусь можа дабіцца поспеху на сусветнай арэне, а гэта ў сваю чаргу стане і поспехам Польшчы».

Аляксандр Лукашэнка падзякаваў свайму польскаму калегу за тое, што ён не паддаўся палітычнай шумісе, і запэўніў, што «тут, за гэтым сталом, мы больш ніколі нічога ламаць не будзем, а будзем толькі будаваць і ствараць».

Аб тым, што ў кіраўнікоў суседніх краін было шмат пытанняў адзін да аднаго, гаворыць наступны факт: іх сустрэчы як адзін на адзін, так і ў расшыраным саставе праходзілі значна даўжэй, чым намечана. Асаблівая ўвага была ўдзелена абмеркаванню пытання аб расшырэнні НАТО на Усход. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, унутраная справа любой краіны, з кім ёй інтэгравацца і развіваць супрацоўніцтва. «Польшча — суверэнная дзяржава, і яна сама вызначыцца, па якому шляху ёй інтэгравацца, у тым ліку і ў ваенна-палітычнай сферы», — падкрэсліў ён.

Тым не менш, бакі ў ходзе перагавораў прытрымліваліся пазіцый, выказваемых раней. Кіраўнік нашай дзяржавы, у прыватнасці, сказаў: «Расшырэнне НАТО не павінна насіць фарсіраваны, паскораны характар. І Польшча, і Беларусь з'яўляюцца своеасаблівымі буфернымі дзяржавамі, бо ў гісторыі не было вайны, якая б не праходзіла на тэрыторыі нашых краін. Мы не хочам больш войнаў, не хочам, каб у гэтым рэгіёне становішча было дэстабілізавана». Пагадзіўшся з яго пазіцыяй, Аляксандр Квасьнеўскі са свайго боку падкрэсліў, што ў час перагавораў было дасягнута поўнае ўзаемаразуменне сітуацыі. Акрамя таго, бакі дагаварыліся, што не будзе ніякай нявызначанасці ў пытаннях раззбраення. Прэзідэнты дамовіліся інфармаваць адзін аднаго аб кожным рашэнні ў ваеннай галіне.

Вядома, бакі не маглі не закрануць пытання аб падпісанні 2 красавіка беларуска-расійскага дагавора, якое так цікавіць сёння ўсіх. Аляксандр Лукашэнка азнаёміў польскага прэзідэнта з усімі пунктамі апошняга варыянта гэтага дакумента. І каб у далейшым не ўзнікала якіх-небудзь крыватолкаў, ён адзначыў: «удзельнічаючы ў супольніцтве суверэнных

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## БЕЛАРУСЬ І ПОЛЬШЧА СТАНУЦЬ МІРНЫМ МОСТАМ ПАМІЖ УСХОДАМ І ЗАХАДАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

рэспублік, Беларусь, таксама як і Расія, захавае дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць, сваю Канстытуцыю, дзяржаўны сцяг, герб, гімн і іншыя атрыбуты дзяржаўнай улады». Наша рэспубліка, паводле яго слоў, і ў далейшым будзе з'яўляцца суб'ектам міжнароднага права, самастойна ўстанаўліваць консульскія і дыпламатычныя адносіны. Аляксандр Квасьнеўскі ў сваю чаргу запэўніў, што беларуска-расійскі дагавор ніякім чынам не паўплывае на адносіны Польшчы з Беларуссю.

Вычарпальны адказ Аляксандра Лукашэнкі быў дадзены і на пытанне, як паўплываюць інтэграцыйныя працэсы ў рамках СНД на беларуска-польскія адносіны. «Я не такі аўтарытэтны палітык на Захадзе, але я маю добрыя адносіны на Усходзе, — заявіў ён. — Нашы дзяржавы павінны стаць мірным мостам паміж Усходам і Захадам». Паводле слоў беларускага прэзідэнта, польскі калега запэўніў яго, што акажа ўсялякую падтрымку Беларусі на Захадзе, а ён у сваю чаргу выказаў гатоўнасць прадстаўляць інтарэсы Польшчы на Усходзе.

У час перагавораў закранался і пытанне транспартнага шляху праз Польшчу. Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, бакі катэгарычна адмовіліся ад тэрміна «транспартны калідор», якім называўся мяркуемы шлях праз Польшчу з Беларусі ў Калінінградскую вобласць. Аляксандр Квасьнеўскі падкрэсліў, што ў Еўропе для Польшчы няма такога партнёра, з якім яна згадзілася б пабудаваць у сябе экстэрытарыяльны калідор. Гістарычны вопыт таму пацвярджэнне. Ён запэўніў у гатоўнасці Польшчы выкарыстоўваць сваё транзітнае становішча. Праўда, для гэтага па ўзаемнай дагаворанасці будуць мадэрнізаваны цяперашнія транспартныя артэрыі і палепшаны пагранічныя пераходы. Мяркуецца, паводле слоў польскага прэзідэнта, для ўдасканалення транспартных магістраляў прыцягнуць і сродкі еўрапейскага супольніцтва, паколькі яно ў роўнай ступені зацікаўлена ў існаванні добрых дарог.

Удзялілі прэзідэнты ўвагу і праблеме стварэння еўрарэгіёнаў «Буг» і «Нёман». Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў, што, згодна з дагаворанасцю, еўрарэгіён «Нёман» аб'яднае Гродзенскую вобласць, Літву, Калінінградскую вобласць і паўночную Польшчу, а еўрарэгіён «Буг» — захад Украіны, Беларусі і адпаведныя польскія ваяводствы. Стварэнне гэтых аб'яднанняў беларускі прэзідэнт звязвае з неабходнасцю «развязаць рукі вытворцам гэтых рэгіёнаў, каб яны маглі нармальна супрацоўнічаць».

У гэты ж дзень у консульстве Польшчы ў Брэсце Аляксандр Квасьнеўскі сустрэўся з беларускімі парламентарыямі. Прэзідэнт Беларусі вітаў гэты намер польскага калегі. І нягледзячы на тое, што не ўсе дэпутаты, хто прадстаўляў рэспубліку на сустрэчы, згодны з цяперашняй палітыкай кіраўніцтва краіны, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, прыемны перш за ўсё факт імкнення прэзідэнта Польшчы азнаёміцца з усімі палітычнымі плынямі ў нашай рэспубліцы.

У заключэнне кіраўнік Беларусі адзначыў, што беларуска-польская граніца, якая працягнулася больш чым на 600 кіламетраў, заўсёды была граніцай дружбы. «Мы зробім усё, каб нашы дзяржавы і надалей заставаліся сябрамі», — падкрэсліў ён.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## «АЦЭНЬВАЮ СУВЕРЭННУЮ БЕЛАРУСЬ ЯК ПАРТНЁРА, ЯКІ ЎДЗЕЛЬНІЧАЕ Ў СТВАРЭННІ НОВАЙ ЕЎРОПЫ»

**Прэзідэнт Рэспублікі Польшча Аляксандр КВАСЬНЕЎСКІ перад першым сваім рабочым візітам у Беларусь, які прайшоў 30 сакавіка, даў інтэрв'ю аглядальніку газеты «Звязда» Валерыю КАЛІНОЎСКАМУ**

***(Заканчэнне, пачатак у нумары за 30 сакавіка.)***

**— Пан прэзідэнт, як вы разумеце членства Польшчы ў НАТО? Ці азначае гэта, што на месцах ранейшых савецкіх ваенных баз з'явяцца амерыканскія ці нямецкія? Ці будзе ў Польшчы знаходзіцца натаўская ядзерная зброя?**

— Канкрэтныя ўмовы ўдзелу Польшчы ў палітычных і вайсковых структурах НАТО яшчэ будуць прадметам узгадненняў як унутры Паўночнаатлантычнага саюза, так і ў размовах яго кіраўнікоў з польскімі ўладамі. Мы не прадбачым ні пастаяннага знаходжання чужых войскаў на нашай тэрыторыі, ні размяшчэння ў нас у мірны час ядзернай зброі. Я разумею апасенні нашых суседзяў, звязаныя з пэўнымі аспектамі расшырэння НАТО. Польскія ўлады з вялікай настойлівасцю будуць старацца, каб гэтыя апасенні развеяць. Еўраатлантычныя структуры бяспекі не ўяўляюць ніякай пагрозы для нашых усходніх суседзяў. Сёння яны з'яўляюцца проста адзінай сістэмай агульнай бяспекі, якая рэальна функцыянуе на нашым кантыненце. Міратворчая аперацыя ў Босніі, арганізаваная НАТО з удзелам узброеных сіл іншых краін, з'яўляецца доказам таго, што гэты пакт сёння выконвае зусім іншую ролю, чым гэта было раней. «Халодная вайна» закончылася ўжо шмат гадоў назад. Гэта мінулае, дрэннае мінулае.

Паводле майго меркавання, вяртанне да атмасферы халоднай вайны на нашым кантыненце немагчыма. Але ў любым выпадку гэта не можа адбыцца на той падставе, што еўраатлантычны палітычна-абарончы саюз, які ніколі не ўчыняў агрэсіі супраць каго-небудзь і які групуе дэмакратычныя краіны, звязаныя адзінай сістэмай вартасцей, расшырыцца на такія краіны, жыццёва зацікаўленыя ў прыязным супрацоўніцтве з краінамі СНД, як Польшча, Венгрыя, Чэхія, Славакія.

**— Пан прэзідэнт, дазвольце некалькі пытанняў на ўнутрыпалітычныя тэмы. Якім вы бачыце далейшы рух эканамічных рэформаў у Польшчы? Якая, на вашу думку, перспектыва вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў?**

— Працэс трансфармацыі ў Польшы працягваецца. Перад намі яшчэ стаяць складаныя задачы: рэструктурызацыя горназдабыўнай і металургічнай галіны, а таксама рэформа цэлай сферы сацыяльных паслуг, у прыватнасці сістэмы сацыяльнага страхавання. Мы павінны таксама знайсці дзейсны спосаб актывізацыі грамадскіх і эканамічных перамен у аграрным сектары. Атрыманы эфект, аднак, ужо дазваляе гаварыць аб поспехах. Польская эканоміка выйшла на дарогу хуткага і стабільнага развіцця. У мінулым годзе эканамічны рост быў рэкордны і склаў амаль 7 працэнтаў. Прагноз на бягучы год таксама вельмі аптымістычны. Летась мы зафіксавалі таксама рэкордна высокі наплыў замежнага капіталу. Гэта можна трактаваць як сведчанне даверу да магчымасцей развіцця польскай эканомікі. Растуць таксама паказчыкі аптымізму грамадства. Палякі, якія былі найбольш нездаволенымі ў Еўропе, сталі сёння ледзь не найбольшымі аптымістамі. Аб падтрымцы перамен сведчыць таксама растучая прага да ведаў: на працягу некалькіх гадоў у нас падвоілася колькасць студэнтаў. Маладыя людзі бачаць, што поспех блізка, і залежыць ён перш за ўсё ад іх саміх.

Польшча мае ўдакладненае бачанне развіцця сваёй гаспадаркі. З 1990 года мы праводзім паслядоўную макраэканамічную палітыку, і прадпрыемствы (у тым ліку дзяржаўныя) мусілі да яе прыстасоўвацца. Цяпер мы назіраем ажыўлены рост прыватнага сектара, у якім дамінуюць новаўтвораныя фірмы. Працягваецца прыватызацыя дзяржаўнага сектара. Якраз гэта і надае польскай эканоміцы вялікую дынаміку.

**— Я чуў аб праекце пераўтварэння Польшчы ў двухпартыйную краіну. Як вы ўспрымаеце гэты праект?**

— Гэта непраўдападобна. У нас існуе вельмі шмат палітычных партый, і рэдка можна пачуць, што яны аб'ядноўваюцца. Часцей даведваемся аб расколах і падзелах. Ёсць нават такое прыслоўе, што дзе два палякі — там тры палітычныя партыі. Права грамадзян аб'ядноўвацца ў палітычныя партыі з'яўляецца канстытуцыйным і ніякім чынам не можа быць абмежавана. Аднак наша выбарчая сістэма спрыяе моцным партыям, якія маюць грамадскую падтрымку. У сейме папярэдняга склікання было васемнаццаць партыйных груп. У сённяшнім — толькі шэсць. Магчыма, у наступных іх будзе пяць. Аднак любоў палякаў да плюралізму не дазволіць, відаць, далей змяншаць гэтую лічбу.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

## БЕЛАРУСКІЯ ДЭПУТАТЫ СПАДЗЯЮЦЦА НА СУСВЕТНЫ ВОПЫТ ПАРЛАМЕНТАРЫЗМУ

Вопыт парламентарызму, набыты сусветным супольніцтвам, а таксама псіхалогія і сацыялогія палітычнага лідэрства і ўлады прапанаваны для вывучэння дэпутатам Вярхоўнага Савета на двухдзённых курсах, якія адкрыліся 1 красавіка ў Міжнародным адукацыйным цэнтры. Такая вучоба арганізавана па ініцыятыве Прэзідыума Вярхоўнага Савета і праводзіцца ў рэспубліцы ўпершыню.

Адкрываючы заняткі, кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі адзначыў, што, узбагаціўшыся вопытам заканатворчасці, дэпутаты будуць працаваць больш прафесіянальна. І, значыць, на яго думку, каэфіцыент карыснага дзеяння Вярхоўнага Савета значна ўзрасце.

Слухачамі першых курсаў для заканадаўцаў сталі старшыні пастаянных камісій парламента, іх намеснікі і сакратары. Заняткі праводзяць прафесары і члены-карэспандэнты Акадэміі навук Беларусі Уладзімір Бабкоў, Пётр Нікіценка, Мікалай Кузняцоў і іншыя вядомыя вучоныя. У далейшым курсы прадоўжаць сваю работу. Іх змогуць прайсці ўсе без выключэння дэпутаты Вярхоўнага Савета.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## БАЦЬКІ ЮНЫХ ТАЛЕНТАЎ УДЗЯЧНЫ ПРЭЗІДЭНТУ

Падрыхтоўка групы будучых фізікаў па дагавору, падпісанаму Маскоўскім дзяржуніверсітэтам у мінулым годзе пры садзейнічанні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, арганізавана ў Віцебску. Заключэнне гэтага пагаднення, на думку рэктара Віцебскага педагагічнага універсітэта Віктара Вінаградава, дасць магчымасць распаўсюдзіць такую практыку навучання ў МДУ таленавітай моладзі і па іншых спецыяльнасцях. Пакуль жа ўдзячныя бацькі юных талентаў Віцебска пісьмова выказалі сардэчную падзяку кіраўніку дзяржавы за прадастаўленую іх дзецям магчымасць вучыцца, скажам так, без адрыву ад бацькоўскага дома ў адной з самых прэстыжных у свеце ВНУ.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСКІ «ДЭСАНТ» У РАСІЙСКАЙ СТАЛІЦЫ

**Каля трохсот чалавек з Беларусі ўдзельнічаюць ва ўрачыстасцях у Маскве з нагоды падпісання беларуска-расійскага дагавора, якія праходзяць 2 красавіка ў Крамлі.**

Вечарам 1 красавіка ў Маскву адправіўся спецыяльны састаў з членамі неафіцыйнай дэлегацыі. На ім у расійскую сталіцу выехалі прадстаўнікі беларускага парламента, партый, рухаў і грамадскіх арганізацый, вядомыя дзеячы культуры і навукі, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі. Перад адпраўкай поезда на цэнтральным чыгуначным вакзале беларускай сталіцы з іх удзелам адбыўся мітынг у падтрымку рашэння прэзідэнтаў Беларусі і Расіі аб падпісанні двухбаковага дагавора.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

*СТАТЫСТЫКА*

## НЕ ЎСІМ БЫЦЬ МІЛЬЯНЕРАМІ

**Паводле звестак, якія паступілі ў БЕЛТА з Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, менш за мільён, акрамя сялян, зарабляюць у сферы сацыяльнага забеспячэння, гандлі і грамадскім харчаванні.**

Па-ранейшаму нізкая зарплата работнікаў культуры і мастацтва, нягледзячы на тое, што ў лютым у параўнанні са студзенем яна ўзрасла на 20 працэнтаў.

Лічбы сведчаць і аб тым, што крыху палепшылася матэрыяльнае становішча настаўнікаў, урачоў, навуковых супрацоўнікаў. Іх сярэдняя зарплата ў лютым вырасла ў сярэднім на 25 працэнтаў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## СЯЎБЕ ДАПАМОЖА... ЧЫГУНКА

**Як ужо паведамляла «Звязда», адным з балючых пытанняў напярэдадні веснавой сяўбы з'яўляецца праблема забяспечанасці гаспадарак краіны мінеральнымі ўгнаеннямі: паколькі часу да пачатку палявых работ засталося няшмат, трэба як мага хутчэй даставіць адрасатам тое, што выпрацавалі апошнім часам хімічныя прадпрыемствы.**

Зыходзячы з патрэб вяскоўцаў, калектыў Беларускай чыгункі вырашыў на працягу красавіка перавозіць угнаенні, што накіроўваюцца з айчынных хімічных аб'яднанняў (ВА «Беларуськалій», ВА «Азот», Гомельскі хімзавод) у адрас сельскагаспадарчых гаспадарак краіны, з пяцідзесяціпрацэнтнай скідкай тарыфу.

Адначасова з гэтым рашэннем чыгуначнікі звярнуліся да кіраўніцтва вышэйназваных прадпрыемстваў з прапановай знізіць цану не менш чым на 50 працэнтаў на тыя ўгнаенні, якія будуць пастаўляцца гаспадаркам у красавіку. Як мяркуюць чыгуначнікі, гэтае рашэнне павінна паспрыяць паспяховаму правядзенню пасяўной кампаніі бягучага года.

**Ігар ПЯТРОЎСКІ,**
**прэс-служба Беларускай чыгункі.**

## У ВІЦЕБСКУ БЫЛІ АБМЕРКАВАНЫ ПРАБЛЕМЫ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ НА БЕЛАРУСІ

**29-30 сакавіка ў Віцебску прайшоў семінар па пытаннях сацыяльнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь.**

Старая прымаўка сцвярджае, што перш чым нешта адрэзаць, трэба адмераць сем разоў. Таму праграма семінараў па рэфарміраванню эканомікі Беларусі, распрацаваная Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў сумесна з Віцебскім абласным аддзяленнем фонду Сораса, у нашых умовах выглядае як ніколі дарэчы. Напрыканцы мінулага— пачатку гэтага года ўжо адбыліся абмеркаванні па пытаннях крэдытна-грашовай і падатковай палітыкі, а таксама прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці на Беларусі. Аднак цяперашні, ужо чацвёрты па ліку, семінар (з улікам лютаўскіх выступленняў прафсаюзаў) можна было пазваць нават актуальным. Якія вартасці і хібы мае сучасная сацыяльная палітыка ў краіне, ці мае будучыню асабістае страхаванне, як ацаніць цяперашні стан і перспектывы рынку працы — вось далёка не поўны пералік праблем, якія былі абмеркаваны па мінулым тыдні ў Віцебску.

Застаецца дадаць, што сам семінар выглядаў даволі прадстаўніча: сярод яго ўдзельнікаў, апроч мясцовай улады і лідэраў грамадскіх арганізацый, былі таксама галоўны спецыяліст камісіі Вярхоўнага Савета па эканамічнай рэформе Леанід Злотнікаў, намеснік дырэктара дэпартамента эканомікі Нацбанка Валерый Дашкевіч і міністр працы Беларусі Аляксандр Сасноў. Дарэчы, гутарка з апошнім па адной з самых балючых на сёння праблем грамадства — беспрацоўя — будзе прапанавана нашым чытачам у адным з бліжэйшых нумароў «Звязды».

**Сяргей ГРЫБ.**

## МЭТА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ — АДШУКАЦЬ САПРАЎДНАГА ГАСПАДАРА

**У апошнія дні сакавіка ў Оршы адбылося выязное пасяджэнне Віцебскага аблвыканкома, на якім ставіліся практычныя пытанні па прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці.**

Удзельнікі пасяджэння параўналі работу прыватызаваных і дзяржаўных прадпрыемстваў Оршы ў час экскурсіі, а затым прынялі ўдзел у 13 гарадскім аўкцыёне па продажы гарадской уласнасці.

Перад аўкцыёнам старшыня Аршанскага гарвыканкома В. Навацкі са шкадаваннем адзначыў, што забарона на выдачу ліцэнзій недзяржаўным суб'ектам гаспадарання не дазволіла падаць заяўкі на ўдзел некаторым патэнцыяльным пакупнікам. А менавіта дзякуючы прыватызацыі вернута жыццё многім аб'ектам, якія былі зачынены і працяглы час не выкарыстоўваліся.

Тым не менш, аўкцыён адбыўся. У прыватную ўласнасць былі прададзены два дзеючыя прадпрыемствы, якія адкрыюцца ў новай якасці не пазней чым праз шэсць месяцаў. «Малая прыватызацыя — гэта самы кароткі шлях пошуку руплівага ўласніка. Якраз у гэтых людзей пастаянна баліць галава аб тым, як лепш працаваць», — так выказаў асноўную задачу органаў прыватызацыі старшыня Віцебскаблмаёмасці В. Буйвал.

Гэту выснову пацвярджае той факт, што прыватызаваныя магазіны, рэстараны і кафэ ў Оршы трывала ўвайшлі ў грамадскую свядомасць як станоўчы вынік рэформаў у сферы ўласнасці. Гэта паказала апытанне грамадскай думкі, якое было праведзена па ініцыятыве Міжнароднай фінансавай карпарацыі.

Найбольш вядомымі у горадзе прыватызаванымі прадпрыемствамі аршанцамі названы магазіны «Максім», «Скрудж», «Эпсілон», «А-Макс», «Раніца», сетка магазінаў «Мерком», цырульні «Святлана», «Маладосць», «Усмешка», піцэрыя «Дока-піца». 64 працэнты апытаных адзначылі, што ў іх расшырыўся асартымент тавараў і паслуг, палепшылася якасць абслугоўвання, павялічыўся час работы.

Амаль палова апытаных лічыць, што цэны на тавары і паслугі ў прыватнікаў сталі ніжэйшыя ці засталіся не вышэй за цэны дзяржпрадпрыемстваў.

Станоўчы вопыт дзейнасці прыватызаваных прадпрыемстваў уплывае на фарміраванне грамадскай думкі аб працэсе прыватызацыі. Так, 21 працэнт цвёрда перакананы, што паступова трэба прыватызаваць усе ці амаль усе аб'екты камунальнай уласнасці. 47 працэнтаў апытаных лічаць, што ў прыватным сектары іх павінна знаходзіцца не менш чым у дзяржаўным. А 17 працэнтаў рэспандэнтаў упэўнены, што прыватызацыя — гэта найлепшы сродак для вырашэння эканамічных праблем рэспублікі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## СУ-17 «ПРЫЗЯМЛІЎСЯ» Ў ГЛЫБОКІМ

**Сто гадоў таму ў невялічкім гарадку Глыбокае, што ў Віцебскай вобласці, нарадзіўся геніяльны канструктар-наватар, зорка сусветнай авіяцыі Павел Восіпавіч Сухі.**

Лёс слыннага сына зямлі беларускай склаўся так, што жыў ён і ствараў свае ўсяму свету вядомыя самалёты далёка ад радзімы. За сваё жыццё Сухі стаў аўтарам 50 арыгінальных самалётаў, больш як 30 з іх былі выраблены і выпрабаваны. Многія з яго самалётаў (СУ-27, СУ-25, СУ-24М, СУ-24МР) эксплуатуюцца сёння не толькі арміямі краін СНД, але і Польшчы, Чэхіі, Венгрыі, Ірака, Сірыі, Індыі, Кітая і многіх іншых краін свету. Адна з «жалезных птушак» днямі трапіла на радзіму свайго стваральніка. Самалёт СУ-17 падарылі гораду Баранавіцкае авіяпрадпрыемства і мінскае аддзяленне «Комплекс-банка».

Раённая газета «Веснік Глыбоччыны» аб'явіла конкурс, дзе «пасадзіць» у горадзе «жалезную птушку». Як-ніяк у даўжыню яна 21 метр, а размах яе крылаў — 16 метраў.

**Сяргей ПРОТАС.**

# МІР НАШАМУ ДОМУ!

**24 сакавіка ў Мінску адбыўся мітынг пад бела-чырвона-белымі сцягамі і акцыі пратэсту супраць намераў падпісання расійска-беларускага саюза. Роўна праз тыдзень пад чырвонымі сцягамі сабраліся прыхільнікі такога саюза. Другі мітынг быў больш спакойны і арганізаваны, на ім прысутнічалі члены ўрада і адміністрацыі. Арганізавана на аўтобусах на яго прыбылі людзі з самых аддаленых раёнаў рэспублікі, напрыклад Столінскага. Па суседніх з Палацам спорту, дзе адбываўся мітынг, вуліцах хадзіла шмат транспарту — прычым па графіку рабочага дня.**

Арганізатары мітынгу — кіраўнікі левых партый і вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў — не хавалі, што адной з галоўных іх мэтаў было сабраць народу больш, чым 24 сакавіка, і такім чынам паказаць, што палітыку беларуска-расійскага саюза падтрымлівае большасць.

Паводле ацэнак міліцыі, па гэтым мітынгу сабралася каля 30 тысяч чалавек, сапраўды больш. Праўда, некаторыя ўдзельнікі мітынгу сведчылі, што прыйшлі яны сюды «па разнарадцы», якая прыйшла на іх завод, іншыя сцвярджалі, што ім выплацяць за ўдзел нейкія грошы ці дадуць адгул. Адзін з прыехаўшых нават пахваліўся журналістам, што атрымаў камандзіровачныя. Праўда, ніхто і не казаў, што іх гналі сюды сілай. Аднак некаторыя з удзельнікаў мітынгу з журналістамі размаўлялі неахвотна, асабіста я паспрабаваў паразмаўляць з дзесяткам чалавек, і толькі адзін рабочы з Ліды патлумачыў, што прыехаў ён на мітынг на аўтобусе і што ад саюза з Расіяй чакае паляпшэння эканамічнай сітуацыі ў краіне і, ў прыватнасці, што са складоў іх фабрыкі ўдасца прадаць у Расію прадукцыю (фарбы і лакі), якая там заляжалася. Такія ж матывы гучалі і ў выступленнях прамоўцаў на мітынгу: рабочы з Салігорска гаварыў аб тым, што іх аб'яднанню патрэбна атрымліваць з Расіі шмат камплектуючых, дэпутат Манукова сцвярджала, што ніякіх добрых тэхналогій мы ў суверэннай Беларусі не прыдумалі, гучалі абвінавачанні ў развале Саюза і гарачая падтрымка курса Прэзідэнта. Ад моладзі выступіў актывіст Славянскага Сабора «Белая Русь». Была прынята і адпаведная рэзалюцыя з падтрымкай курсу Прэзідэнта.

У ёй гаворыцца: «шматвяковая гісторыя пераканаўча сведчыць, што толькі ў саюзе з многанацыянальным народам Расіі, у яднанні з ім, пры брацкай узаемападтрымцы магчымы росквіт нашай суверэннай дзяржавы».

Праўда, праз дарогу, на другім баку праспекта Машэрава, ля студэнцкага інтэрната невялікі натоўп моладзі скандзіраваў «Жыве Беларусь!», а ў вокнах інтэрната з'яўляліся бела-чырвона-белыя сцягі. Сцягі былі адабраны міліцыяй, а студэнты разагнаны... Гэты факт падкрэслівае, што веснавыя мітынгі пачынаюць дзяліць наша грамадства на два лагеры, прычым у немалой ступені па ўзроставай прымеце: моладзь па адзін бок вуліцы, пажылыя — па другі. Нават карэспандэнт «Звязды», чалавек яшчэ малады, і некалькі маіх калег два разы на гэтым мітынгу былі ўспрыняты пенсіянерамі як правакатары за тое, што размаўлялі паміж сабою на беларускай мове. Нас ледзь не пабілі палкамі ад сцягоў і збіраліся здаць міліцыі — выратавалі толькі рэдакцыйныя пасведчанні і дыктафоны. Шмат злосці было выліта на нас пенсіянерамі: «Правакатары, бэнээфаўцы праклятыя, ідзіце прэч адсюль, тут вам не месца», — зусім несправядліва крычалі на нас пажылыя людзі, а адна старая кабета, суняўшыся, патлумачыла: «Я галодная, я не ела сёння, дрэнна мне жыць цяпер»... Безумоўна, шкада гэтых людзей...

Тым часам новая акцыя рыхтуецца працiўнікамі збліжэння з Расіяй, яна намечана па 2 красавіка — дзень падпісання дагавора А.Лукашэнкам і Б.Ельцыным. Арганізатары яе называюць пікетам і сустрэчай з дэпутатамі...

У рэшце рэшт, няхай змагаюцца паміж сабою ідэі. Гэта нармальна. Ненармальна, калі б'юцца паміж сабою людзі. Няхай і за ідэі. Таму пажадаем міру ў нашым доме.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## У «ГОМСЕЛЬМАША» СТОЛЬКІ ЗАКАЗАЎ, ШТО ПАРА ЎВОДЗІЦЬ ДВУХЗМЕНКУ

**З першага красавіка ўпершыню за апошнія гады па звычайнаму рабочаму графіку, пяць дзён у тыдзень, пачаў працаваць мнагатысячны калектыў вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш».**

Попыт на гомельскія кормаўборачныя камбайны зноў узнік у Расіі і Казахстане. А з падпісаннем дагавора чатырох кіраўнікоў дзяржаў СНД аб паглыбленай інтэграцыі і ўвядзеннем адзінай мытнай прасторы з'явілася магчымасць для ўсіх больш прадукцыйна выкарыстоўваць магутнасці беларускіх машынабудаўнікоў.

Павысілася цікавасць да прадукцыі гамяльчан і з боку ўкраінцаў, якія пастаўляюць у аб'яднанне многія камплектуючыя для кормаўборачнай тэхнікі. Паўднёвыя суседзі таксама зрабілі вялікі заказ на камбайны да надыходзячага корманарыхтоўчага сезона. Каб не падвесці сваіх традыцыйных партнёраў, у бліжэйшыя дні на прадпрыемстве плануецца пачаць работу ў дзве змены.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

## Жыццё старых людзей скарачае... полымя

**Найбольш небяспечнай у пажарных адносінах для пенсіянераў, безумоўна, з'яўляецца зіма. «Чаму?» — спытаеце вы. Уся справа заключаецца ў тым, што ў хатах адзінокіх старых самым небяспечным месцам даўно ўжо сталі печы. З лістапада па люты амаль кожныя суткі на пажарах, па прычыне няспраўнасці пячнога ацяплення або выкарыстання электраабагравальнікаў (нярэдка самаробных), гінула ад 1-2 да 6 чалавек састарэлага ўзросту.**

Улічваючы трагічны вопыт мінулай зімы, супрацоўнікі пажарнай службы з вясны правodзілі падворны абход з мэтай праверкі процiпажарнага стану жылых дамоў і ўказвалі на прыняцце неабходных мераў. Але прыйшлі халады, а печы так і засталіся нерамантаванымі. Адбылося так таму, што для іх рамонту ў старых няма ні сіл, ні грошай. Між тым, любы сельсавет мае магчымасць наняць чалавека, які б прайшоўся па вёсцы, павычышчаў бы ўсе коміны да пазамазваў шчыліны ў печах. Але скупы плаціць двойчы: часам прыходзіцца ўжо не печ рамантаваць, а будаваць занава хату.

Не менш небяспечнай у пажарных адносінах з'яўляецца і бытавая тэхніка — тэлевізары і халадзільнікі, якімі старыя людзі карыстаюцца ўжо шмат гадоў. Шкада, што ў нас не практыкуецца прафілактычны агляд тэхнікі ў адзінокіх старых. У іншым выпадку можа б і не здарылася трагедыі, падобнай на тую, што адбылася ў вёсцы Арлея Полацкага раёна, дзе з-за кароткага замыкання халадзільніка «Саратаў» (1979 года выпуску) ў хаце пенсіянера згарэлі яго дачка і 10-гадовы ўнук, якія прыехалі дапамагчы старому. Але гэты выпадак, на жаль, не адзіны.

Пераважна пажары пагражаюць менавіта жыхарам вёсак, якія ў адносінах да пажарнай бяспекі знаходзяцца ў параўнанні з горадам у горшым становішчы. Гаспадарчыя апорныя пункты пажарнікаў распаліся, бо калгасам яны цяпер не па кішэні. Самім жа сяльчанам арганізаваць «начную варту» немагчыма, бо жывуць у вёсках у асноўным старыя людзі. Ці пад сілу ім залезці на дах, каб патушыць агонь, або вынесці з полымя другога чалавека?

Улічваючы складанае становішча з пажарамі ў сельскай мясцовасці (за 1995 год там здарылася 7767 пажараў, поўныя страты ад якіх склалі 113.773 млрд. рублёў, загінуў 251 пенсіянер), быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб зборы на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы», сродкі ад паступленняў якога пайшлі на стварэнне ваенізаваных пажарных пастоў у вёсках.

Праўда, не ўсе грошы, якія пералічваліся на гэтыя мэты, пайшлі на пажарную бяспеку. З 443 млрд. рублёў, пералічаных прадпрыемствамі, да назначэння дайшло менш як 200 млрд., на якія былі створаны 548 пажарных падраздзяленняў у вёсках і 40 — на прадпрыемствах у гарадах. А куды дзяваліся астатнія грошы, ніхто не ведае. Між тым, пры разглядзенні пытання аб падатках, зборы на пажарную службы былі зменшаны напалову. А старыя людзі як гарэлі, так і гараць. Бо нехк не хапае ў дзяржавы сродкаў, часу або сумлення, каб зрабіць усё магчымае дзеля іх бяспекі. Ва ўмовах, калі немагчыма выкараніць прычыны пажараў, абавязкова патрэбна забяспечыць вяскоўцаў своечасовай пажарнай дапамогай.

Ці не пара ўжо ўдзяліць пенсіянерам, што жывуць у нястачы, больш заканадаўчай увагі? Ад старасці ж ніхто не застрахаваны. Глядзіш, калі састарэем, і нам спатрэбіцца гэта міласць...

**Таццяна ЗАГВОЗДКІНА.**

## БЕЛАРУСЬ НЯДРЭННА ВЫГЛЯДАЕ Ў ЛЮСТЭРКУ СУСВЕТНАЙ ПРЭСЫ

**Сусветныя сродкі масавай інфармацыі працягваюць з цікавасцю сачыць за ходам падзей на прасторы СНД. І хоць спектр думак даволі шырокі, замежныя аглядальнікі ў каментарыях у большасці сваёй сходзяцца ў ацэньваюць палітычныя змяненні, якія адбываюцца ў нас.**

Агульны настрой такіх публікацый добра адлюстроўвае серыя артыкулаў амерыканскага аглядальніка Марціна Сіфа на старонках «Вашынгтон таймс». Усе яны прысвечаны Беларусі і напрамку закранаюць праблему інтэграцыі нашай рэспублікі з Расіяй і перспектывы партнёрства будучага расійска-беларускага саюза з Захадам.

У сваіх публікацыях Марцін Сіф коратка знаёміць амерыканскіх чытачоў з гісторыяй Беларусі, адзначыўшы шэраг дзяржаўных і культурных дасягненняў нашага народа, а таксама яго векавое імкненне да незалежнасці. Менавіта як жаданне захаваць і ўмацаваць суверэнітэт нашай рэспублікі ва ўмовах эканамічных цяжкасцей, звязаных з пераходам да рынкавай эканомікі, практычна поўнай адсутнасцю карысных выкапняў і энергетычных рэсурсаў, расцэньвае аўтар апошні крок Прэзідэнта і ўрада рэспублікі. Дасягнутыя дагаворанасці з Расіяй, на думку амерыканскага журналіста, дадуць магчымасць Беларусі замацавацца на вялікім расійскім рынку, а стварэнне мытнага саюза з Казахстанам і Кыргызстанам — істотна расшырыць тавараабарот.

У сувязі з гэтым закранута і пытанне развіцця адносінаў Беларусі з заходнімі партнёрамі. Аднаасна, што «хоць заходнія кампаніі вядуць перагаворы з урадам аб будаўніцтве заводаў на тэрыторыі краіны, яны ў той жа час чакаюць моманту, калі запрацуе мытны дагавор». Становіча расцэнены аўтарам намаганні Беларусі, накіраваныя на дыверсіфікацыю экспарту, а таксама ўстойлівы рост тавараабароту паміж нашай рэспублікай і заходнімі краінамі.

Беларусь, як заўважае амерыканскі аглядальнік, мае шэраг пераваг — кампактнае размяшчэнне на карце Еўропы, развітую транспартную і тэлекамунікацыйную інфраструктуру, перадавыя тэхналогіі і кваліфікаваную рабочую сілу. Актыўнае выкарыстанне пераваг рэспублікі пры ажыццяўленні разумнай знешняй палітыкі, на яго думку, дасць магчымасць Беларусі абагнаць многія посткамуністычныя краіны ў правядзенні эканамічных пераўтварэнняў.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

*НАРОДНЫ КАЛЯНДАР*

## КРАСАВІК

Руская назва гэтага месяца — **апрель** (гэтак жа як і французскі, англійскі, нямецкі варыянты) паходзіць ад лацінскага aprilis, што значыць «адчыняць». Старажытныя рымляне лічылі, што ў гэты месяц адчыняліся дзверы вясны.

Беларусы назвалі гэты месяц ад слова **«красаваць»**. Другая назва, якая захавалася ў старажытнай літаратуры, — **«квецень»**. Такая форма існуе і сёння ў польскай і ўкраінскай мовах.

**4. Васіль Сонечнік.** «Васіль Сонечнік ледзяшы са стрэх збівае».

**5. Арына (Ірына)** — «На Арыну сей капусту ў расаду».

**6. Дабравеснік** — пярэдадзень праваслаўнага Дабравешчання. У гэты дзень не дазваляцца снаваць кросны пад пагрозай, што можна «заснаваць дождж» на ўсё лета. У некаторых раёнах Камаедзіца — язычніцкае свята пакланення мядзведзю.

**7. Праваслаўнае Дабравешчанне (Звеставанне).** У многіх раёнах — свята прылёту бусло, пачыналі гукаць вясну. У гэты дзень забаранялася гарадзіць плот, убіваць у зямлю колле, пачынаць сяўбу, выганяць першы раз кароў, вывозіць гной. Сёлета — каталіцкі Вялікдзень і праваслаўная Вербніца.

**14. Прабуджэнне дамавіка.** У гэты дзень нібыта прабуджаўся дамавік, таму трэба было хлусіць, каб забылася яго. Сёлета — праваслаўны Вялікдзень.

**23. У каталіцкіх святках — Войцех.** «Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху». Сёлета — Радаўніца.

**24. Анціп** — ахоўнік зубоў. Святкаваўся тым, у каго часта балелі зубы.

**30. Зосім** — апякун пчол. Калі сонца ўзыдзе ясна — будзе сухое лета, калі праз хмары — дажджлівае.

*РЭПЛІКА*

## ТЫДНЁВІК «НЕ» ДЗЕЛІЦЬ ЗЕМЛІ. ГЭТА НЕДАРЭЧНЫ ЖАРТ — ЛІЧАЦЬ У БЕЛАРУСКІМ МЗС

**28 сакавіка скандальна вядомы штотыднёвік «Не» Ежы Урбана надрукаваў сваю версію бачання таго, як будзе вырашацца праблема «калідора» з Беларусі ў Калінінградскую вобласць.**

Сутнасць артыкула Пятра Гадзіноўскага «Пастка Прымакова» у тым, што аўтар сцвярджае аб існаванні плана абмену землямі паміж Польшчай і Беларуссю-Расіяй: доўгай вузкай палоскі польскай тэрыторыі ўздоўж літоўскай мяжы на горад Гродна з ваколіцамі. Паводле інфармацыі «Не», гэты план прывёз польскаму прэзідэнту расійскі міністр замежных спраў Яўген Прымакоў, — прычым як быццам ідэя гэта існавала яшчэ ў 1993 годзе. Штотыднёвік «Не» аргументуе гэты план абмену тэрыторыямі вялікай важнасцю для мілітарызаванай Калінінградскай вобласці камунікацыйнага калідора, з другога боку — настальгічнымі пачуццямі палякаў да Гродна, горада з мноствам касцёлаў і вялікай гістарычнай спадчынай. Беларусь як суверэнную дзяржаву часопіс «Не» не прыняў, а падае яе толькі ў звязцы «Беларусь-Расія». Аўтар «Не» іранічна піша, быццам бы пасол Расіі Кашлеў жартаваў на гэты конт: аддалі б вам (палякам) за калідор Вільню ці Львоў, але, на жаль, гэтыя гарады нам не належаць...

Цяжка сказаць, ці прыведзены ў гэтым артыкуле рэальныя факты, ці гэта сапраўды першакрасавіцкі жарт, як ахарактарызавалі яго ў беларускім МЗС. Відавочна, што як жарт успрымаюць яго і сур'ёзныя польскія кіраўнікі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЗА ШТО ПРАГНЕВАЎСЯ БОГ?

**Светлае свята Вербніцы ледзь не стала трагедыяй для каталіцкіх вернікаў у вёсцы Волма Дзяржынскага раёна.**

У час набажэнства над галовамі людзей пачуўся трэск, і яны з жахам заўважылі, што столь пачынае асядаць. Уцякаць было позна, і адзінае, што прыхаджане паспелі зрабіць, — папрыціскацца да сцен. Гэта іх выратавала, бо праз хвіліну столь абрынулася разам са страхой і снегам, што назбіраўся на імправізаваным касцёле — былым школьным спартзале — за доўгую зіму.

На шчасце, абышлося без ахвяр. Цяпер людзі гадаюць, за што прагневаўся Бог: ці за агульнанацыянальныя грахі, ці проста за нядбайнасць, з-за якой своечасова не скінулі снег са страхі.

**Наш кар.**



## СЛОВА Ў АБАРОНУ МОВЫ СКАЗАНА, АЛЕ ЦІ ПАЧУЮЦЬ ЯГО?

**Больш за пяцьдзесят грамадскіх, палітычных і культурных арганізацый, занепакоеных лёсам беларускай мовы, правялі 30 сакавіка пад эгідай Таварыства беларускай мовы нацыянальную навуковую канферэнцыю ў Доме літаратара.**

У выступленнях дакладчыкаў была дадзена гістарычная, палітычная і лінгвістычная ацэнка становішча, у якім аказвалася беларуская мова ў розныя перыяды развіцця дзяржавы і грамадства.

Усе, хто выходзіў на трыбуну канферэнцыі, былі аб'яднаны адным жаданнем: надаць беларускай мове ва ўсіх сферах жыцця грамадства дастойны статус, вызначаны ў Канстытуцыі Беларусі як дзяржаўны. Прапаноўваліся розныя шляхі далейшага развіцця сучаснай беларускай мовы, адзначалася неабходнасць у актыўнай яе прапагандзе сярод студэнцтва, школьнікаў, на вытворчасці, у сродках масавай інфармацыі і сярод вернікаў розных канфесій. Удзельнікамі канферэнцыі прыняты звароты да Старшыні Вярхоўнага Савета, дэпутатаў парламента, урада краіны, а таксама да вернікаў хрысціянскіх канфесій у Беларусі. У рэзалюцыі канферэнцыі ў ліку першачарговых запісана патрабаванне аб стварэнні бесперапыннай сістэмы беларускамоўнай адукацыі — ад дзіцячага садка да ВНУ, аб забеспячэнні выдання падручнікаў на беларускай мове па ўсіх дысцыплінах і для ўсіх тыпаў навучальных устаноў.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

АСОБЫ

# ДОКТАР АЙБАЛІТ

Першы раз у дзіцячай уралогіі чацвёртай клінічнай бальніцы я пабывала некалькі месяцаў таму, у снежні. Тады зрабілі аперацыю майму сыну-падлетку. Сын паправіўся і выпісаўся. А я была ў аддзяленні яшчэ некалькі разоў. На навагодняй ёлцы, а потым і проста так, бо нечакана знайшла там добрых сяброў. Але што казаць — журналісцкі лёс такі, што ўсё цікавае, незвычайнае адкладваецца ў памяці, а потым і на паперы. І ўзнікае жаданне расказаць аб тым, што не хочацца насіць толькі ў сваёй душы.

Уралогія — адна з самых чалавечных галін медыцыны. І тым больш — дзіцячая уралогія. Патлумачу чаму. Урачы-уролагі здольны зрабіць чалавека шчаслівым у асабістым жыцці. Многа гадоў нам усім унушалі, што мы павінны будаваць светлую будучыню. І неяк было не прынята гаварыць аб тым, што чалавек у першую чаргу павінен пабудаваць сваю ўласную сям'ю, быць шчаслівым мужам ці жонкай.

Больш за трыццаць гадоў таму, калі загадчык аддзялення дзіцячай уралогіі Аляксандр Апцешка пачынаў свой прафесіянальны шлях урачом раённай бальніцы, юнакоў з анамаліямі палавой сістэмы спісвалі ў інваліды. Так і жылі яны ў далёкіх вёсках бабылямі, не мелі магчымасці абзавесціся сем'ямі, дзецьмі. А значыць — паламаныя лёсы, асабістыя драмы. Уралогія — гэта ж не толькі хворыя ныркі, гэта куды больш шырокая сфера медыцынскай практыкі. Зараз усе гэтыя праблемы вырашаюцца ў дзіцячым узросце, а бывае, што і немаўля аперыруюць, калі ўзнікае такая неабходнасць. І праз дзесяць—пятнаццаць гадоў Аляксандр Дзмітрыевіч і яго калегі атрымліваюць удзячныя лісты. А некаторыя былыя пацыенты аддзялення становяцца студэнтамі медінстытута, а потым і ўрачамі.

Дзіцячая уралогія — адно з самых маладых аддзяленняў у бальніцы, яму крыху больш за дваццаць гадоў. Загадчык аддзялення працуе тут з самага першага дня. За гэты час тысячы дзяцей прааперыраваны — ад Калінінграда да Камсамольска-на-Амуры. Наша уралогія і да цяперашняга часу лічыцца адной з лепшых у былым Саюзе, калі не самай лепшай. Нямала такіх выпадкаў, калі складаная аперацыя праводзіцца ў тры-чатыры этапы і ўрачы даводзяць сваю справу да канца.

Аляксандр Дзмітрыевіч лічыць, што пасля аперацыі патрэбен уважлівы догляд. Дзеці да трох гадоў лечацца ў аддзяленні разам з мамамі. І, дзякуй Богу, мамы не гатуюць сабе ежу на электрычных плітках. Гэтае пытанне было вырашана некалькі гадоў таму з дапамогай дэпутата Вярхоўнага Савета. А каля года назад у аддзяленні з'явілася і свая рэанімацыйная палата. Раней дзяцей захутвалі ў коўдры і везлі ў рэанімацыйнае аддзяленне ў другім корпусе. Былі ўскладненні, пасляаперацыйныя пнеўманіі. Зараз усё гэта зведзена да мінімуму.

Раней амаль у кожным артыкуле пра ўрачоў гучала сакраментальная фраза — «ён (або яна) з дзяцінства марыў стаць урачом». Абцешка, вясковы хлопец, сын каваля, меркаваў звязаць свой далейшы лёс з працай на зямлі, стаць аграномам. Але, ужо будучы выпускніком школы, вырашыў паступаць у медінстытут. Спадабалася назіраць за працай мясцовых урачоў — была ў вёсцы невялікая амбулаторыя. А можа, не сціхала боль па рана пайшоўшай з жыцця маці — у першы год вайны, калі хаваліся ад немцаў у балоце, яна цяжка захварэла і памерла. Як бы там ні было, з некалькіх сяброў, што прыехалі паступаць у Мінскі медінстытут, экзамены вытрымаў ён адзін. І трымае іх усё жыццё — перад сабой, перад хворымі. У кабінеце Аляксандра Дзмітрыевіча — падшыўкі навуковых часопісаў па уралогіі і нефралогіі за трыццаць чатыры гады. Усе акуратна падшыты і пераплецены. Хаця, здавалася б, важней за ўсё багатая практыка.

А больш за ўсё падчас візітаў у дзіцячую уралогію мяне ўразіла тое, што тут урачам, і Аляксандру Дзмітрыевічу ў першую чаргу, прысвячаюць... вершы. Іх пішуць бацькі хворых дзяцей. А адзін яго добры сябар, прадстаўнік зусім іншай прафесіі, прысвяціў яму нават паэму. Нам бы, пішучым людзям, знаходзіць для сваіх твораў столькі шчырых слоў, колькі ў гэтай паэме. Прысвечана гэтая паэма дню нараджэння, якое ў Аляксандра Дзмітрыевіча ў сакавіку. Круглая дата.

Аляксандр Дзмітрыевіч Апцешка — галоўны дзіцячы уролаг рэспублікі, праводзіць складаныя аперацыі і ў абласных бальніцах, кансультуе калег па сучасных пытаннях медыцынскай практыкі.

У заключэнне — маленькі сакрэт. Майго сына апераваў зусім іншы хірург, і сустрэча з Аляксандрам Дзмітрыевічам, дыялог з ім адбыліся праз некалькі месяцаў. Проста ў час майго першага візіту ў бальніцу прозвішча загадчыка аддзялення маці хворых дзяцей вымаўлялі паважлівым шэптам. Ён быў для іх ледзь не самім Госпадам. І так захацелася даведацца чаму...

**Ала ШАЎЦОВА.**

# ЦІ ДАПАМОГУЦЬ НЕВІДУШЧЫМ ВІДУШЧЫЯ?

30 гадоў таму ў рэспубліцы была заснавана студыя для агучвання твораў сусветнай, у тым ліку, вядома ж, беларускай і рускай літаратуры. Светлым акенцам у недаступныя раней абсягі назвалі новую справу тысячы людзей, пазбаўленых зроку. І сапраўды, справа распачата была высакародная: далучыць невідушчых да багатага духоўнага свету, прыгожага пісьменства, а таксама да таямніц навуковага пазнання.

Не хачу сказаць, што «пераклады» на пісьмовую мову сляпых не існавалі ў прыродзе раней. Мала каму, тым больш ім самім, не вядома імя Брайля — чалавека, які прыдумаў азбуку, што дазваляе чытаць на дотык, з дапамогай кончыкаў пальцаў. Аднак такі, ледзь не асноўны, спосаб перадачы інфармацыі моцна звужае магчымасці яе атрымання, асабліва пры азнаямленні з масівам мастацкай і навуковай літаратуры.

Калектыў Дома гуказапісу прыняў сваю задачу блізка да сэрца. Не адразу ўсё наладзілася, але так ці інакш задума была рэалізавана, і першыя, хай сабе і не зусім дасканалыя, аўдыёзапісы былі зроблены.

З прыходам сюды ў 1990 годзе новага дырэктара, Панцялея Панцялеевіча Чугаеўскага, справа набыла другое дыханне. Старое абсталяванне замянілі на больш сучаснае, з бабін перайшлі на выпуск кампактных аўдыёкасет.

Сёння прадпрыемства «Гукатэкс» (Дом гуказапісу) — і сапраўдная лабараторыя, і фабрыка, якая дае жыццё тысячам касет, і, такім чынам, робіць больш камфортным жыццё мноства людзей.

Для цяперашняга дырэктара яго работа зусім не пасада, а тое, чым ён жыве. Страціўшы зрок у пяцігадовым узросце, Панцялей Панцялеевіч прайшоў праз усе нягоды жыцця інваліда па зроку, як завуцца невідушчыя ў афіцыйных дакументах і ўстановах. Адно, што не дадзена было яму, гэта пакорнасць перад воляй лёсу. Ён за сем гадоў скончыў у Шклове васьмігодку, затым вучыўся ў Ленінградзе. Пазней у Мінску — у інстытуце народнай гаспадаркі, у якім ён праходзіў курс навук нароўні з тымі, хто на зрок не скардзіўся. Ён сам друкуе на машынцы, гуляе ў шахматы... Вядома, кожная заваяваная прыступка ўгору давалася яму з найвялікшым напружаннем сіл, намнога цяжэй, чым любому з нас.

Навошта гэта апісваю? Каб лепш можна было зразумець, з якім чалавекам маем мы справу, усвядоміць яго шчырасць, адданасць свайму выбару, сілу духу і жаданне дзейнічаць.

На жаль, нашы жаданні далёка не заўсёды ўкладваюцца ў межы магчымасцей. Ва ўмовах жа сённяшняга існавання гэта азначае і рэзка абмежаванае фінансавае і матэрыяльнае забеспячэнне. Ды накладваюцца на гэта яшчэ і суб'ектыўныя абставіны, пра якія ішла размова вышэй.

Гэта нават не просьба Панцялея Панцялеевіча. У просьбе, як кажуць, прысутнічае сляза. Тут яе няма. Гэта хутчэй дзелавая прапанова, ідэя, якая чакае ўвасаблення. Сутнасць яе ў наступным: разгарнуць выпуск універсальных, прыгодных для любога магнітафона двухдарожкавых касет з адпаведнымі запісамі. Гэта цалкам магчыма і, хаця і дарагавата, але, лічыць П. Чугаеўскі, акупіцца вельмі хутка. Пры ажыццяўленні гэтай ідэі можна значна папоўніць фанатэчны фонд не толькі бібліятэк для невідушчых, але і пачаць стварэнне аналагічных фондаў наогул ва ўсіх бібліятэках рэспублікі.

Касета займае месца менш за кнігу, тым больш такую груваcткую, як выкананую з прымяненнем брайлеўскага шрыфту. Варта лічыцца і з тым, што паўсюдна ў свеце ў сувязі з развіццём электронных СМІ назіраецца татальнае падзенне цікавасці да чытання.

На думку П. Чугаеўскага, на тавар «Гукатэкса» знойдзецца нямала ахвотнікаў. Значыць, попыт забяспечаны. І людзі з «Гукатэкса» гатовы ўзяцца за гэту справу, калі б не адна закавыка: няма першапачатковага капіталу для разгортвання масавай вытворчасці. Хаця адпаведная пастанова, прынятая ва ўладных эшалонах, быццам бы ёсць.

Між тым, падкрэслівае П. Чугаеўскі, матэрыяльная падтрымка прадпрыемства, якое штомесяц дае на 50 млн. рублёў прадукцыі, нібы донарская кроў паспрыяла б паступоваму ажыўленню вытворчасці. «Гукатэкс», хай напачатку ў невялікіх маштабах, мог бы забяспечваць фанатэкі кнігасховішчаў у сталіцы і абласных цэнтрах рэспублікі, а таксама пускаць касеты ў вольны продаж, што будзе не ва ўрон і дзяржаве.

Больш таго, наваполацкі завод «Вымяральнік» гатовы зрабіць па заказу «Гукатэкса» тыражавальныя лініі з разлікам на любую колькасць касет. Такім чынам, і з гэтага боку чакаецца двайная карысць, бо ўключыцца ў работу і калектыў завода, які месяцамі прастойвае. Пры гэтым адпадзе неабходнасць буйнамаштабнага імпарту касет. Наадварот, можна было б экспартаваць нашу прадукцыю. Ужо сёння Ізраіль просіць паставіць пробную партыю прадукцыі «Гукатэкса». І калі яна акажацца на патрэбным узроўні якасці, а П. Чугаеўскі спадзяецца, што менавіта так і будзе, дык можна разлічваць і на пастаяннае супрацоўніцтва з замежжам.

**Раальд ЛЕВІН.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...НЕ ЗДАЦЬ ШКЛАТАРУ

Кожнага, хто выдзіраўся (а не выходзіў) з гэтых абадраных дзвярэй з пустой гаспадарчай сумкай, сустракалі воклічам: «О, шчаслівец, здаў!» Толькі, заўважу, вытрымаў ён не выпускны экзамен за дзесяцігодку ці ўступны ў ВНУ, а здаў... шклатару.

І, як правіла, да такога «абітурыента» падбягаў хто-небудзь з найбольш нецярплівых і пытаўся:

— Скажыце, а што там прымаюць?

— Усё і — нічога, — чуўся задаволена-раўнадушны адказ.

Добраахвотныя пасланцы-парламентарыі, таксама праз нейкі час вярнуўшыся на сваё месца ў даўжэзную чаргу, ніякіх новых вестак не прыносілі. Яны нездаволена пацвярджалі, што ўвогуле, акрамя бутэлек 0,7 л, прымаюць увесь посуд, але робяць гэта так неахвотна, так марудна, што здаць яго няма ніякай надзеі.

Тым не менш, усе стаяць спакойна і раўнадушна ў чарзе, хоць яна не кранаецца з месца. І гэта ў той час, калі спачатку толькі зацерушыў, а потым і пасыпаў густы мокры снег (было гэта 27 сакавіка).

У любой справе, а тым больш у бясконцай чарзе, заўсёды знаходзяцца людзі, якія шукаюць і знаходзяць розныя пралазы. Так і тут. Аказваецца, у тым жа прыёмным пункце можна здаць шклатару з «чорнага ходу». І сёй-той, даведаўшыся аб гэтым, падаўся туды. Неўзабаве кожны з іх вяртаўся з пустой сумкай і адно кідаў насмешлівы позірк на чаргу: маўляў, а вы, дурні, стойце. Як высветлілася, з «чорнага ходу» прымалі посуд з адной умовай: за кожную бутэльку плацілі на 200 рублёў менш яе сапраўднага кошту. Можна ўявіць, які «навар» мелі гэтыя прыёмшчыкі за дзень.

Мой сусед, каб доўга не важдацца са сваёй тарай, таксама падаўся ў другую чаргу. Але неўзабаве вярнуўся і паведаміў, што нічога ў яго не выйшла, бо на гарызонце замаячылі два міліцыянеры, і «падпольны» прыём спынілі. Толькі гэта былі работнікі ДАІ і ніякага дачынення да прыёмнага пункта яны не мелі. Такім чынам, там зноў адразу запрацаваў дадатковы канвеер. А тым часам чарга стаяла і тупала амаль на адным месцы. Прыкладна за 40 хвілін мы прасунуліся на ... паўметра. Для таго, каб «узяць» кожную прыступку ганка і нарэшце апынуцца ў памяшканні прыёмнага пункта, спатрэбілася не толькі шмат часу, але і літаральнага стальнога цярпення. І людзі гэта вытрымалі. Але, на жаль, не ўсе.

Сапраўды, у некаторых здатчыкаў здаюць нервы. І тады разыгрываюцца драмы, якія не ўбачыш нават на тэатральнай сцэне. Вось заходзіць інвалід у капелюшы, у якога замест правай рукі сагнутая кукса, і спрабуе здаць тару без чаргі. І на яго, бядотнага і бездапаможнага, літаральна ідуць у атаку, адцягваюць. І ён маўкліва адступае, не ведаючы, што яму рабіць, ад каго чакаць хоць нейкай спагады.

А тут з'яўляецца маладая жанчына з сумкай праз плячо і спрабуе ўціснуцца ў чаргу. Яе, зразумела, не пускаюць, выцясняюць, хоць яна вельмі просіць, каб ёй дазволілі здаць некалькі бутэлек. (Не ведаю, як хто, а я, калі б падыходзіла мая чарга, яе абавязкова прапусціў бы перад сабой.) Толькі яе бесцырымонна вырвалі з чаргі, і першы, хто наляцеў на яе, быў інвалід, які перад яе тварам пачаў размахваць сваёй знявечанай куксай, пагражаючы ўдарыць гэту кабету. Каб вы толькі бачылі і чулі, што тут ўсчалося. Яна адрасавала ўсім прысутным, і перш-наперш свайму крыўдзіцелю-інваліду такія праклёны, што ад іх маглі нават вушы ў трубачку скруціцца. Праз хвіліны дзве-тры бачыў я, як гэта да глыбіні душы пакрыўджаная жанчына размахвала рукамі, нешта тлумачачы сыну, і горка плакала. Паверыце, мне яе было вельмі шкада. Магчыма, ёй не хапала некалькіх тысяч, якія яна магла атрымаць за здадзеныя бутэлькі, на буханку хлеба ці на бутэльку малака — хто яе ведае, на што. Адно разумею: не ад добрага жыцця яна так прасіла, і тое, што яе не прапусцілі, было не па- людску, проста бесчалавечна. І якраз у гэты момант зайшла старэнькая жанчына і пацікавілася, што прымаюць. І тут на яе адразу накінуліся: «Ты што, не бачыш, ці ў цябе павылазіла, куды прэшся без чаргі?»

Ад пачутага яна зніякавела і адно, кінуўшы позірк на чаргу, сказала: «Вы людзі ці звяры? Я не чую і не бачу, я толькі хацела спытаць»

Варта зазначыць, што ў гэты дзень двойчы прыязджалі машыны, якія забіралі посуд ці прывозілі тару, і на афармленне дакументацыі каторы раз ішло амаль паўгадзіны. І тут узнікае заканамернае пытанне. На любы завод, фабрыку таксама прывозяць сыравіну, абсталяванне, адсюль забіраюць гатовую прадукцыю, але ж у гэты час прадпрыемства не спыняе сваёй работы, усе цэхі працуюць. Скажыце, хто выдаў такую інструкцыю работнікам прыёмных пунктаў шклатары, што яны ў свой рабочы час спыняюць абслугоўванне насельніцтва, каб адгрузіць посуд ці прыняць прывезеную тару? Рэгулярна ж праводзяцца «санітарныя дні», можна, нарэшце, вызначыць канкрэтныя гадзіны для адгрузкі посуду і прыёму тары, аб чым паведаміць людзям, каб яны дарэмна не тоўпіліся ў гэты час. На жаль, гэтага не робіцца.

А ў прыёмным пункце тым часам стварылася яшчэ больш напружаная сітуацыя: прыёмшчыца аб'явіла, што ў яе засталося толькі 100 тысяч рублёў і ў 14.00 яна заканчвае сваю работу. Маўляў, не стойце дарэмна і нясіце свой посуд дамоў — не прыме ні ў кога больш ні воднай бутэлькі. І, паверыце, усе прымірыліся з такой аб'явай.

А што аказалася ў рэчаіснасці? Двое «заснежаных» дзяцюкоў з велізарнымі сумкамі ў гэты час нахабна зайшлі з «чорнага ходу», на вачах у чаргі здалі тару і атрымалі за яе грошы, якія ўжо былі на зыходзе. І тады мой сусед па чарзе, праціснуўшыся да акенца, прад'явіў чырвонае пасведчанне інваліда і заявіў:

— Я не панясу сваю тару назад, вы абавязаны яе ў мяне прыняць.

Па яго прыкладу і я тыцнуў прыёмшчыцы пад нос сваё «звяздоўскае» пасведчанне з тлумачэннем, што, маўляў, стаю з 10 гадзін і бачыў, што творыцца, які тут беспарадак. І, ведаеце, толькі пасля гэтага нам шпурнулі скрынкі...

**Іван БРАЛКА.**

**АД АЎТАРА:**

**Магчыма, я не пісаў бы гэтага рэпартажа з прыёмнага пункта, што знаходзіцца на рагу вуліц К. Чорнага і Калініна (дарэчы, ніякай шыльды з распарадкам работы тут няма), калі б такое бязладдзе з прыёмам посуду было толькі тут. На вялікі жаль, тое ж самае творыцца амаль ва ўсіх прыёмных пунктах сталіцы. Карыстаючыся бескантрольнасцю з боку сваіх вышэйшых структур, іх работнікі твораць што хочуць. Па заніжанай цане, а то і за палову кошту прымаюць любы посуд, знаходзячы і грошы, і тару.**

**Аказваецца, такое становішча не толькі ў Мінску. Ля прыёмных пунктаў людзі стаяць у чэргах, якія яны займаюць з самага вечара. (Усю ноч паляць вогнішчы, каб сагрэцца. «Але мясцовыя ўлады гэта не турбуе» — піша рабочы ВА «Беларуськалій» Уладзімір Ларыёнаў з г. Салігорска.**

**«Звязда» неаднойчы ўзнімала гэта набалелае пытанне. Аднак яно не вырашана і па сённяшні дзень. Міністэрства гандлю адмахнулася ад яго і спаслалася на Міністэрства эканомікі, якое таксама пакуль не прыняло канкрэтных мераў.**

**В. а. дырэктара арэнднага прадпрыемства «Ветра-Т» (былой «Белтары») А. Сабалеўскі паведаміў рэдакцыі, што асноўнай прычынай з'яўляецца адсутнасць неабходных грашовых сродкаў для прыёму посуду і набыцця тары.**

**Пастаўлена пытанне перад кіраўніцтвам гандлю і вышэйшымі інстанцыямі аб павелічэнні адлічэнняў прадпрыемствамі з 8 да 25 працэнтаў або пераходу на свабодныя цэны.**

**Гэта дасць магчымасць павысіць рэнтабельнасць шклатарных пунктаў і арганізаваць іх рытмічную работу.**

**Дык у чым справа? Так і рабіце. Няўжо вам трэба лішні раз напамінаць, што людзі не толькі купляюць любую вадкасць у шкляным посудзе, але і нясуць яе ў прыёмныя пункты...**

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 13 (32)

**ДЕРЕВООБРАБАТЫВАЮЩИЕ СТАНКИ ИНСТРУМЕНТ**

ЭСА
(0172) 75-31-03
(0172) 75-13-51
Факс 75-14-02

SKYGROUP

**"ИнтерБелсервис"**

РЕАЛИЗУЕТ
запчасти к двигателям ЯМЗ,
КПП, КПП с делителем,
двигатели ЯМЗ,
запчасти к автомобилям МАЗ.

ТЕЛ./ФАКС (0172) 427-330

***РЕАЛИЗУЕМ ПО САМЫМ НИЗКИМ ЦЕНАМ СО СКЛАДА В Г. МИНСКЕ***

- **посуду одноразовую производства США;**
- **полистирол;**
- **пластикат кабельный;**
- **соду кальцинированную;**
- **хлорку;**
- **лодки резиновые.**

Контактные телефоны в г. Минске: 21-57-18 (факс), 21-70-35.

## ПРАДАЕЦЦА

• **ДОМ** з гаспадарчымі пабудовамі, гараж, водаправод, тэлефон, 3 км ад г. Вілейкі.
Тэл. (8-01771) 42-3-84;

• **ТРАКТАР-ПАГРУЗЧЫК ДТ-75** — 1700 доларaў; лес абразны на дом, дошкі;
Лунінецкі раён, в. Радзігірава, тэл. 97-3-90, Вова;

• **ДОМ ДРАЎЛЯНЫ,** 87 кв. м., з усімі выгодамі, сад, гараж і іншыя пабудовы. г. Рагачоў, тэл. (8-239) 2-29-12;

• **НЕДАБУДАВАНЫ ЦАГЛЯНЫ ДОМ** з гаспадарчымі пабудовамі ў г.п. Лельчыцы Гомельскай вобласці. Тэл. 2-12-03;

• **ПРЫЧЭП** да УАЗ, 1,5 т/грузападымальнасці — 400 доларaў, тэнт і іншыя запчасткі да УАЗ. г. п. Воранава, тэл. 22-4-94; 21-9-24;

• **ДОМ ДРАЎЛЯНЫ** з гаспадарчымі пабудовамі і садам у Ганцавіцкім раёне, в. Кукава.
Тэл. (0172) 64-49-91 пасля 18 гадзін;

• **ЗРУБ ДРАЎЛЯНЫ** 9x11 з бэлькамі, кроквамі і інш. па нізкай цане.
Тэл. у Слоніме 71-2-43;

• **ДРАЎЛЯНЫ ДОМ** у добрым стане у в. Жабчава Капыльскага раёна. Звяртацца: в. Баравая Салігорскага раёна, Клімовіч А. У.;

• **ДАЧА,** 9 сотак, шчытавы дом 15 кв. м, вада, дрэвы, кусты, 25 км ад Мінска, раён Вячы.
Тэл. (0172) 78-45-78;

• **ДОМ** 43 кв. м з гаспадарчымі пабудовамі за 7 км ад Браслава.
Пісаць: 211970, г. Браслаў, а/с 28;

• **ДОМ** у Свіслацкім раёне 6x9 з надворнымі пабудовамі.
Тэл. у Навагрудку 2-11-44;

• **КАЛЯСКА** інвалідная для выкарыстання ў кватэры, 80 доларaў.
Тэл. (0172) 34-43-02;

• **ДОМ** з участкам 12 сотак у цэнтры Іванава Брэсцкай вобласці — 12.500 доларaў.
Тэл. у Клецку 55-0-69;

# ЁСЦЬ ТАВАР, ДАСТУПНЫЯ ЦЭНЫ.

## Вашы прапановы, дачнікі!

**Шмат гаворкі ідзе пра «рыначны сацыялізм». Маўляў, добра ўсім: хто прадукцыю выпускае, хто яе рэалізуе і хто набывае. Але ў гэтым ланцужку заўжды «апошнім» застаецца пакупнік. Пакуль тавар дойдзе ад, скажам, заводскіх варот да сям'і, розныя дзялкі такія «накруцяць» нацэнкі, што дзіву даешся.**

**А між іншым прыбытак можна мець і ад невялікай нацэнкі. Скажам, 10—15 працэнтаў. Але тут ужо неабходна праявіць такія якасці, як дасканалае веданне патрэб спажыўца, яго магчымасцей, ступень рэкламаванасці. Цэны нізкія, але прадаваць удвая ці ўтрая больш — вось крытэрый гэтых, без перабольшання, сапраўды дзелавых людзей.**

**Здаецца, падобнымі якасцямі спаўна валодаюць спецыялісты сістэмы сельгасхіміі. У Мінску і ў некаторых раёнах і гарадах Беларусі адкрыліся фірменныя магазіны па гандлю аграхімічнымі сродкамі. З намеснікам начальніка ўпраўлення рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгасхімія» Мікалаем Яфімчыкам наша гутарка.**

— **Мусіць, цяжка было ўвайсці ў гэта супярэчлівае гандлёвае асяроддзе, Мікалай Васільевіч?**

— Ведаеце, нас падштурхнула кіраўніцтва рэспублікі. Памятаеце, колькі разоў Прэзідэнт заклікаў арганізаваць неграбежніцкі гандаль? Прыкінулі, падлічылі, спыталі мясцовых спецыялістаў і стварылі сваю сістэму магазінаў. Галоўнае тут — даступныя цэны. Калі не здужаем прадаваць тавары на чвэрць ці на трэць танней, то, як кажуць, стрэльбу ў зямлю і пайшлі дадому.

Мы працуем з самым пакрыўджаным лёсам чалавекам — пенсіянерам-дачнікам. Яго і так будзённасць абдзяліла. Што — дабіваць?

Паглядзіце на вітрыну нашага магазіна. Трохкілаграмовыя пакеты карбаміду (мачавіны) каштуюць на сённяшні дзень 12 тысяч рублёў, суперфасфату — 13.100, складанага элемента (азот плюс фосфар плюс калій) — 16.600. А сульфат амонію і хлорысты калій і таго меней, адпаведна 5.800 і 6.300. Скажыце, знойдзеце дзе-небудзь такія нізкія цэны?

Наша ініцыятыва дае выдатны эфект — іншыя арганізацыі, якія збывалі, скажам, трохкілаграмовы пакет больш як па 30.000 рублёў, рэзка апусціліся ў сённяшнюю рэчаіснасць. Цяпер і гаспадарчыя магазіны вымушаны прадаваць элементы сілкавання глебы па цэнах, якія вышэй за нашы ўсяго на 30—40 працэнтаў. Ведаеце, такой з'яве мы радуемся болей, чым лішняй прададзенай тоне.

— **Але ж у вас ёсць угнаенні, якія ніхто не прапаноўвае. Вось, напрыклад, вадкія падкормкі...**

— Сапраўды, па прыкладу замежных фірмаў, мы пачалі прадаваць вадкія канцэнтраты. Скажам, раствор для градкі агуркоў, клубніц, кветак.

У дастатковай колькасці ёсць прэпараты для барацьбы з каларадскім жуком, рознымі матылькамі ды вусенямі, узбуджальнікамі грыбковых хвароб — паршы, фітафторы, мучністай расы і іншых. Тут наш крытэрый такі: калі чалавек завітаў у краму — хай знойдзе ўсё, што хоча і што яму сёння патрэбна. Часта нашы прадаўцы (а гэта кваліфікаваныя спецыялісты) вымушаны даваць кансультацыі, раяць што лепш набыць, як выкарыстоўваць.

Вось, напрыклад, дэцiс. 100-грамовая шкляначка каштуе амаль 45 тысяч. Прэпарат замежны. Гэтай стограмоўкай можна знішчыць шкоднікаў (каларадскага жука, тлю, муху, вусяняў, матылькоў, іншых пачвар) амаль на дзесяці прысядзібных участках. Падзяліце суму на дзесяць ці пяць — зусім іншая справа. Пра гэта і гавораць нашы спецыялісты.

— **Цэлы аддзел прадстаўлены вопраткай і абуткам. І зноў нізкі кошт.**

— Мы закупляем падобную прадукцыю толькі на прадпрыемствах. Пасрэднікаў мінаем. Спартыўныя касцюмы (у іх якраз зручна працаваць на дачах) каштуюць 70.000. Можна набыць асобна кашулі, світэры, штаны, шапачкі, гумавыя боты для школьнікаў, гаспадарчыя рукавіцы, мяшкі, шампуні, мыла (у тым ліку гігіенічнае з Літвы), парашкі для мыцця бялізны, розныя па прызначэнню пасты.

— **Вы прадаяце цвікі менш чым па 10.000 рублёў. Не станеце банкрутамі? Усе наракаюць на высокі кошт жалеза...**

— У Лагойску на нашым прадпрыемстве наладжаны выпуск цвікоў. Аказваецца, і метал не такі дарагі, як гэта спрабуюць прадставіць. Відаць, асартымент гэтай «жалезнай» прадукцыі пашырым.

Зрэшты, да супрацоўніцтва запрашаем і іншыя арганізацыі, прыватных асоб, якія прадаставяць нам на камісійных асновах якасную і, вядома ж, танную прадукцыю. Выгада тут двухбаковая. І звяртацца не толькі ў Мінск, але і ў мясцовыя нашы арганізацыі. Вас выслухаюць і, упэўнены, зробяць як найлепш.

— **Мы ўсё гутарым пра індывідуальных пакупнікоў. А як быць калектыўным — калгасам, садаводчым кааператывам?**

— Групавыя здзелкі для нас больш выгадныя. Мы можам пайсці на зніжэнне, хоць і нязначнае, цэн, дастаўляць прадукцыю сваім траспартам. Толькі неабходна папярэдне дамовіцца і ўнесці перадаплату. Без гэтага нельга. І заяўка — не менш чым тона.

***Спецыяльна для калгасаў і саўгасаў ёсць у наяўнасці:***

Ацэтал — 55.690 руб./кг (бочка 194 кг), нітран — 46.192 руб./кг (бочка 95 і 190 кг), раўндап — 120.290 руб./л (каністра 10 л), вітавакс 200 фф — 121.950 руб./л (каністра 20 л).

***Чакаюцца паступленні:***

2,4-дамінная соль — 26.210 руб./кг (бочка 112 кг), агрытокс — 50.830 руб./л (каністра 10 л), тарга-супер — 154.675 руб./л (каністра 20 л), сумі-альфа — 118.105 руб./л (каністра 20 л), трэзор — 93.800 руб./кг (мяшок 5 кг), гезагард — 79.400 руб./кг (мяшок 20 кг), лантрэл — 513.450 руб./кг (каністра 5 л), гексілур — 170.650 руб./кг (мяшок 15 кг).

***Тэлефон 33-36-76.***

* * *

***Усе прапановы і заяўкі рады выслухаць і прыняць па тэлефонах у Мінску: 333-171, 332-383, 333-026, 331-818, 334-087, 330-905. Наш факс — 339-112, тэлетайп — 300117 «Фтор».***

***А адрас магазіна «Аграхімік» наступны: 220034, г. Мінск, вул. Чырваназорная, 8.***

# АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 164.** Аб сабе: Стралец, звычайнай знешнасці, інвалід II групы, абслугоўваю сябе сама, адукацыя сярэднеспецыяльная, баяністка, не замужам, пражываю ў сельскай мясцовасці, люблю маляваць, вырошчваю кветкі, небагатая. Шукаю спадарожніка жыцця без шкодных звычак, які марыць пра сапраўднае шчасце, любіць хатнюю ўтульнасць, здольны падтрымаць у любую хвіліну, спакойнага, разважлівага, нежанатага, пажадана гараджаніна, не маладзей за 40 гадоў. Асоб з месцаў зняволення і бамжоў прашу не пісаць.

**Аб. 2/165.** Пазнаёмлюся з мужчынам 48—50 гадоў, працаўніком, здаровым, які хоча пераехаць да нас ці мы да яго. Мне 41 год, і гады ўжо праходзяць. Рост 155, нашу акуляры. Вадалей, Каза, трое дзяцей, двое дарослых, сыну 10 гадоў. Хачу, каб быў маім абаронцам, апорай. Тых, хто п'е, і з месцаў зняволення прашу не пісаць. Адрас у рэдакцыі.

Магілёўская вобл. Л.

**Аб. 166.** Жанчына ва ўзросце 37 гадоў, рост 170, стройная, прывабная, замужам не была, дзяцей няма. Жыллём забяспечана. Жадаю пазнаёміцца з мужчынам да 45 гадоў з сур'ёзнымі намерамі для сумеснага жыцця, несудзімым. Пішыце: 246007, г. Гомель, а/с 29.

**Аб. 167**. Жадаю пазнаёміцца з самастойнай жанчынай з сур'ёзнымі намерамі для сумеснага жыцця, пажадана з сельскай мясцовасці. Пра сябе: 44 гады, сярэдняга росту, звычайнай знешнасці, шкодных звычак не маю, жыву ў сельскай мясцовасці, дзяцей няма. Падрабязней пра сябе паведамлю пры перапісцы. Міхаіл.

**Аб. 168.** 32/170/67. Маю прывабную знешнасць, вышэйшую медыцынскую адукацыю, жылплошчу ў Мінску. Беларус. Валасы цёмна-русыя, вочы — карыя. Не куру, не ўжываю алкагольных напояў. Жанаты не быў.

Шукаю прыгожую дзяўчыну 16—20 гадоў, ростам 145—168 см. Адкажу на пісьмо з фотакарткай.

Пісаць: 220103, г. Мінск-103, а/с 45. Андрэю.

**Аб. 169.** Пазнаёмлюся з прыгожай, добрай, стройнай жанчынай 37—42 гадоў, можна з дзіцем.

47/171/79, вышэйшая адукацыя, разведзены, без шкодных звычак.

Пісаць: Мінск-15, а/с 295.

*Паведамляем вам, што аб'ява аб знаёмстве ці пошуку сяброў з поўным зваротным адрасам каштуе 10.000 рублёў, а калі вам не выпадае назваць сябе ў друку, рэдакцыі трэба будзе заняцца перасылкай пошты для вас. У такім разе просім невялікую кампенсацыю за дадатковыя клопаты — 2000 рублёў (усяго 12.000). Калі вы хочаце атрымаць нечы адрас для перапіскі, мы паведамім яго бясплатна. Пакладзіце толькі разам з заяўкай падпісаны на сваё імя маркіраваны канверт. Грошы неабходна пералічыць на рахунак «Звязды» (р/р 3012210270016 у АКБ «Белбізнесбанк», МФО 739), а квітанцыю пакласці ў канверт разам з пісьмом.*

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Пазначце паштовае аддзяленне, якое дастаўляе Вам "Звязду".**

**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

**Ксеракопія купона не прымаецца.**

| *Наименование* | *Цена* | *Организация* | *Телефон* |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |

## БІЛЕТЫ ЛАТАРЭІ «ТВАЁ ЖЫЛЛЁ» РАСПАЎСЮДЖВАЮЦЦА ПА РЭСПУБЛІЦЫ

***Дзе можна набыць білеты латарэі «Тваё жыллё»? Ці будуць яны прадавацца ў іншых гарадах акрамя Мінска? Можа, іх можна атрымаць па пошце?***

**МУРАВЕЙКА А. А., РЫЛАЧ Н. В., ГАРГУН Г. В.,** *жыхары Лунінецкага раёна.*

Па пошце білеты латарэі высылацца не будуць. Але не спяшайцеся ўпадаць у роспач: у абласных гарадах і многіх райцэнтрах «шчаслівыя» білеты можна будзе набыць. Як паведаміла менеджэр фірмы «Цэнтрабуд» Ірына Бародкіна, тэрмін продажу білетаў скончыцца 25 красавіка. Сёння «птушку шчасця» могуць лавіць не толькі жыхары сталіцы, але і Брэста, Баранавіч, Гомеля, Маладзечна, Барысава. У хуткім часе гэты спіс папоўніцца. Білеты латарэі распаўсюджваюцца праз гандлёвую сетку, сістэму «Саюздруку», а таксама аддзяленні Белбізнесбанка. Ірына Бародкіна параіла звяртацца ў аддзяленні банка — там білеты з'явяцца хутчэй за ўсё. А яшчэ папрасіла папярэдзіць уладальнікаў бязвыйгрышных білетаў: не выкідвайце іх. Фірма «Цэнтрабуд» і Мінгарвыканком прынялі рашэнне аб дадатковым розыгрышы. Эканамістамі зараз вядуцца разлікі, на якую суму могуць быць выдзелены суцяшальныя прызы. Дададзім, што тыраж латарэі — 3 мільёны, кошт аднаго білета — 35 тысяч рублёў.

## ПАСТУПІЦЬ У ШКОЛУ МІЛІЦЫІ МОЖНА. ТРЭБА ТОЛЬКІ ЗАВЕСЦІ СПРАВУ

***Пасля заканчэння школы хачу паступіць у Магілёўскую школу міліцыі. Чуў, што для паступлення туды трэба прадставіць медыцынскую даведку асобага ўзору. Ці так гэта? Якія ўмовы паступлення ў гэтую навучальную ўстанову?***

**Уладзімір ПАРЧЭЎСКІ,**
*Шчучынскі раён*

Як адказалі карэспандэнту газеты ў Міністэрстве адукацыі РБ, жадаючы паступіць у Магілёўскую школу міліцыі спачатку павінен звярнуцца ў раённы аддзел унутраных спраў: там павінна быць «разнарадка» на колькасць абітурыентаў. У дадзеным выпадку вам трэба звярнуцца ў Шчучынскі РАУС. Адтуль вас накіруюць у рэгіянальныя органы МУС (у Магілёўскі аддзел у дадзеным выпадку), дзе будзе аформлена асабовая справа з утрыманнем біяграфічных звестак, вынікаў тэсціравання і медыцынскага агляду. Да экзаменаў у школу міліцыі асоба можа быць дапушчана толькі пры прадстаўленні асабовай справы. Абітурыенты здаюць экзамен па фізічнай падрыхтоўцы, гісторыі Беларусі, рускай ці беларускай мове па выбару абітурыента (сачыненне), замежнай мове. Абітурыенты, якія паступаюць пасля службы ў арміі, замест замежнай мовы здаюць экзамен па рускай ці беларускай літаратуры. Больш падрабязную інфармацыю аб умовах паступлення ў навучальныя ўстановы Міністэрства ўнутраных спраў была надрукавана ў газеце «На страже» ў нумары за 22 сакавіка.

## СТВАРАЛЬНІКІ ПОМНІКА ІЛЬІЧУ

**Мяне зацікавіла вось што: адкажыце, калі ласка, у якім годзе перад Домам урада ў горадзе Мінску быў адкрыты помнік У. Леніну? Хто яго аўтары — скульптар і архітэктар?**

**Анатоль КАМЯКОЎ,** *г. Віцебск.*

Помнік Леніну перад Домам урада адкрыты напярэдадні 16-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, гэта значыць у лістападзе 1933 года. Ягоныя творцы — скульптар М. Манізер і архітэктар І. Лангбард.

## ЧЫЕ ВЫРАДКІ СТРАШНЕЙ?

***Усе, думаю, добра памятаюць судовыя працэсы, якія не так даўно адбываліся і галоўнымі «героямі» якіх сталі вырадкі — Чыкаціла, наш, светлагорскі, маньяк. Аднак кажуць, што за мяжой былі яшчэ больш страшныя людзі. Не маглі б вы расказаць пра іх?***

**Людміла КАРАЕВА,**
*Гродзенская вобласць.*

Каб адказаць на гэтае пытанне, нам прыйшлося звярнуцца да Кнігі рэкордаў Гінеса. Згодна з ёй, у Еўропе ў «чорным спісе» маньякаў XX стагоддзя першынство займае Бруна Людке. Ад яго рук загінулі ў перыяд паміж 1928 і 1943 гадамі 85 жанчын. Але Людке належыць толькі трэцяе месца ў свеце. У 1973—1980 гадах на тэрыторыі Эквадора, Калумбіі і Перу былі забіты 300 маленькіх дзяўчынак ва ўзросце да 10 гадоў. Забойцам аказаўся Педра Алонса Лопес. А ў 1991 годзе ў ЗША арыштавалі Джэфры Дамера — на яго рахунку 17 забойстваў па сексуальных матывах.

## ДАДАТКОВЫЯ СРОДКІ НЕ ВЫДЗЯЛЯЮЦЦА

***Некалькі гадоў таму я як інвалід другой групы атрымаў бясплатна аўтамабіль «Запарожац». Ці аказваюць органы сацыяльнага забеспячэння матэрыяльную дапамогу для рамонту аўтамабіля?***

**Г. ПАПЛАЎСКІ,** *г. Мінск*

Як стала вядома нашаму карэспандэнту, тым, хто бясплатна або на льготных умовах атрымаў аўтамабіль, у адпаведнасці з Пастановай Кабінета Міністраў РБ № 170 ад 7 лістапада 1994 года «Аб павелічэнні грашовай кампенсацыі выдаткаў на бензін і транспартнае абслугоўванне інвалідаў» у сувязі з ростам дзяржаўных цэн на энерганосьбіты штогадова выплачваюцца адпаведныя сумы. Як гаворыцца ў дакуменце, гэта грашовая кампенсацыя выдаткаў уладальніка «на бензін, рамонт, тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў і запасныя часткі да яго». Іншых сродкаў на рамонт аўтамабіля не выдзяляецца.

## У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ ЧЭКІ НЕ ПРАПАДУЦЬ

***7 верасня 1994 года па дамове я здала ў Гомельскі філіял Першага Рэспубліканскага спецыялізаванага інвестыцыйнага фонду 114 чэкаў «Маёмасць» на суму 285 тысяч рублёў і атрымала пасведчанне акцыянера № 19333 на права валодання 260 акцыямі. Пасля публікацый у прэсе аб спыненні дзейнасці фонду я звярнулася ў яго Гомельскі філіял, але высветлілася, што там ніхто нічога не ведае. Як быць?***

**Зінаіда Лаўрэнцьеўна БАРАНЧУК, пенсіянерка,** *г. Рэчыца.*

Як паведаміла нашаму карэспандэнту кіраўнік упраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Зінаіда Шаўчэнка, хвалявацца не трэба: у любым выпадку вашы чэкі не прападуць. Але для вырашэння іх далейшага лёсу (дарэчы, чэкі не толькі можна забраць, але і адразу ж абмяняць на акцыі іншых фондаў) вам трэба звярнуцца па адрасах: г. Гомель, вул. Карповіча, 21 (тэл. 52-36-91), альбо г. Мінск, вул. К. Маркса, 40 (тэл. 22-30-95).

## ЦІ МАЕ ПРАВА БАЦЬКА ПРАДАЦЬ КВАТЭРУ?

***Бацька нашага ўнука — алкаголік-шабашнік, не разведзены, мае кватэру ў Мінску. Сыну практычна нічым не дапамагае і не цікавіцца яго жыццём. Ці мае права бацька прадаць кватэру без узгаднення з намі, нічога не даўшы адзінаму сыну?***

**СЦЯПАНАВЫ В. І Н.,**
*Мінская вобласць, Валожынскі раён.*

Калі ваш унук у адпаведнасці з п. 4 гл. 1 і п. 13 гл. II пастановы СМ Рэспублікі Беларусь ад 30.06.92 г. № 398 са зменамі № 512 ад 15.09.95 г. «Палажэння аб прыватызацыі жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, іх абслугоўванні і рамонце» мае права ўласнасці на долю ў прыватызаваным жылым памяшканні бацькі, дык вы, згодна з ч. 1 зб. 118 ГК РБ маеце права патрабаваць яе выдзялення на карысць унука пры продажы кватэры бацькам. Але для гэтага вам неабходна аформіць апеку над унукам, каб у адпаведнасці з законам абараніць яго правы, як непаўналетняга.

Калі ваш унук не мае права ўласнасці на долю ў жылым памяшканні бацькі, дык бацька можа прадаць кватэру без вашай згоды.

## ЯКАЯ ДОЛЯ ДОМА МНЕ НАЛЕЖЫЦЬ

***Справа ў тым, што мы разам жывём. Мы ўжо пенсіянеры, нам па 70 гадоў. Але атрымалася так, што калі мы сышліся, яна жыла ў доме, які мы выкупілі. Цяпер ён наш. Дом быў запісаны на яе, і яна застаецца гаспадыняй. Рэгістраваць шлюб у нашым узросце было ўжо неяк няёмка. Пытанне: ці маю я права на частку дома ў выпадку смерці жонкі, ці маюць права мае дзеці ў выпадку маёй смерці на якую-небудзь долю?***

**Аўтухоў УЛАДЗІМІР,**
*Брэсцкая вобласць, Пружанскі раён.*

Калі ўнясенне вамі некаторай сумы грошай за дом зарэгістравана, дык згодна з ч. 2 арт. 111 ГК РБ вы маеце права на частку дома — адносна ўнесеных грошай. Калі ж факт унясення грошай цяжка даказаць, дык вы будзеце мець права на частку гэтай уласнасці пры афармленні на вас дароўнай граматы ці завяшчання. Дагавор дарэння ці завяшчання ў адпаведнасці з ч. 3 зб. 255 і зб. 535 ГК РБ павінен быць натарыяльна зацверджаны і зарэгістраваны ў выканаўчым камітэце мясцовага Савета дэпутатаў.

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ ПА ДАМАХ...

***Я жыву ў Мінску па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, д. 10. З дахам нашага дома нешта здарылася і ён увесь час працякае. Зараз там пачалі рабіць рамонт. Нядаўна жыхары нашага дома былі ўзрушаны чуткамі, што быццам бы ён у хуткім часе пойдзе «пад знос». Адкажыце, калі ласка, ці маюць такія чуткі падставу?***

**Валянціна ДАЙНЕКА,** *г. Мінск*

Каб атрымаць тлумачэнні наконт гэтага пытання, наш карэспандэнт звярнуўся ў выканком Савецкага раёна сталіцы, на тэрыторыі якога знаходзіцца вышэй памянёны будынак. Галоўны архітэктар раёна запэўніў, што падставы для хваляванняў няма, бо жылы дом № 10 па вуліцы Б. Хмяльніцкага ніхто зносіць не збіраецца.

## ЯКІЯ ЗМЯНЕННІ ЧАКАЮЦЬ ВАЕННЫЯ КАФЕДРЫ ВНУ

***Я — студэнт чацвёртага курса Эканамічнага універсітэта. Хацеў бы, каб у «Пытальніку» далі такое тлумачэнне: ходзяць чуткі, што, магчыма, нават з бліжэйшага прызыву на вайсковую службу трапяць і ўсе студэнты. Нас гэта хвалюе. Ці чакаюцца тут нейкія змяненні?***

**І. К.,** *г. Мінск*

З паведамлення прэс-службы Міністэрства абароны стала вядома, што для студэнтаў тых вышэйшых навучальных устаноў, дзе няма ваенных кафедраў, тэрмін службы ў хуткім часе, напэўна, будзе зменшаны да шасці месяцаў (зараз, як вядома, яны служаць год). Слова — за парламентам, які павінен прыняць такое рашэнне.

Чакаецца, што істотныя змяненні закрануць і тыя ВНУ, у якіх ёсць ваенныя кафедры. Міністр абароны Леанід Мальцаў у сувязі з гэтым лічыць, то няма неабходнасці трымаць вялікі штат выкладчыкаў, сучасную вучэбна-матэрыяльную базу, калі адносна невялікая частка студэнтаў займаецца на ваеннай кафедры. «Гэта не па-дзяржаўнаму», — лічыць Леанід Сямёнавіч. У гэтай сувязі выказваецца прапанова ажыццяўляць ваеннае навучанне ў ВНУ ў некалькі этапаў. На першым этапе ўсе студэнты-прызыўнікі вучацца па праграме малодшых спецыялістаў. Пасля здачы залікаў яны атрымліваюць сяржанцкія званні, а пасля заканчэння вучобы ў ВНУ праходзяць вайсковую службу на працягу трох ці шасці месяцаў. Лепшыя з сяржантаў могуць прадоўжыць пасля здачы залікаў (першага этапа) навучанне на ваенных кафедрах і атрымаць афіцэрскія званні.

Пры Міністэрстве абароны зараз створана спецыяльная камісія, якая займаецца ўдасканаленнем (з улікам шматлікіх прапаноў) праграмы навучання на ваенных кафедрах ВНУ.

## ПРАЦАВАЦЬ МОЖНА І ПАСЛЯ ТРОХ КУРСАЎ ВНУ

***Я вучуся завочна ў Гродзенскім універсітэце на 3-м курсе філалагічнага факультэта. Вучыцца трэба шэсць гадоў, аднак я не магу працягваць навучанне, якое павінна аплачваць. Ці маю я права працаваць па спецыяльнасці, не скончыўшы курса навучання? Ці змагу я пазней вучыцца?***

**МАІСЕЕНКА Т. В.,** *г. Шчучын.*

Як паведамілі карэспандэнту газеты ва ўпраўленні вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі, асоба, якая скончыла тры курсы ВНУ, можа быць прынята на працу пры наяўнасці вакантных месцаў. У дадзеным выпадку трэба звярнуцца ў аддзел адукацыі абласнога выканкома. Пазней навучанне можа быць працягнута.

## ДАПАМОГА НА ДЗІЦЯ ВЫПЛАЧВАЕЦЦА ШТОМЕСЯЧНА. АЛЕ НЕ Ў ДЭКРЭТНЫМ ВОДПУСКУ

***Ці маю я права атрымліваць на дваіх дзяцей, якія нарадзіліся 26 студзеня 1995 года, штомесячную дапамогу на працягу дэкрэтнага водпуску? Мне адказалі, што на такую дапамогу я магу разлічваць толькі пасля яго заканчэння і толькі ў памеры 120 тысяч рублёў на дзіця.***

**А. БАБРОВА,** *г. Гомель.*

Вам адказалі абсалютна правільна: пасля заканчэння тэрміну водпуску па цяжарнасці і родах (дэкрэтнага), афармляецца водпускк па догляду за дзіцем да трох гадоў з выплатай штомесячнай дапамогі ў памеры 120 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы, што складае 120 тысяч рублёў. Штомесячная дапамога ў перыяд дэкрэтнага водпуску не выплачваецца. Жанчыне аплачваецца бальнічны ліст тэрмінам 126 дзён, а пасля родаў адразу выдаецца дапамога ў памеры трох мінімальных зарплат.

## ЯК ЗАКЛЮЧАЦЬ КАНТРАКТ?

***Адміністрацыя завода валявым шляхам месяц таму назад прымусіла пенсіянераў падпісаць працоўны дагавор тэрмінам на 1 месяц. З некаторымі на 3, 6 і 12 месяцаў — гэта я хачу падкрэсліць. Пасля заканчэння месяца, як мы і меркавалі, адміністрацыя з гэтымі кантрактнікамі скасавала дагавор (у каго на 1 месяц). Навошта ж было падманваць нас — астатніх, выдаючы цяпер толькі двухтыднёвую дапамогу? Ці мелі права прымусіць нас заключаць заведама падманны кантракт?***

***Чый кантракт закончваўся ў сакавіку, тым не выдавалі 7 сакавіка зарплату за студзень да таго часу, пакуль работнік не з'явіцца ў аддзел кадраў і не атрымае абходны ліст на звальненне. Ці павінны мне за час хваробы, калі да выздараўлення дагавор ужо закончыўся, аплаціць бюлетэнь з дня захворвання да дня выздараўлення? Дапамажыце знайсці справядлівасць.***

**С. ЯСТРАБІНСКАЯ,** *г. Маладзечна.*

У адпаведнасці з п. 3 Пастановы Кабінета Міністраў РБ ад 08.12.95 № 671 «Аб заключэнні кантрактаў з работнікамі, якія маюць права на пенсію» канкрэтны тэрмін кантракта вызначаецца пагадненнем бакоў. Таму валявы націск з боку адміністрацыі ў вызначэнні тэрмінаў кантракта без вашай згоды з'яўляецца парушэннем правоў работніка, у прыватнасці п. 1 арт. 6 КЗаП — права на свабоднае распараджэнне сваімі здольнасцямі да працы. Згодна з п. 12 гэтай жа пастановы пасля заканчэння тэрміну дзеяння кантракта работніку выплачваецца кампенсацыя ў памеры 2-тыднёвага сярэдняга заработку. Наўмысная затрымка выдачы зарплаты з умовай атрымання абходнага ліста на звальненне таксама з'яўляецца парушэннем правоў работніка, у прыватнасці п. 10 зб. 6 КЗаП — права на своечасовую ўзнагароду за працу.

Па абарону сваіх правоў можаце звярнуцца ў Камісію па працоўных спрэчках і ў раённы суд.

У сувязі з захворваннем вам належыць дапамога па часовай непрацаздольнасці. Згодна з п. 9 гл. II пастановы СМ СССР і ВЦСПС ад 23.02.84 г. № 191 дапамога выдаецца з першага дня страты працаздольнасці і да яе аднаўлення, нават калі ў гэты час работнік быў звольнены.

## БАРАНКУ Ў РУКАХ ТРЫМАЮ, А ШТО ЗА КЛАСНАСЦЬ МАЮ?..

***Пытаўся ў калег па рабоце і да начальства звяртаўся, а толку не дабіўся. Мяне цікавіць, ці павінны шафёру плаціць за класнасць?***

**Я. РАДАМАН,**
*г. Дзяржынск.*

Адказ на гэта пытанне, мяркуем, будзе цікавы таксама іншым вадзіцелям. Па просьбе рэдакцыі яго даў намеснік старшыні Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў аўтамабільнага транспарту і дарожнай гаспадаркі В. Бусел:

— Законам «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» замацавана права прадпрыемстваў устанаўліваць формы, сістэмы і памеры аплаты працы самастойна.

А ў артыкуле 83 КЗаП запісана, што яны вызначаюцца наймальнікам на падставе калектыўнага і працоўнага дагавораў, пагадненняў. Такім чынам, пры наяўнасці запісу ў калектыўным дагаворы прадпрыемства рашэнне аб адмене выплат за класнасць можа быць прынята толькі пасля ўнясення ў яго змен. Пры адсутнасці ж калектыўнага дагавора канчатковае рашэнне прымае кіраўнік. Праўда, кіруючыся арт. 85 КЗаП, ён павінен інфармаваць работнікаў аб гэтым не пазней чым за адзін месяц.

## ПІШЫЦЕ, ЗАХОДЗЬЦЕ...

***Паважаная рэдакцыя!***

***Апублікуйце, калі ласка, адрасы пасольстваў Злучаных Штатаў Амерыкі, Кітая і Дзяржавы Ізраіль у нашай рэспубліцы.***

**Ларыса МАРКАВЕЦ,**
*г. Орша.*

Выконваем вашу просьбу, паважаная чытачка «Звязды». Пасольства ЗША ў Мінску знаходзіцца па адрасу: вул. Старавіленская, 46, Кітая — вул. Берасцянская, 22, а Дзяржавы Ізраіль — Партызанскі праспект, 6-А.

**У сённяшнім выпуску «Пытальніка» на пытанні чытачоў адказвалі І. БРАЛКА, С. ГРЫБ, Ж. КАТЛЯРОВА, А. МЯСНІКОЎ, С. ПРОТАС, А. СЛАНЕЎСКІ, В. ШЧУЧЭНКА, І. ШЧУЧЭНКА.**

## ДАЖЫВЁМ — ЖЫЛЛЁ ПАБАЧЫМ?

**Адным з паказчыкаў, характэрных для любой з развітых краін, з'яўляецца, як вядома, вялікая доля жылля ў прыватнай уласнасці.**

Напрыклад, у заходняй частцы Германіі прыватны жыллёвы фонд складае 91 працэнт ад агульнага паказчыка. На пачатак 1995 года ў Беларусі ва ўласнасці грамадзян знаходзілася трохі больш за палову жылых памяшканняў (53,4 працэнта). Гэты паказчык можна супастаўляць, напрыклад, з усходнімі федэральнымі землямі Германіі (былой ГДР) — 50 працэнтаў. Дзякуючы прыватызацыі дзяржаўнага і грамадскага жылфонду за апошнія чатыры гады толькі ў гарадскіх населеных пунктах рэспублікі прыватнага жылля стала амаль удвая больш. Ды і ў цэлым па Беларусі захоўваецца тая ж тэндэнцыя. Але не варта на падставе гэтага запісваць Беларусь у катэгорыю тых краін, што развіваюцца пасяхова. Існуе шмат фактараў, якія не даюць падстаў для аптымізму.

Прыватызацыя жылля адбываецца за сімвалічную плату, што, з аднаго боку, імпануе грамадзянам, а з іншага — ставіць крыж на перспектывах дзяржаўнага жыллёвага будаўніцтва. Па стану на лістапад 1995 года кошт будаўніцтва 1 кв. м агульнай плошчы жылля тыпавых спажывецкіх якасцей у Беларусі складаў ад 220 да 350 долараў ЗША, ці ў сярэднім 3,3 мільёна рублёў. Пры гэтым, прынамсі, у верасні 1995 года сярэднестатыстычная кватэра агульнай плошчай 50,8 кв. м выкупалася за 51,2 тысячы рублёў, г. зн. 1000 рублёў за метр. Нагадаем, што ўсё жыллё, пабудаванае да 1 студзеня 1992 года, прыватызуецца па цэнах года 1991-га.

Інфляцыя прывяла да таго, што на прыватызацыю двухпакаёвай кватэры зараз дастаткова... сярэдняй аднадзённай зарплаты. Тым часам як, каб тую ж кватэру пабудаваць ці купіць, — аднаму грамадзяніну давядзецца працаваць гадоў 15, забыўшыся на іншыя расходы — накшталт ежы і адзення.

«Наіўны» сярэднеарыфметычны паказчык сведчыць, што на пачатак 1995 года на кожнага беларуса прыпадала ажно 19,5 метра агульнай жыллёвай плошчы. Але ёсць іншая, куды менш радасная лічба: у рэспубліцы больш за 650 тысяч сем'яў маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, стоячы з гэтай нагоды на ўліку. Калі нават лічыць (па мінімуму), што гэта «ячэйка грамадства» складаецца з трох чалавек, то і тады прэтэндэнтам на больш прасторныя «апартаменты» з'яўляецца кожны пяты беларус. Асабліва вострая праблема ў гарадах: у гэтым выпадку можна казаць — «кожны чацвёрты». У вёсках лепей, але не з-за таго, што там больш будуюць. Прычына больш трывіяльная. За 80-я гады сельскае насельніцтва краіны зменшылася на 788,6 тысяч чалавек.

**Уладзіслаў ТУРЫЛАЎ.**

## НЕДАБРАЯКАСНЫМ ТАВАРАМ ТРЭБА СТАВІЦЬ ЗАСЛОНУ. ІНАКШ — БЯДА

Толькі летась на прадпрыемствах, якія займаюцца вытворчасцю тавараў народнага спажывання, у Мінску і Мінскай вобласці Службай кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта была забракавана прадукцыя 82 працэнтаў правераных прадпрыемстваў. У гандлі і на вытворчых прадпрыемствах забаранялася рэалізацыя па неадпаведнасці патрабаванням нарматыўнай дакументацыі і заканчэнню тэрмінаў захоўвання ад 43 да 66 працэнтаў праінспектаванай гарбаты, мясных і мяса-раслінных кансерваў, мяса птушкі, віна-гарэлачных вырабаў, яек курыных, а таксама ад 18 да 34 працэнтаў бульбы і агародніны, плодаагароднінных кансерваў, цэльнамалочнай прадукцыі, каўбасных вырабаў, мяса ўсіх відаў (акрамя птушкі), масла і харчовых канцэнтратаў.

Гэтыя і іншыя лічбы і факты былі агучаны падчас сумеснай калегіі Міністэрства гандлю, Міністэрства аховы здароўя, Мінскага цэнтра стандартызацыі і метралогіі, прадстаўнікоў рознічных і аптовых прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, якая была прысвечана стану арганізацыі кантролю за якасцю тавараў народнага спажывання. Не сакрэт, што гэтая праблема набывае ўсё большую актуальнасць у нашай краіне як у адносінах да айчынных, так і замежных тавараў. Такое становішча абумоўлена як зніжэннем патрабаванняў самімі прадпрыемствамі да якасці выпускаемай прадукцыі, так і недахопамі ў рабоце шэрагу кантралюючых органаў. У прыватнасці, аптовыя прадпрыемствы гандлю «Культгандаль», «Гаспгандаль», «Галантарэя» і іншыя не прад'яўляюць ніякіх прэтэнзій да вытворцаў браку, абмяжоўваючыся толькі заменай яго на якасныя тавары. Не лепшая сітуацыя і ў рознічным гандлі. Дастаткова сказаць, што на 1996 год пагадненні аб абслугоўванні з Мінскім цэнтрам стандартызацыі і метралогіі заключылі толькі двое кіраўнікоў (паслуга каштуе 1 млн. рублёў) сталічных гандлёвых кропак.

Крайнім у гэтай сітуацыі, зразумела, застаецца спажывец. Так, у мінулым годзе была адменена рэалізацыя насельніцтву нестандартнай, а ў шэрагу выпадкаў — не прайшоўшай праверку на бяспеку для здароўя і не сертыфікаванай прадукцыі, у тым ліку віна-гарэлачных вырабаў — 22 тысячы дэкалітраў, безалкагольных напояў — 1,4 тысячы дэкалітраў, мяса і мясных паўфабрыкатаў, каўбасных вырабаў — 82 тоны, хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў — 63 тоны, кансерваў мясных і мяса-раслінных — 121 тысяча ўмоўных банак, кансерваў плодаагароднінных — 230 тысяч умоўных банак, масла, сыроў, іншай малочнай прадукцыі — 55 тон і іншае.

Як прагучала падчас калегіі, у асобных магазінах краіны бракуецца ад 55 да 85 працэнтаў паступіўшых з заводаў тэлевізараў маркі «Гарызонт». Удумайцеся ў гэтыя лічбы! І улічыце, што за імі часам (асабліва гэта датычыць прадуктаў харчавання) стаіць здароўе і нават жыццё людзей. Апошні яскравы таму прыклад — атручэнне ў Віцебску людзей каўбасой вытворчасці мясцовай бройлернай фабрыкі. Па стану на 20 лютага 20 чалавек было шпіталізавана, яшчэ сем праходзілі лячэнне амбулаторна. І гэта толькі адзін выпадак, а колькі іх усяго — зарэгістраваных і тых, што засталіся па-за ўвагай кантралёраў? Таму не выпадкова падчас калегіі прагучала думка, што барацьбу за якасць тавараў павінны весці мы ўсе разам — органы кантролю, гандаль, прадпрыемствы і, натуральна, спажыўцы.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## МІЛІЦЫЯ І «ЗАЙЦЫ»: ЖАРТАЎ НЕ БУДЗЕ!

**Кантралёр — безбілетны пасажыр. Дзе прысутнічае адзін, там няма месца другому. Сутычкі кантралёра з чарговым «зайцам» у транспарце даўно ўжо сталі звычнай з'явай, на якую іншыя пасажыры або зусім ніяк не рэагуюць, або становяцца на бок «пакрыўджанага» безбілетніка. І чым горш мы жывём, тым больш жорсткімі становяцца такія сутыкненні. Ніякія тлумачэнні аб нявыплаце заработнай платы або жабрацкай стыпендыі кантралёрам не прымаюцца: у кожнага свая работа...**

У лютым бягучага года работнікамі кантролю ў сталічным транспарце былі аштрафаваны 32 тысячы безбілетных пасажыраў на суму 320 млн. рублёў. Натуральна, нягледзячы на тое, што кожны дзень на лініі выходзяць 1.000—1.200 кантралёраў (у бліжэйшы час плануецца павелічэнне іх колькасці да 1,5 тысяч), гэта толькі вяршыня айсберга. У студзені гэтага года была выяўлена 31 тысяча «аматараў» праехаць бясплатна, а ў снежні 1995 г. — 36 тысяч безбілетнікаў. Пэўнае змяншэнне іх колькасці, магчыма, звязана з павелічэннем у студзені штрафу з 6 да 10 тыс. рублёў. Між іншым, «зайцам» ёсць аб чым задумацца. У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь была ўнесена прапанова аб устанаўленні штрафных санкцый за безбілетны праезд у памеры 1 мінімальнай заработнай платы. І калі яна будзе прынята, то ім прыйдзецца зусім туга.

У бліжэйшы час плануецца ўзмацненне мераў кантролю ў сталічным транспарце. Для суправаджэння кантралёраў будзе выдзелена падраздзяленне міліцыі (дзве групы). У выпадку адмовы заплаціць штраф на месцы будзе складацца пратакол і па рацыі ўдакладняцца з пашпартным сталом пашпартныя даныя безбілетнага пасажыра. Яму тут жа будзе ўручацца пастанова аб аплаце штрафу на працягу 15 дзён у любым аддзяленні Ашчадбанка. Тым жа, хто не палічыць патрэбным гэта зрабіць, прыйдзецца адказваць ужо перад народным судом па арт. 126 частка 4 за безбілетны праезд у грамадскім транспарце. Такім чынам, паляванне на «зайцоў» набывае сур'ёзны размах...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## КАМУ ПАТРЭБЕН ЛЁД ВЯСНОЙ?

**Што можна рыхтаваць добраму гаспадару зімою? «Вядома, колы», — адкажа чытач у адпаведнасці з усім знаёмай народнай прымаўкай. Аднак, як высветлілася, не толькі ў гэтым можа быць клопат вяскоўца. Так, напрыклад, многія гаспадаркі Лепельскага раёна, што на Віцебшчыне, у апошнія дні адыходзячай зімы (зразумела не каляндарнай) заняты вельмі важнай справай — нарыхтоўкай... лёду.**

Некаму такія запасы здадуцца проста бязглуздзіцай, але вясковыя гаспадаркі ўсё ж такі маюць рацыю. Калі зімою малочныя фермы могуць працаваць без халадзільнага абсталявання (адпаведнае надвор'е дазваляе), то летам без апошняга ну ніяк не абысціся.

Менавіта ў гэтую пару халадзільнікі часта ламаюцца, ад чаго гаспадаркі церпяць дадатковыя (і немалыя) страты. Таксама ў капейку абходзіцца і газ фрэон, які часцей за ўсё выкарыстоўваецца ў халадзільным абсталяванні. Вось тут і спатрэбіцца некалі нарыхтаваны на «чорны» дзень лёд.

На пачатак сакавіка калгасы і саўгасы раёна назапасілі больш за 400 кубічных метраў лёду. Думаецца, вопыт вяскоўцаў з Лепельшчыны карысна пераняць і іншым гаспадаркам, нават у маштабе рэспублікі. Каб потым не давялося прасіць лёду, які летам таксама мае свой кошт.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ЯК ПЕНСІЯНЕР КУРАТНІК АХОЎВАЎ

**Ваенны пенсіянер, жыхар Бярозы, нямала быў узрушаны, калі ў куратніку недалічыўся некалькіх нясушак. Зварот у міліцыю нічога не даў, такіх зладзеяў не так проста знайсці.**

Аднак чалавек, маючы вышэйшую тэхнічную адукацыю, не пагадзіўся з гэтым і абсталяваў куратнік... аховай. Не-не, без рызыкі для злодзея, але калі ён надумае туды залезці, у кватэры пенсіянера зазвініць званок.

Аб гэтым і не здагадваўся беспрацоўны, раней судзімы жыхар г. Бярозы Сяргей О., які добра падрыхтаваўся, каб улезці ў куратнік. Але пакаштаваць мяса яму так і не давялося. Не ведаў злодзей, што, калі ён толькі падчапіў ломікам прабой з замком, спрацавала сігналізацыя. А тут і гаспадар міліцыю прывёў.

**Людміла ГІЛЕВА.**

## РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ ...

## ЗБЕРАГЧЫСЯ АД СТРЭСУ

**Кажуць, што ўсё на свеце можна купіць, акрамя здароўя. А тое, што немагчыма купіць, трэба берагчы.**

Для таго, каб падтрымліваць сябе ў патрэбнай форме, можна, напрыклад, пайсці паплаваць у басейн, а пасля пагрэцца пад промнямі штучнага сонца ў салярыі, балазе, атрымаць падобнае задавальненне ў сталіцы сёння няцяжка. Напрыклад, у мінскім водна-спартыўным камбінаце «адзін заплыў» каштуе 10 тыс. рублёў, а наведванне салярыя ацэньваецца такім чынам: 1 хвіліна загару — 1,5 тыс. рублёў, пасля чатырохгадзіннага загару тая ж хвіліна ацэньваецца ўжо ў 2 тысячы рублёў. У басейне «Гарызонт» на месяц можна набыць абанемент за 64 тысячы рублёў (наведванне 2 разы на тыдзень), а на трактарным заводзе — за 90 тыс. рублёў, у басейне «Бурштын» — за 64 тыс. рублёў, а ў басейне Дома афіцэраў такі ж абанемент каштуе значна даражэй — 140 тысяч рублёў.

У «Лазурным» наведванне басейна каштуе 10 тысяч рублёў, а сеанс салярыя — 30 тысяч рублёў, у «Арлёнку» абанемент можна набыць за 60 тысяч і атрымаць залацісты загар за 35 тысяч рублёў (1 сеанс). У цэлым цэны на прыняцце сонечных ваннаў у сталічных салярыях вагаюцца ў межах 4 долараў.

Акрамя таго, падбадзёрыць сябе можна аздараўленчым масажам у фірме «Авіцэна» ўсяго за 70 тыс. рублёў ці вібрамасажам у аздараўленчым цэнтры «Агнія» за 35—70 тыс. рублёў. А тыя, хто сумняваецца ва ўласным доўгалецці, маюць магчымасць скласці індывідуальны гараскоп у той жа «Авіцэне» за 230 тысяч рублёў і за 11О тыс. рублёў — у «Агніі». Стрэс можна зняць на псіхатэрапеўтычным сеансе за 10 долараў.

Як кажуць, ваша здароўе — у вашых руках. Скажам стрэсу катэгарычнае «не»!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ХВОРЫ САЛДАТ ВОЙСКУ НЕ ПАТРЭБЕН

**221 юнак, прызваны ў беларускія Узброеныя Сілы вясной мінулага года, быў звольнены з войскаў па стану здароўя ў першыя тры месяцы службы.**

Вынікі апошняга, восеньскага, прызыву таксама маласуцяшальныя. Ужо сёння каля 50 навабранцаў прызнаны непрыгоднымі да службы ва Узброеных Сілах па захворваннях, не сумяшчальных з ёй.

Міністр абароны Беларусі выдаў загад, які прадпісвае ўзмацніць патрабаванні да адбору юнакоў у войска.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## КАЛІ ХВАРЭЦЬ, ДЫК ЛЕПШ БЛІЖЭЙ ДА ДОМУ

**Хвароба, як вядома, спецыяльна сваю ахвяру не выбірае — знянацку боль можа «зламаць» і старога, і малога. Прагучыць, магчыма, цынічна, але калі ўжо «прыхапіла», дык лепш, каб гэта было дома ды яшчэ, пажадана, як мага бліжэй да добрай медыцынскай установы. У іншым разе (асабліва калі патрабуецца тэрміновая ці вузкаспецыялізаваная дапамога) клопату не абярэшся. Зрэшты, менавіта на такія выпадкі ў краіне існуе санітарная авіяцыя. Аб яе працы і надзённых праблемах карэспандэнт «Звязды» і папрасіў расказаць Васіля Кірылку — галоўнага ўрача Рэспубліканскай станцыі санавіяцыі.**

Летась спецыялісты медыцынскіх ўстаноў краіны па хуткай дапамозе і ў планавым парадку па заданнях Рэспубліканскай станцыі санітарнай авіяцыі вылятаў 334 разы, забяспечыўшы такім чынам усе выклікі, адразу падкрэсліў у гутарцы В. Кірылка. З гэтай мэтай прыцягваліся кваліфікаваныя ўрачы з Мінскага медінстытута, навукова-даследчых інстытутаў і інстытута ўдасканалення. Так, у 83 працэнтах выпадкаў на месцы выязджалі прафесары, дацэнты, навуковыя супрацоўнікі з вучонымі ступенямі, 17 працэнтаў выклікаў выканалі ўрачы з рэспубліканскіх спецыялізаваных цэнтраў. Як бачна, падрыхтоўка гэтых кадраў вельмі сур'ёзная. Як правіла, для транспарціроўкі кансультантаў у лячэбныя ўстановы краіны па хуткай дапамозе выкарыстоўваліся ўсе віды транспарту, у тым ліку санавіяцыя — 18 разоў, аўтамашыны станцыі — 62 разы, а таксама маршрутныя цягнікі і аўтобусы.

Па экстрэмальных выкліках спецыялістамі было агледжана больш за 1000 хворых, акрамя таго ў планавым парадку — 3696 чалавек. На месцы было выканана 105 складаных аперацый.

З Мінска ў медыцынскія ўстановы краіны было пераведзена 49 хворых. З мэтай эканоміі сродкаў амаль заўсёды выкарыстоўваўся спадарожны транспарт. Дарэчы, В. Кірылка засяродзіў увагу менавіта на пытанні, калі супрацоўнікі станцыі пры магчымасці імкнуцца не «ганяць» авіяцыю. Бо зараз кошт адной гадзіны работы, напрыклад, верталёта Ка-26 складае 210 долараў, самалёта АН-2 — 200 долараў. З гэтай прычыны колькасць вылетаў летась скарацілася да 18 пры налёце 57 гадзін 35 хвілін (для параўнання: у 1990 годзе былі ажыццёўлены 383 вылеты, налёт склаў 1025 гадзін 40 хвілін). Між іншым, гэта зусім не азначае, што санавіяцыя склала з сябе паўнамоцтвы. Нядаўнія падзеі ў Оршы і Крычаве таксама атрымалі свой працяг (аказанне медыцынскай дапамогі пацярпеўшым) менавіта праз гэтую службу. Так што памятайце — у выніку неабходнасці людзі ў белых халатах заўсёды прыйдуць вам на дапамогу, магчыма нават прыляцяць на крылах. Але лепш не хварэйце.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НОВЫ ГЕРБ — БЫЦЦАМ ВОДАР МЯТЫ?..

**Дзе толькі апошнім часам не сустрэнеш новыя дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь.**

Падсвільскі камбінат харчовых прадуктаў (да нядаўняга часу проста вінзавод) сваю апошнюю партыю пладова-ягаднага віна з чароўнай назвай «Водар мяты» выпусціў якраз у новым афармленні. Вянчае экспазіцыю этыкеткі на бутэльцы напою каляровае адлюстраванне Дзяржаўнага герба краіны.

Напэўна, па задумцы аўтараў новаўвядзення герб на бутэльцы найлепшым чынам адлюстроўвае гістарычны шлях беларускага народа, шматвяковае існаванне і развіццё яго дзяржаўнасці, у якой, трэба разумець, любоў да моцных напояў займала не апошняе месца...

**Уладзімір ШЫК.**

# «Сусветны вопыт сведчыць: дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі павінна быць развіта настолькі, наколькі яно неабходна для забеспячэння яе развіцця»

**Распачатыя ў сучасны момант спробы вырашыць эканамічныя праблемы Рэспублікі Беларусь шляхам узмацнення дзяржаўнага ўплыву на ўсе бакі эканамічнага жыцця рэспублікі абумоўлены перш за ўсё імкненнем спыніць паглыбленне крызісу і прапанаваць хоць бы нейкія меры для выхаду з яго. Падставы для гэтага больш чым пераканаўчыя. Аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі скараціўся за 1991—1995 гады больш чым на 40 працэнтаў, у тым ліку ў 1995 годзе — на 11,5 працэнта. Выпуск трактароў за апошнія пяць гадоў скараціўся на 74 працэнты, грузавых аўтамабіляў — на 69, піламатэрыялаў — на 71 працэнт. За студзень 1996 года ВУП упаў на 14 працэнтаў, рост спажывецкіх цэн па афіцыйнай статыстыцы склаў 5,6 працэнта, а па ацэнцы незалежных крыніц — у два разы больш. Сур'ёзным дэстабілізуючым фактарам з'яўляецца заніжаная стаўка рэфінансавання, якая вядзе да масавых уцёкаў ад беларускага рубля як насельніцтва, так і прадпрыемстваў.**

Адной з найбольш складаных праблем сучаснага этапу развіцця эканомікі з'яўляецца недахват крыніц фінансавання народнай гаспадаркі. Большасць дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў знаходзяцца ў складаным стане і практычна не плацяць падаткі ў бюджэт. Кожнае пятае прадпрыемства закончыла 1995 год са стратамі. У параўнанні з 1994 годам у 1995 годзе доля стратных прадпрыемстваў ў прамысловасці, гандлі і грамадскім харчаванні ўзрасла амаль у чатыры разы, у сельскай гаспадарцы — больш чым удвая, у будаўніцтве — у тры разы.

Крэдыторская запазычанасць на 1 студзеня 1996 года склала 66 трлн. рублёў і ўзрасла за 1995 год у 2,8 раза. Яна перавышае дэбіторскую запазычанасць на 32,5 працэнта. Пры гэтым запазычанасць прадпрыемствам іншых краін склала 5,7 трлн. рублёў, астатняе — запазычанасць беларускаму бюджэту, пазабюджэтным фондам, па аплаце працы, сацыяльнаму страхаванню, іншым беларускім прадпрыемствам. Па стану на 1.01.96 года грашовыя сродкі прадпрыемстваў пакрывалі крэдыторскую запазычанасць толькі на 5,8 працэнта (на пачатку мінулага года — на 11,3), у тым ліку ў прамысловасці — на 4,4, у сельскай гаспадарцы — на 4,3, на транспарце — на 5,4, у жыллёва-камунальнай гаспадарцы — на 2,9 працэнта.

Прычыны крызісу эканомікі рэспублікі вядомыя. Гэта і празмерная матэрыяла- і энергаёмістасць беларускай прадукцыі, якая перавышае сярэднесусветны ўзровень у два-тры разы, і слабая адаптацыя вытворцаў да рыначных метадаў рэгулявання, іх надзеі на спісанне пратэрмінаванай запазычанасці, адсутнасць механізма банкруцтваў. Аднак асноўны ўдар па беларускіх таваравытворцах нанесла штучнае падтрыманне курса ва ўмовах пастаяннага росту затрат, што прывяло да практычнай стратнасці многіх вырабаў. Рэнтабельнасць экспартных матацыклаў ММВЗ знізілася з 14,5 працэнта ў снежні 1994 года да мінус 37,8 працэнта ў лістападзе 1995 года, таму што выдаткі за гэты перыяд выраслі ў 3,1 раза, а кантрактная цана павялічылася ўсяго ў 1,5 раза. Па мінскіх халадзільніках «Мінск-215» за гэты ж перыяд затраты ўзраслі ў 3,2 раза, а кантрактная цана — у 1,3 раза. У выніку рэнтабельнасць знізілася з 76,3 працэнта да мінус 17,8.

Зразумела, што такім вытворцам даваць грошы — азначае фактычна выкідваць іх на вецер. Узнікае пытанне: хто згодзіцца гэта зрабіць?

Звычайна стратныя прадпрыемствы «выцягваюцца» за кошт бюджэту. Тым больш, што ў выглядзе цэнтралізаваных фінансавых рэсурсаў дзяржава акумуліруе больш за 50 працэнтаў ВУП. Але ўжо цяпер зразумела, што дзяржаўны бюджэт на 1996 год будзе выкананы са значным дэфіцытам. У 1996 годзе ВУП складзе крыху больш за 10 млрд. долараў, ці менш як 1000 долараў на душу насельніцтва. У той жа час мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго чалавека складае 1140 долараў, што на 140 долараў вышэй вартасці створанага прадукту. Такім чынам, у бягучым годзе наша рэспубліка будзе вымушана адшукаць сродкі ці «праесці» раней створаныя матэрыяльныя каштоўнасці ў сукупнасці на 1,5 млрд. долараў.

Тым не менш, нават у такіх абставінах урад плануе накіраваць на фінансаванне народнай гаспадаркі каля 20 працэнтаў расходнай часткі бюджэту, у той час як, напрыклад, Польшча — не больш за 5 працэнтаў. У адрозненне ад Расіі 20—30-х гадоў у рэспубліцы няма і залатога запасу, распродаж якога дазволіў бы забяспечыць стартавы штуршок для развіцця эканомікі.

На замежныя інвестыцыі таксама не даводзіцца разлічваць. Хоць рэспубліка і знаходзіцца ў выгадным геаграфічным становішчы, аднак гэтага відавочна недастаткова для прыцягнення інвестараў, зацікаўленых перш за ўсё ў надзейнасці інвестыцый, што забяспечваецца безумоўным выкананнем дзеючых на тэрыторыі законаў і падзаконных актаў.

Замежны інвестар любіць укладваць грошы ў краіны з адносна таннай рабочай сілай, што забяспечвае яму дадатковыя прыбыткі. Аднак у нашай рэспубліцы кошт рабочай сілы хутка расце. Гэта абумоўлена стабільным курсам долара ў адносінах да беларускай грашовай адзінкі пры наяўнасці інфляцыі ў беларускіх рублях.

Наша рэспубліка не ўяўляе для замежных інвестараў значнай цікавасці і як патэнцыяльны рынак збыту тавараў. Яго ёмістасць нават з улікам росту заработнай платы ў доларавым эквіваленце не перавышае 400—500 млн. долараў, што з'яўляецца нязначнай велічынёй. І значнага павелічэння пры адсутнасці рэальных эканамічных пераўтварэнняў чакаць не даводзіцца.

Міжнародныя арганізацыі практычна адмовілі рэспубліцы ў сваёй дапамозе, а гэта азначае, што на Беларусь не пойдуць і замежныя прыватныя інвестыцыі. Расійскія ж прадпрыемствы бачаць перш за ўсё свае эканамічныя выгады, а расійскі ўрад з-за грузу ваенных выдаткаў у Чачні і неабходнасці ажыццяўлення шырокіх сацыяльных праграм перад выбарамі таксама сур'ёзна не дапаможа. Да заключаемых дамоў аб дараванні даўгоў найбольш падыходзіць прыказка аб тым, што бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы.

У выніку прамыя інвестыцыі ў эканоміку Беларусі склалі ў 1995 годзе толькі каля 4 млн. долараў. Трэба адзначыць, што інвестыцыі ў нашу суседку Польшчу ў тым жа годзе склалі 1,7 млрд. долараў.

Рэальна не можа даць грошы і актыўнае правядзенне працэсаў прыватызацыі... Вопыт Расіі паказвае, што практычна па ўсіх пазіцыях прыватызаваныя прадпрыемствы апярэджваюць сваіх дзяржаўных сабратоў. Прычым, чым вышэй ступень прыватызацыі, тым лепшыя паказчыкі. Так, у глыбокапрыватызаваных прадпрыемстваў абаротнасць сродкаў вышэй на 59 працэнтаў, а рэнтабельнасць — на 10. Калі ў дзяржаўных прадпрыемстваў у параўнанні з мінулым годам спад аб'ёму вытворчасці склаў 12 працэнтаў, то ў глыбокапрыватызаваных, наадварот, — рост на 2,3 працэнта. Аднак у Расіі прыватызавалі пераважна рэнтабельныя прадпрыемствы. Гэта адпавядае сусветнай практыцы, калі ў эканамічна развітых краінах рэнтабельныя прадпрыемствы аддаюцца ў прыватную ўласнасць, у той час як стратныя вяртаюцца дзяржаве, якая іх рэканструіруе, павышае даходнасць і перадае назад у прыватны сектар... У Беларусі ж робіцца наадварот: дзяржава мае намер вывесці з дзяржаўнай уласнасці пераважна безнадзейныя прадпрыемствы і пакінуць пад кантролем больш-менш перспектыўныя гаспадарчыя структуры. Натуральна, што асаблівага попыту на іх не будзе і паступленняў значных сродкаў у бюджэт чакаць не трэба. У 1996 годзе ад правядзення прыватызацыі меркавалася атрымаць усяго 450 млрд. рублёў.

Праўда, даводзіцца рабіць і выключэнні, але толькі для магутных расійскіх гаспадарчых структур — ім «пад дараванне даўгоў Беларусі» з дзяржаўнай уласнасці хутчэй за ўсё будуць перадавацца найбольш перспектыўныя беларускія прадпрыемствы.

У гэтых умовах банкаўская сфера (адзіная, якая пакуль не збяднела) здаецца выканаўчай уладзе ледзь не адзінай жа крыніцай сродкаў для беззваротнага фінансавання стагніруючай эканомікі. Але гэта сфера валодае не такімі ўжо значнымі рэсурсамі. Па словах Т. Віннікавай, дзеючыя ў рэспубліцы 40 банкаў валодаюць сумарным уласным капіталам у памеры 270 млн. долараў. Гэта паказчык, які маюць дзесятак асобных расійскіх банкаў. Спробы аб'яднання банкаў ці іх адзяржаўлення сур'ёзнага станоўчага эфекту не дадуць.

Будуць спробы адабраць грошы і ў прадпрымальнікаў. Не выпадкова начальнік аналітычнага цэнтра Адміністрацыі Прэзідэнта РБ П. Капітула ў адной з газет адзначыў, што «...можна пасадзіць за розныя падатковыя хітрыкі 95 працэнтаў камерсантаў». Прычым звяртае на сябе ўвагу такая акалічнасць: «каб змяніць адпаведныя законы, патрабуецца час і час. Таму, калі будзем выконваць адпаведныя законы ў галіне эканомікі, у рэшце рэшт прыйдзем у тупік...»

У выніку з'яўляюцца праекты па ліквідацыі непадкантрольнага прадпрымальніцтва шляхам правядзення перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання; прадастаўлення выканкомам, у парушэнне дзеючага заканадаўства, права спынення без суда дзейнасці суб'ектаў гаспадарання па ініцыятыве органаў, якія праводзяць іх рэгістрацыю; абмежавання памераў заключаемых прадпрымальнікамі здзелак кратнымі памерам статутнага фонду, і г. д.

Натуральна, што пры такім падыходзе да прадпрымальнікаў з боку дзяржаўных інстанцый надзей на нармальную працу ў рэспубліцы практычна няма. У сувязі з гэтым і многія прадпрымальнікі, якія ў нармальных умовах працавалі б сумленна, лічаць за лепшае пераводзіць грошы за мяжу і ехаць услед за імі.

Сусветны вопыт паказвае, што дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі павінна быць развіта настолькі, наколькі яно неабходна для забеспячэння яе развіцця, а не для ўдушэння рыначных метадаў гаспадарання. Менавіта такое дзяржаўнае рэгуляванне дазволіла эканамічна развітым краінам практычна вырашыць праблемы крызісных з'яў у эканоміцы.

Павінна быць распрацавана дзяржаўная праграма ўкаранення рыначных адносінаў, якія б забяспечвалі самарэгуляванне эканомікі рэспублікі пад метадалагічным кантролем з боку дзяржавы. Карысным мерапрыемствам у гэтым плане была б распрацоўка пад кантролем дзяржавы прадпрыемствамі дзяржаўнай формы ўласнасці бізнес-планаў іх фінансавага аздараўлення. Пры стратнасці прадпрыемстваў, адсутнасці бізнес-планаў фінансавага аздараўлення ці іх невыкананні дзяржава павінна прымаць меры па прызнанню такіх прадпрыемстваў банкрутамі з перадачай іх у прыватную ўласнасць за сімвалічную цану (напрыклад, за 1000 рублёў)

У сферы грашова-крэдытнага абарачэння неабходны паступовы пераход ад адміністрацыйнага размеркавання фінансавых рэсурсаў да рэгулюемага грашовага рынку. Яго мэтазгодна праводзіць па меры ліквідацыі дыспрапорцый нацыянальнай эканомікі, павышэння зацікаўленасці камерцыйных банкаў у правядзенні эфектыўнай для рэспублікі крэдытнай палітыкі і ў ажыццяўленні доўгатэрміновага крэдытавання.

З інструментаў ускоснага рэгулявання ў пераходны перыяд на першы план выходзіць уліковая стаўка Нацыянальнага банка РБ, якая зараз значна зніжана ў сувязі з тым, што прывязана да афіцыйных, а не рэальных тэмпаў інфляцыі ў рэспубліцы.

Для павышэння надзейнасці камерцыйных банкаў магчыма павышэнне з боку Нацыянальнага банка, як прадстаўніка дзяржавы, нормы рэгулявання. Разам з тым, з мэтай заахвочвання доўгатэрміновага крэдытавання, мэтазгодна налічваць працэнты ў памеры стаўкі рэфінансавання на рэзерв банкаў, у партфелі якіх доля доўгатэрміновых крэдытаў перавышае 15 працэнтаў.

Мэтазгодна таксама адмяніць нормы рэзервовых патрабаванняў на дэпазіты з тэрмінам пагашэння звыш 12 месяцаў. Гэта дасць магчымасць узняць працэнты па гэтаму віду дэпазітаў і, такім чынам, павысіць іх прывабнасць, павялічваючы тым самым узровень зберажэнняў, якія могуць быць выкарыстаны для інвестыцый.

Суб'екты гаспадарання (у тым ліку і дзяржаўныя прадпрыемствы) не павінны абмяжоўвацца ў выбары банкаў, у якіх яны хацелі б адкрыць рахункі. Тыя дзяржаўныя (ці калядзяржаўныя) банкі, якія знаходзяцца ў складаным фінансавым становішчы, трэба разбуйніць і аказаць ім фінансавую дапамогу.

У рэспубліцы практычна адсутнічае рынак каштоўных папер. Яго рэальнае развіццё магчыма толькі пры хуткім акцыяніраванні дзяржаўных прадпрыемстваў з купляй-продажам іх акцый на другасным рынку каштоўных папер. Між іншым, нізкія тэмпы прыватызацыі абумоўлены незацікаўленасцю дзяржаўных органаў кіравання ў адкрытым акцыяніраванні прадпрыемстваў, дрэннай адпрацаванасцю заканадаўчай базы, наяўнасцю сур'ёзных супярэчнасцей паміж інтарэсамі розных сацыяльных груп насельніцтва, бесперспектыўнасцю з пункту гледжання павышэння эфектыўнасці вытворчасці правядзення прыватызацыі за чэкі, наяўнасцю ўціску з боку замежнага (у першую чаргу расійскага) капіталу.




Нават калі правядзенне прыватызацыі адновіцца, на яе першым этапе павышэння курса акцый чакаць не трэба, таму што кіраўніцтва пераўтвораных у акцыянерныя таварыствы дзяржаўных прадпрыемстваў будзе зацікаўлена ў скупцы акцый з найменшымі затратамі. Рост курса акцый пачнецца толькі пасля перадзелу ўласнасці, калі пачнецца барацьба за фінансы на правядзенне рэканструкцыі. Пры гэтым варта зазначыць: адмоўныя адносіны да звычайнай у такім разе спекуляцыі, якія існуюць у масавай свядомасці і актыўна культывуюцца прыхільнікамі ўраўняльнага размеркавання даброт, негатыўна ўздзейнічаюць на развіццё грамадскай вытворчасці, перашкаджаюць станаўленню рыначных адносінаў. А ва ўмовах рынку спекуляцыі належыць важная роля ў перамяшчэнні капіталаў у найбольш эфектыўныя сферы дзейнасці. Менавіта дзякуючы спекуляцыйным аперацыям стымулюецца фінансаванне найбольш эфектыўнай вытворчасці і выраўноўванне даходнасці ў розных галінах.

Суб'екты вытворчых адносінаў непасрэдна зацікаўлены ў развіцці толькі тых элементаў рыначных адносінаў, якія даюць стабільны і дастатковы прыбытак. Разам з тым развіццё асобных састаўных элементаў рыначнай інфраструктуры можа аказацца малапрыбытковым ці ўвогуле стратным. Для развіцця такіх элементаў неабходна мэтанакіраваная дзяржаўная падтрымка. Адным з асноўных накірункаў такой падтрымкі з'яўляецца дзяржаўная падатковая палітыка.

Але падатковая сістэма Рэспублікі Беларусь у выніку шматлікіх карэкціровак на працягу 1992—1995 гадоў ператварылася ў чыста фіскальны інструмент. Яна перагружана вялікай колькасцю падатковых плацяжоў, што ўскладняе механізм падаткаабкладання, павялічвае выдаткі па іх спагнанню. Пастаянныя змены механізма падаткаабкладання, якія часта ўводзяцца заднім чыслом, робяць бессэнсоўнай пастаноўку пытання аб якіх-небудзь гарантыях дзяржавы адносна эканамічных умоў для суб'ектаў гаспадарання.

Больш за палову даходнай часткі бюджэту на 1996 год мяркуецца фарміраваць за кошт розных ускосных падаткаў. Як адзначаюць эксперты, пераважнасць ускосных падаткаў з'яўляецца сведчаннем слабасці эканамічнай сістэмы. У эканоміцы краін, якія нармальна развіваюцца, больш за палову бюджэтных даходаў прыпадае на паступленні ад прамых падаткаў.

Сур'ёзным недахопам ускосных падаткаў з'яўляецца адсутнасць у іх стымулюючай функцыі. Калі прамыя падаткі вымушаюць вытворцаў шукаць крыніцы павышэння эфектыўнасці вытворчасці, то павышэнне ставак ускосных падаткаў цалкам кампенсуецца павелічэннем кошту прадукцыі і ў канчатковым выніку кладзецца на апошняга спажыўца — насельніцтва.

Для павышэння эфектыўнасці падатковай сістэмы дзяржава павінна перш за ўсё забяспечыць зніжэнне падатковай нагрузкі і спрасціць гэту сістэму за кошт адмены малаэфектыўных падаткаў і адлічэнняў у бюджэт і пазабюджэтныя фонды. Павінны быць таксама абмежаваны льготы, прычым апошнія належыць распаўсюджваць не на асобных суб'ектаў гаспадарання, дружалюбных выканаўчай уладзе, а на віды дзейнасці.

Для вырашэння праблемы неплацяжоў у рэспубліцы мэтазгодна развіваць вэксальнае крэдытаванне.

Што датычыць прыцягнення замежнага капіталу, дык яно павінна грунтавацца перш за ўсё на безумоўным выкананні законаў Рэспублікі Беларусь, іх прыярытэце перад указамі і распараджэннямі выканаўчай улады.

Роля дзяржавы, безумоўна, павінна выяўляцца і ў барацьбе са злачынствамі ў эканамічнай сферы. Але пры гэтым трэба помніць, што асноўная колькасць гаспадарчых злачынстваў учыняецца групамі арганізаванай злачыннасці, ад якіх урон для эканомікі рэспублікі ў дзесяткі, калі не ў сотні, разоў большы ў параўнанні з несумленнымі дзеяннямі асобных прадпрымальнікаў.

А найбольш эфектыўным метадам барацьбы з эканамічнымі злачынствамі з'яўляецца ліквідацыя умоў, якія іх параджаюць. Так, асноўнай прычынай ухілення ад падаткаабкладання з'яўляецца яго празмерны ўзровень, які не дазваляе прадпрыемствам не толькі правесці расшыранае ўзнаўленне, але і падтрымаць простае. У выніку павышэнне ўзроўню падаткаабкладання вядзе да змяншэння паступленняў сродкаў у бюджэт. Праблему ўзмацненнем пакарання не вырашыш — прадпрыемствы пяройдуць пад расійскую юрысдыкцыю ці перавядуць сродкі ў трэція краіны.

Такім чынам, роля дзяржавы ў рэгуляванні эканамічнага жыцця рэспублікі павінна павышацца. Але гэта павінна заключацца не ў вяртанні да цэнтралізаванага размеркавання ўсіх рэсурсаў, а ў стварэнні ўмоў гаспадарання, якія б забяспечвалі самарэгуляванне эканомікі і максімальна эфектыўнае выкарыстанне ўсіх фактараў грамадскай вытворчасці.

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**загадчык аддзела рыначнай інфраструктуры Інстытута эканомікі АН Беларусі, эксперт «Звязды».**

# ЭНЕРГІЧНАЯ ЭКСПАРТНАЯ ПАЛІТЫКА МОЖА ІСТОТНА ПАЛЕПШЫЦЬ ФІНАНСАВЫ СТАН МНОГІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

**ГЭТЫ АРТЫКУЛ напісаны на аснове інфармацыі, што прагучала ў час семінара гандлёва-эканамічных саветнікаў пасольстваў, супрацоўнікаў замежных гандлёвых місій, якія акрэдытаваны ў Мінску. Арганізатар семінара — Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, запрасіла таксама прадстаўнікоў пасольстваў з Масквы, якія па сумяшчальніцтву ажыццяўляюць дыпламатычныя адносіны сваіх дзяржаў з Беларуссю. Такім чынам, днямі ў канферэнц-зале выставачнага комплексу «Мінскэкспа» сабралася даволі шматлікая кваліфікаваная аўдыторыя, якую аб'ядноўваў канкрэтны эканамічны інтарэс да нашай краіны.**

У гэтым сэнсе само правядзенне падобнага семінара (дарэчы, ужо другога па ліку), з'яўляецца фактам неардынарным і вартым увагі. Бо ён — пэўны крок на цяжкім і малазведаным, а таму яшчэ поўным непрыемных нечаканасцей шляху выпрацоўкі і рэалізацыі ўласнай самастойнай знешнеэканамічнай палітыкі. Але, як і не бывае кепскага без добрага, так і на гэтым шляху не абышлося без прыемных сюрпрызаў. І галоўным з іх стаў, на мой погляд, салідны прырост экспарту прадукцыі ў мінулым годзе. Нагадаю, найбольшым попытам за мяжой карысталіся прадукты хімічнай прамысловасці, транспартныя сродкі, машыны, абсталяванне, прыборы, вырабы з тэкстылю.

Летась знешнегандлёвы абарот склаў 9,2 млрд. долараў ЗША, у тым ліку экспарт — 4,4 млрд. долараў. Дэфіцыт гандлю ў рамках СНД (32,5 працэнта) быў кампенсаваны дзякуючы здабыткам у гандлі з краінамі далёкага замежжа. Апошні ў параўнанні з 1994 годам вырас у 3,7 раза. Сёння Беларусь падтрымлівае эканамічныя сувязі са 121 краінай свету.

Гэты поспех на накірунку, які яшчэ зусім нядаўна поўнасцю кантраляваўся з Масквы саюзнымі знешнегандлёвымі арганізацыямі, даў падставу кіраўніку знешнеэканамічнага ведамства Міхаілу Марынічу заявіць на семінары, што знешні гандаль сёння ў значнай ступені вызначае ўстойлівасць функцыянавання ўсяго народнагаспадарчага комплексу. І сапраўды, разумная, гібкая і больш энергічная экспартная палітыка, якая адэкватна рэагуе на кан'юнктуру рынку, можа істотна палепшыць фінансавы стан многіх прадпрыемстваў. Што, безумоўна, непасрэдна адаб'ецца на павелічэнні і своечасовасці атрымання заработнай платы.

Думка гэта не новая, яна ўжо неаднойчы гучала ў Беларусі з самых высокіх трыбун, тысячы разоў праілюстравана на жывых прыкладах сродкамі масавай інфармацыі, тым не менш, яна яшчэ вельмі марудна авалодвае многімі галовамі, якія кіруюць эканомікай і прадпрыемствамі.

Падобная інфантыльнасць тлумачыцца адсутнасцю вопыту самастойнага вядзення знешнеэканамічных аперацый, нежаданнем рызыкаваць, браць на сябе адказнасць у выпадку няўдачы. Шматлікай кагорце «генералаў» прамысловасці больш зручна енчыць з нагоды парушаных гаспадарчых сувязей і выпрошваць датацыі ва ўрада. Своеасаблівым тормазам у хутчэйшай адаптацыі дырэктарскага корпуса да ўмоў і правілаў дзейнасці на замежных рынках стаў увод у зман грамадскасці кіраўніцтвам былога Савета Міністраў. Памятаеце, тады яго вышэйшыя іерархі не шкадавалі слоў, каб пераканаць у тым, што сусветны рынак даўно ўжо падзелены і Беларусі са сваімі вырабамі не прабіцца за мяжу. А таму ёй засталося адно выйсце — зліць сваю грашова-фінансавую сістэму з адпаведнай расійскай сістэмай, што дазволіць як і раней пры СССР, свабодна пастаўляць сваю прадукцыю на неабсяжны рынак Расіі.

Зліцця не дачакаліся, а вось часу згубілі шмат. Цяпер нямала тых, хто спадзяецца, што саюз з Расіяй, рэалізацыяй ідэі якога энергічна займаецца Прэзідэнт Беларусі, аўтаматычна вырашыць іх праблемы са збытам прадукцыі. Не вырашыць, а толькі часткова аблегчыць, аднак хіба што на пэўны перыяд. Бо Расія сёння ўжо не тая, там значна больш рынку, чым у нас. А таму не трэба забываць вядомую рускую рыначную прымаўку, якую працытую на мове арыгінала: «Дружба дружбой, а табачок врозь».

На эканамічны саюз з Расіяй можна і трэба спадзявацца, але лепш усё ж разлічваць на свае сілы. Хаця, безумоўна, Расія — наш стратэгічны гандлёвы партнёр на доўгія гады.

Тым больш, як паказаў мінулы год, мы здатныя прасоўваць сваю прадукцыю на рынкі многіх іншых краін. Але не трэба моцна ганарыцца дасягнутым ростам тавараабароту з далёкім замежжам. Будзем цвяроза глядзець на рэчы — атрыманы вынік зусім не адпавядае экспартнаму патэнцыялу нашай краіны. Мы здолелі зняць толькі першы пласт, тое, што ляжала на паверхні і само прасілася ў рукі. Наперадзе нашых экспарцёраў і тых прамыслоўцаў, хто жадае ўвайсці ў іх лік, чакае цяжкая мэтанакіраваная праца па пашырэнню сваёй прысутнасці на рынках, на якіх удалося замацавацца яшчэ ў гады СССР і ў апошні час ці на якія толькі плануецца пранікнуць.

А гэта, бадай, самае складанае. Сёння вырабіць нейкі прадукт на ўзроўні сусветных стандартаў — толькі палова справы. Галоўнае, каб ён стаў таварам, г. зн. здолець яго прадаць. Зрабіць гэта на перанасычаным рознымі вырабамі сусветным рынку вельмі няпроста. Таму ў свеце за пакупніка ідзе няспынная ўпартая барацьба, якая вядзецца па жорсткіх правілах і без скідкі на нявопытнасць навічка.

Аднак у нашых вытворцаў ёсць сур'ёзная перавага перад канкурэнтамі з развітых капіталістычных краін. Няхай наша прадукцыя, скажам, машынабудаўнічая, уступае заходняй па якасці, дызайну, але цана беларускіх машын больш прымальная. Фактар, які часта бывае рашаючым, асабліва ў краінах Азіі, Лацінскай Амерыкі і Афрыкі. Гэты надзвычай перспектыўны рэгіён намі толькі пачынае асвойвацца. Вядома, перашкаджае канкурэнцыя з боку развітых краін. Напрыклад гандлёвы абарот ЗША з Азіяй за апошнія гады наблізіўся да 300 млрд. долараў і прыблізна на 30 працэнтаў перавышае гандаль з Еўропай. Усе тры штаты ціхаакіянскага ўзбярэжжа арыентуюцца на Усход. Яны экспартуюць у Азію як складаныя тэхнічныя вырабы, так рыбапрадукты, лес, садавіну, агародніну.

Зразумела, з краінамі Еўропы, якія побач, нам больш зручна гандляваць. Будзем спадзявацца, што падпісанне прэм'ер-міністрам Беларусі часовага пагаднення аб гандлі з Еўрапейскім саюзам аблегчыць доступ беларускіх тавараў на яго рынкі, але, думаецца, разлічваць на бурны ўсплёск гандлёва-эканамічных кантактаў усё ж не трэба. Там ужо прывыклі набываць прадукцыю вядомых фірмаў, якія забяспечваюць на высокім узроўні пасляпродажны сервіс, у тым ліку хуткі рамонт.

Мы ж пахваліцца шырокай сервіснай сеткай абслугоўвання нашых трактароў, «МАЗаў», «БелАЗаў», халадзільнікаў за мяжой не можам. Як і эфектыўнай рэкламай беларускіх тавараў. Нам, як заўсёды, не хапае на гэта грошай, а калі яны ёсць, то эканомім іх на падобных расходах. Хаця на прыкладах замежных фірмаў даўно ўсвядомілі: без развіцця сервісных цэнтраў абслугоўвання, дылерскай сеткі нельга весці шырокі і салідны бізнес.

На мой погляд, экспартная палітыка, пры ўсёй павазе да Міністэрства знешнеэканамічных сувязей, за ўвесь час пасля абвяшчэння суверэнітэту была аморфнай, вялася пераважна вядомым метадам «тыка», проб і памылак. Нешта атрымлівалася, нам «свяціла» выгада, мы адразу ішлі на кантакт. Можа таму неяк дзіўна выглядае паслядоўнасць спіса нашых асноўных гандлёвых партнёраў: Расія, Германія, Украіна, Польшча, Літва, ЗША, Нідэрланды, Латвія. Яшчэ параўнаўча нядаўна гандлёвы абарот, напрыклад, з Румыніяй складаў усяго 5 млн. долараў. летась ён перавысіў 30 млн., а сёлета, па прагнозах румынскага прадстаўніка на семінары, гэта лічба павінна падвоіцца.

І толькі летась даволі хаатычныя намаганні па развіццю экспарту пачалі нарэшце набываць абрысы мэтанакіраванай палітыкі. У гэтым плане шматабяцальным грамадскім фарміраваннем можа стаць Савет экспарцёраў Беларусі, створаны ў сакавіку г.г. па ініцыятыве МЗЭС. Гэтай акцыі папярэднічаў арганізацыйны сход, у якім удзельнічалі дэлегаты ўсіх галоўных экспарцёраў. Усяго сабралася больш за 80 прадстаўнікоў прадпрыемстваў розных формаў уласнасці і самых розных накірункаў вытворчасці. Дагэтуль экспарцёры сустракаліся па галіновых прыметах: асобна хімікі, машынабудаўнікі і г.д. На іх сходах выспела думка аб'яднацца ў Савет экспарцёраў, каб разам заваёўваць новыя рынкі збыту сваёй прадукцыі, сумесна выпрацоўваць стратэгію і тактыку. Старшынёй Савета абраны Альберт Добрамудраў, першы намеснік Марыніча.

Да прыемных сюрпрызаў мінулага года ў знешнім гандлі можна аднесці тое, што кіраўніцтва Беларусі трывала ўсвядоміла прамую залежнасць паміж адкрыццём пасольства і значным ростам гандлёвага тавараабароту з пэўнай краінай. Так, з'яўленне кожнай новай беларускай дыпламатычнай місіі за мяжой — гэта сур'ёзны ўдар па бюджэту. Нятанна абыходзіцца набыццё будынка пад пасольства, арэнда кватэр для дыпламатаў.

Узнікае пытанне: за які перыяд, калі аперыраваць выключна эканамічнымі катэгорыямі, могуць апраўдацца затраты на дыппрадстаўніцтва? На думку Міхаіла Марыніча, новае пасольства акупляецца прыкладна за год. Вядома, пры ўмове яго эфектыўнай дзейнасці. Думаю, яго меркаванню можна давяраць. Перад тым як Марыніч быў вылучаны на пасаду міністра, ён працаваў паслом у Чэхіі. Гандлёвы абарот з ёй у першы год работы там нашага пасольства падвоіўся, а летась ужо ўзрос у тры з паловай разы. Акрамя таго пасольства, дакладней — яго консульская служба, няблага зарабляе на афармленні візаў.

Таму не выпадкова днямі вырашана пераўтварыць генеральныя консульствы ў Бухарэсце, Рыме, Гаазе ў пасольствы. Вывучаюцца магчымасці адкрыцця пасольства ў Канадзе, гандлёвых місій у арабскім свеце, азіяцкім рэгіёне, Паўднёвай Амерыцы. Гэта дыпламатычная падтрымка за мяжой будзе вельмі дарэчы беларускім экспарцёрам.

Але нашым вытворцам, якія выпускаюць канкурэнтаздольную прадукцыю, яшчэ ў большай ступені неабходна дзяржаўная падтрымка дома. І ў першую чаргу «падсілкоўванне» інвестыцыямі, без чаго немагчыма разлічваць на вытворчасць экспартных тавараў. Сёе-тое робіцца ў гэтым накірунку. Пры Прэзідэнце працуе рабочая група, якая разглядае і кантралюе рэалізацыю значных інвестыцыйных праектаў. Мяркуецца, што паскорыць прыток фінансавых укладанняў у эканоміку Беларусі стварэнне нацыянальнага агенцтва па інвестыцыях, правядзенне летам у Мінску міжнароднага інвестыцыйнага форуму. Ідэя апошняга, па словах Міхаіла Марыніча, атрымала адабрэнне буйных міжнародных фінансавых арганізацый, асобных краін, напрыклад ЗША, Швейцарыі, Германіі. Ён высока ацаніў падпісаны Прэзідэнтам указ аб стварэнні свабодных эканамічных зон, што таксама дазволіць прыцягнуць на Беларусь інвестыцыі, пашырыць колькасць сумесных прадпрыемстваў.

Дарэчы, у нас недаацэньваецца іх роля ва ўмацаванні экспартнага патэнцыялу краіны. Хаця СП — гэта і адкрыццё перадавых вытворчасцей, укараненне новых тэхналогій, «ноу-хау». Сёння ў Беларусі зарэгістравана 2795 СП. Не ўсе яны працуюць, але тыя, якія дзейнічаюць, між іншым, стварылі 25 тысяч працоўных месцаў.

І ўвогуле, пара рабіць стаўку на прыцягненне прамых буйных інвестыцый у перспектыўныя ў экспартным плане прадпрыемствы, а не выкарыстоўваць у якасці крыніцы фінансавых рэсурсаў пераважна замежныя крэдыты пад гарантыі ўрада. Іх потым аддаваць з працэнтамі прыйдзецца.

Адначасова не шкодзіла б узмацніць дыпламатычную актыўнасць па хутчэйшаму ўступленню Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Тым самым дзяржава аказала б надзвычай каштоўную паслугу нашым экспарцёрам, якія б атрымалі дадатковыя магчымасці выхаду на знешнія рынкі. На долю краін —удзельніц гэтай арганізацыі прыпадае больш за 90 працэнтаў сусветнага гандлю. Паспрабаваць паскорыць працэс уступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю трэба таму, што традыцыйны шлях у яе можа расцягнуцца на некалькі гадоў. А нам неабходны сёння перавагі членства ў ёй: эфектыўная прававая абарона эканамічных інтарэсаў, праца ў рэжыме міжнароднага гандлю, які рэгулюецца дакладнымі і пастаяннымі нормамі, умацаванне рэпутацыі Беларусі як стабільнага і надзейнага партнёра і г.д.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*АКТУАЛІІ*

## ЯК ДОБРЫЯ СУСЕДЗІ...

Выкажам спадзяванне: рабочы візіт Прэзідэнта Рэспублікі Польшча А.Квасьнеўскага на Беларусь паспрыяе на толькі інтэнсіўнаму эканамічнаму супрацоўніцтву, але і больш цесным сувязям у галіне культуры і адукацыі. А пашырэнне адукацыйных і навуковых сувязей набывае зараз асаблівае значэнне.

Нагадаем, што сістэмнае і трывалае супрацоўніцтва навучальных устаноў нашай краіны і Польшчы пачалося з 50-х гадоў. За гэты час больш за 1500 беларускіх навукоўцаў і педагогаў выязджалі да добразычлівых суседзяў для чытання лекцый, навуковых і моўных стажыровак, абмену вопытам работы.

Гэтае супрацоўніцтва грунтавалася на пагадненнях паміж міністэрствамі адукацыі, а таксама на 37 дагаворах і пагадненнях паміж навучальнымі ўстановамі і навуковымі арганізацыямі абодвух бакоў.

У сувязі з заканчэннем 31 снежня 1995 г. пагаднення з міністэрствам нацыянальнай адукацыі Польшчы беларускі бок падрыхтаваў праект пагаднення на 1996-97 гг. і ў час знаходжання ў Варшаве беларускай урадавай дэлегацыі ў чэрвені мінулага года гэты дакумент быў абмеркаваны з польскімі калегамі. Тады ж падпісалі рабочы план пагаднення аб супрацоўніцтве, тэрмін дзеяння якога спыняецца ў канцы гэтага навучальнага года.

Асноўным прынцыпам міжнароднага беларуска-польскага супрацоўніцтва застаецца абмен на безвалютнай аснове, аднак апошнім часам надзённым становіцца абмеркаванне фінансавага пытання аб утрыманні студэнтаў і аспірантаў за кошт кожнага з бакоў.

Зараз на Беласточчыне працуюць два ліцэі — ў Гайнаўцы і Бельску-Падляскім, у якіх вядзецца паглыбленае вывучэнне беларускай мовы і ажыццяўляецца выкладанне на ёй некаторых прадметаў. У адпаведнасці з заяўкамі навучальных устаноў толькі ў 1995 годзе ў Беласток перададзена больш за 800 экземпляраў падручнікаў і дапаможнікаў для школ і ліцэяў, у якіх навучаюцца дзеці беларусаў. Аформлена падпіска на беларускія перыядычныя выданні 10 найменняў агульным тыражом 278 экземпляраў. Сярод іх «Настаўніцкая газета», «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», «Пралеска», «Роднае слова» і іншыя.

*Нядаўна ўрадавая дэлегацыя нашай краіны была на Беласточчыне. Каб атрымаць інфармацыю з першых вуснаў, мы сустрэліся з адным з удзельнікаў рабочага візіту — міністрам адукацыі і навукі В.СТРАЖАВЫМ.*

**— Васіль Іванавіч, вы былі ў саставе афіцыйнай дэлегацыі, якую ўзначальваў віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч...**

— Дэлегацыя наведала Беласток з нагоды святкавання 40-х угодкаў з дня ўтварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мы прынялі ўдзел у афіцыйным пасяджэнні, затым — у фестывалі беларускай песні. Наведалі грамадскія арганізацыі, у тым ліку і музей беларускай культуры, які будуецца ў Гайнаўцы, а таксама беларускамоўны ліцэй. У саставе дэлегацыі быў і міністр культуры А. Сасноўскі, што давала магчымасць комплексна вывучыць праблемы адукацыі і культуры.

**— Наколькі я ведаю, у апошні час мы не ва ўсім знаходзілі належнае паразуменне з палякамі. Прыгадаем некаторыя дыскусіі наконт усвдамлення гістарычных фактаў, пабудовы польскай школы ў Гродне.**

— Такія канкрэтныя акалічнасці наўрад ці могуць паўплываць на добрасуседскія адносіны, ды і ўзнятыя праблемы вырашаюцца. Мяне прыемна ўразіў той факт, што значна павялічылася колькасць тых, хто жадае навучацца на беларускай мове ў ліцэях, у тым ліку і ў Гайнаўцы. Колькасць жадаючых вучыцца па-беларуску ўзрасла прыкладна ўтрая. Гэта звязана з тым, што лепшых навучэнцаў сталі прымаць у нашы ВНУ, а таксама з моўнай сітуацыяй у нашай рэспубліцы.

Нашы сувязі з беларусамі Польшчы значна пашырыліся і выйшлі на грунтоўную глебу супрацоўніцтва. Цікава, што на сустрэчах неаднойчы выказвалася думка, што ў першую чаргу трэба гаварыць пра грамадзян Польшчы, а затым ужо — пра беларусаў. Такі падыход вырашае шмат палітычных пытанняў і яго можна толькі вітаць.

**Віктар ІЎЧАНКАЎ.**

*ДЗЕЛАВЫЯ СУСТРЭЧЫ*

# ПРАДПРЫМАЛЬНЫЯ ПАЛЯКІ ВЫКАЗВАЮЦЬ УЧЭПІСТУЮ, ГОДНУЮ ДЛЯ ПЕРАЙМАННЯ ДЗЕЛАВУЮ ХВАТКУ...

На працягу трох дзён працавала ў Мінску «дзелавая місія» Мінскага аддзялення Беларускай гандлёва-прамысловай палаты і Гандлёва-прамысловай палаты Беластока з Польшчы. У перамовах, мэтай якіх было наладжванне кантактаў прадпрымальнікаў дзвюх краін, прынялі ўдзел 17 польскіх фірмаў і больш як 120 прадстаўнікоў прадпрыемстваў розных формаў уласнасці з беларускага боку. Як патлумачана ў прэс-рэлізе, такая актыўнасць беларускіх дзелавых колаў выклікана рэзкім пад'ёмам у апошнія гады рыначнай гаспадаркі Польшчы і, адпаведна, шырокімі магчымасцямі для сумеснага бізнесу.

На прэс-канферэнцыі для журналістаў, якая была наладжана ў памяшканні Мінскага аддзялення ГПП (удзел у ёй прынялі таксама прадстаўнікі Пасольства Польшчы ў Беларусі і Міністэрства знешнеэканамічных сувязей Беларусі) адзначалася: час для мацавання гандлёвых сувязей паміж нашымі краінамі быў страчаны, абедзве краіны рынуліся на пошукі партнёраў у Амерыцы, Францыі, між тым, нам наканавана ў першую чаргу гандляваць паміж сабой, дапамагаць адзін аднаму вырашаць унутраныя праблемы. З боку польскіх прадстаўнікоў прагучала ўпэўненасць, што мы нагонім гэты страчаны час. Разам з тым былі названы і тыя перашкоды, якія стрымліваюць больш дынамічнае развіццё ўзаемавыгадных сувязей.

Галоўная з іх — граніца, якую «пераадолець» не так ужо лёгка. Адзін з прадстаўнікоў польскага бізнесу зазначыў так: «У мяне няма часу, каб стаяць на ёй па 8 гадзін. Мы не ўвозім зброі, атруты... Час для мяне — грошы...»

Трэба таксама адрэгуляваць юрыдычныя пытанні, пытанні ўзаемадзеяння банкаў. Адна з немалаважных праблем, на думку палякаў (і вельмі абгрунтаваную думку), — пакупка беларускімі прадпрымальнікамі долараў на валютным рынку для адпаведных разлікаў з польскім бокам.

Польскія прадстаўнікі «прывезлі» з сабой самыя разнастайныя тавары, а таксама паслугі (як зазначыў кіраўнік Мінскага аддзялення ГПП Пётр Юшкевіч, прапанаванне паслуг — будаўнічых і іншых, акрамя традыцыйнага прапанавання тавараў,— стала асаблівасцю гэтай бізнес-сустрэчы). Але яны прыязджалі не толькі для таго, каб гандляваць. Так, прадстаўнік прадпрыемства садавіна-агародніннай прамысловасці «Агрос» прапануе стварэнне ў Беларусі сумеснай вытворчасці па вырабу сокаў. Як было падкрэслена ім, ён у фінансавых адносінах гатовы да ажыццяўлення гэтага праекта, ён прапануе потым экспартаваць сокі ў іншыя краіны. З яго вуснаў зноўтакі прагучала: у нас няма часу адкладваць такія справы надоўга, нам не трэба дыскуціраваць, на чыёй зямлі з'явіцца тая ці іншая вытворчасць і з якой краіны на гэту вытворчасць прыйдзе гаспадар; галоўны аргумент — грошы, якія шукаюць для сябе найбольш эфектыўнага прымянення...

Добра бачныя дзелавая хватка, дзелавы стыль гасцей, ужо няблага выхаваных рашучымі рыначнымі пераўтварэннямі ў Польшчы, выклікае сімпатыю. І як часам не хапае такой хваткі і такога стылю нам. З-за нашай знакамітай «памяркоўнасці» ў тых жа рэформах. Але будзем спадзявацца, што ўжо хоць суседзі, якія значна пайшлі наперад, прымусяць хутчэй варушыцца і нас.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

**P. S.** ***У падрыхтоўцы гэтай «дзелавой місіі» актыўны ўдзел прынялі нашы калегі з «Белорусской торговай газеты». Вядома, акрамя работнікаў самога Мінскага аддзялення ГПП як гаспадароў.***

Вясна традыцыйна асацыіруецца ў аматараў скуранога мяча з вялікім футболам. У гэты час каманды праводзяць заключныя перадстартавыя зборы, канчаткова вызначаюцца з саставам, трэнеры робяць прыкідкі. Праўда, сёлетнія капрызы зімы маглі б і астудзіць пыл заўзятых фанатаў гульні мільёнаў і пра сезон можна было б успомніць дзесьці ў пачатку мая, калі зямля канчаткова вызваліцца ад снежнага покрыва, а футбольныя палі зазеляняюць усімі вясновымі фарбамі. Але ж футбол не можа чакаць ад прыроды толькі пагодлівых і сонечных дзён. Матчы, як вядома, гуляюцца ў любое надвор'е. Тым больш, што ў Расіі першынство пачалося ў пачатку сакавіка, а ў Еўропе зімовага перапынку ў футболе наогул няма.

Сёлетні сезон для беларускіх балельшчыкаў абяцае быць цікавым. Безумоўна, на першым месцы будуць стаяць гульні нацыянальнай зборнай у адборачных матчах да чэмпіянату свету-98. Хопіць работы ў нашых вядучых клубаў, якія выступаюць у розыгрышы ганаровых еўрапейскіх кубкаў. Ну, і вядома ж, нікога не пакіне раўнадушным унутраны чэмпіянат рэспублікі, клас якога паступова выраўноўваецца.

Аб тым, як ідзе падрыхтоўка да новага сезона, што чакае Беларусь сёлета на міжнароднай арэне і пра многае іншае — наша размова з прэзідэнтам Федэрацыі футбола Беларусі Яўгенам Шунтавым.



*Яўген ШУНТАЎ, прэзідэнт Федэрацыі футбола Рэспублікі Беларусь:*

# «ФУТБОЛ ПАВІНЕН РАДАВАЦЬ НЕ АСОБНУЮ КУЧКУ ЛЮДЗЕЙ, А ЎСІХ БАЛЕЛЬШЧЫКАЎ»

**— Яўген Феліксавіч, не сумняваюся, што многія нашы каманды звязваюць свае надзеі з паспяховым выступленнем у чэмпіянаце Беларусі.**

— Магчыма. Са свайго боку Федэрацыя футбола спрыяе гэтаму. Усе арганізацыйныя пытанні вырашыла. Каляндар чэмпіянату гатовы (старт намечаны на 16 красавіка), рэгламент выступленняў складзены. Так што каманды могуць смела планаваць свае выступленні на цэлы год наперад.

І, наколькі я ведаю, на месцах вельмі сур'ёзна рыхтуюцца да стартаў.

**— А надвор'е, выпадкова, не ўнясе сваіх карэктываў у вашы планы?**

— Не думаю, хоць нас непакоіць стан футбольных палёў напярэдадні сезона. Таму перад адкрыццём першынства галоўная суддзейская калегія павінна праехаць і паглядзець прыгоднасць стадыёнаў. Упэўнены, што старт пройдзе без зрываў. Да таго ж першыя туры мы праводзім у паўднёвых гарадах рэспублікі.

**— Не адзін матч не праводзіцца без удзелу арбітраў?**

— З гэтым у нас поўны парадак. Судзейскі корпус рыхтуецца да чэмпіянату вельмі сур'ёзна. У міжсезонны перыяд для іх былі праведзены два зборы. А на пачатак красавіка намечана правядзенне яшчэ аднаго падобнага мерапрыемства.

Скажу больш. Наш вядомы рэферы Вадзім Жук нядаўна быў на зборах у Іспаніі, дзе Еўрапейская футбольная асацыяцыя інспектавала арбітраў, правяраючы іх гатоўнасць для абслугоўвання матчаў фінальнай часткі чэмпіянату Еўропы-96. Ведаеце, ён дастойна вытрымаў экзамены УЕФА.

Другога нашага суддзю — Юрыя Дупанава ўзяла на заметку Сусветная федэрацыя футбола, якая назначыла яго судзіць матчы алімпійскага турніру ў Атланце...

**— Шкада, што ў гэтых спаборніцтвах не будзе прадстаўніцтва Беларусі.**

— Ну, вы хочаце, каб тая ж нацыянальная зборная за адзін адборачны цыкл адразу трапіла ў фінал. Не так гэта проста. А наогул, у кожнай з гульняў, якія пройдуць з удзелам Жука і Дупанава, будзе прысутнічаць і беларускі дух у выглядзе вывешанага на стадыёне сцяга.

**— Яўген Феліксавіч, давайце працягнем тэму «нацыянальная зборная каманда ў 1996 годзе». Які лёс ёй прыгатаваны?**

— Не займаюся прагнозамі. Час пакажа. Як вядома, наша галоўная каманда, якая складаецца ў асноўным з легіянераў, ужо даўно пачала падрыхтоўку да адборачных матчаў чэмпіянату свету-98.

Таварыская сустрэча ў Турцыі, дзе беларусы ва ўпартай барацьбе з лікам 2:3 прайгралі гаспадарам, паказала, што ў нашай каманды ёсць нядрэнны патэнцыянал...

**— Рэалізоўваць які неабходна будзе Сяргею Бароўскаму?**

— Так. Ён дастойна прадстаўляў нашу краіну на працягу ўсяго адборачнага цыкла чэмпіянату кантынента. Канешне, былі і рознага роду непрыемнасці, хадзілі размовы, што Бароўскага пара здымаць з пасады. Аднак не забывайце, што Бароўскі — гэта трэнер, якому першаму прыйшлося рыхтаваць каманду да гульняў на сучасным еўрапейскім узроўні.

Мы выдатна разумелі, што чакаць цуда ад настаўніка галоўнай каманды Беларусі проста нерэальна, паколькі трэнер нараджаецца не адразу. Падрыхтаваць і вырасціць яго — задача не лягчэйшая, чым вырасціць выдатную каманду ці асобна ўзятага ігрока.

Тым не менш, у Бароўскага ёсць вопыт, веды, вытрымка для таго, каб стаць добрым трэнерам.

**— Нацыянальнай зборнай і клубам па-ранейшаму прыйдзецца прымаць сапернікаў толькі на стадыёне «Дынама»?**

— На жаль, на сённяшні дзень стадыён «Дынама» адзіны ў Беларусі, прызнаны прыгодным для правядзення матчаў міжнароднага ўзроўню. З гэтай нагоды ў ФФРБ з УЕФА прыйшло дырэктыўнае пісьмо, сэнс якога прыкладна такі: калі ў нас у бліжэйшы час не будзе прыняты УЕФА яшчэ хаця б адзін стадыён, то Беларусі будзе зменшана квота ўдзельнікаў у Еўракубках, паколькі УЕФА вельмі складана планаваць усе гульні на адным стадыёне.

**— Спадзяюся, што ваша ведамства робіць пэўныя крокі, каб такога абмежавання не было.**

— Безумоўна. Менш чым праз месяц, 22 красавіка, у Мінск прыбывае кампетэнтная камісія з Еўрапейскага футбольнага саюза, якой будуць прадстаўлены тры спартыўныя арэны: у Маладзечне, Магілёве і Мазыры. Магу вас запэўніць, што ва ўказаных месцах кіраўніцтва гарадоў і клубаў прыкладаюць нямала намаганняў, каб стадыёны спадабаліся адказным работнікам УЕФА.

**— Яўген Феліксавіч, правядзенні міжнародных сустрэч з удзелам нашых каманд патрабуюць немалых фінансавых затрат: аплата чартэрных рэйсаў, набыццё новай формы, выклік «легіянераў», шматлікія камандзіровачныя расходы, выплата прэміяльных...**

— Можаце далей не пералічваць, паколькі спіс гэты будзе вельмі доўгім.

Сапраўды, сёння спорт, у тым ліку і футбол, напрамую залежыць ад матэрыяльнай падтрымкі. У федэрацыі аб гэтым выдатна памятаюць. Таму, калі мой рабочы дзень прайшоў так, што ФФРБ не атрымала на свой рахунак 20—30 мільёнаў рублёў, я лічу яго пустым.

У мінулым адборачным цыкле мы добра справіліся з усімі грашовымі справамі. Змаглі не толькі добра экіпіраваць зборную, але і наладзіць паўнацэнныя зборы. Не было праблем і з выклікам «легіянераў».

Гэта стала магчымым таму, што Федэрацыя футбола Беларусі на 75 працэнтаў у фінансавым плане забяспечвае сябе самастойна, і толькі чацвёртая частка ўсяго бюджэту ідзе з дзяржаўнай казны.

Мяркую, што і сёлета мы таксама справімся з гэтай задачай, інакш трэба распісацца ў сваёй бездапаможнасці.

**— На дапамогу спонсараў разлічваць не прыходзіцца?**

— Чаму не? Знаходзяцца такія людзі. Аднак з-за недасканалай падатковай палітыкі ў спонсараў адпадае любое жаданне дапамагчы футболу. Скажу, чаму так адбываецца. Калі чалавек перавядзе на наш рахунак пэўную суму грошай, то за гэта ён заплаціць дадаткова вялікі падатак дзяржаве.

Але ж на гэтым справа не заканчваецца. Федэрацыя футбола таксама частку гэтых грошай выплаціць у якасці падаткаў. Наогул, мы плацім, як і ўсе клубы Беларусі, больш за 20 відаў падаткаў. А гэта адбіваецца на агульным стане масавага, дзіцячага і юнацкага футбола. Дзякуючы неймаверным намаганням трэнераў, работнікаў федэрацыі ў Беларусі дзіцяча-юнацкі футбол яшчэ жыве. На сёння ў рэспубліцы працуюць 10 спецыялізаваных школ, некалькі інтэрнатаў алімпійскага рэзерву. Праўда, сітуацыя тут даволі складаная. Той жа інвентар купіць — праблема. І гэта не дзіўна, калі ведаць, што толькі адзін футбольны мяч каштуе 60 долараў.

Спадзяюся, што прыйдзе час, калі падлеткі не будуць адчуваць праблем з гульнёй у футбол. У гэтым плане нам стараецца дапамагчы УЕФА.

**— Яўген Феліксавіч, а як вы ацэньваеце магчымасці нашага юнацкага футбола на футбольных палях Еўропы?**

— Нягледзячы на ўсялякія эканамічныя цяжкасці, наша моладзь дастойна гуляе з самымі рознымі сапернікамі. У першым розыгрышы мы выставілі дзве зборныя: юнацкую і маладзёжную ў адборачных матчах чэмпіянату кантынента і яны змаглі трапіць у фінальную частку турніраў.

Дарэчы, 27 красавіка ў Аўстрыі пачнецца фінал юнацкага чэмпіянату Еўропы. І я, як член камітэта УЕФА, прызначаны адказным за правядзенне гэтых спаборніцтваў.

**— І яшчэ адно пытанне, якое хвалюе не толькі беларускі, але і еўрапейскі футбол. Кажуць, што слова «легіянер» больш у еўрапейскай футбольнай лексіцы на існуе. І толькі з-за таго, што напярэдадні новага года, 15 снежня, Еўрапейскі суд (ЕС) прызнаў неправамоцным любыя абмежаванні ў выбары месца работы для грамадзян краін Еўрапейскага саюза.**

**На футбольнай лексіцы ўсе гэтыя падзеі ўмоўна атрымалі назву «справа Босмана».**

— Хацелася б разблытаць гэты клубок з «легіянерамі» і растлумачыць чытачам, у чым справа.

Яшчэ ў 1991 годзе ігрок бельгійскага «Льежа» Жан-Марк Босман захацеў перайсці ў французскі клуб «Дзюнкерк», у чым яму было адмоўлена ў сувязі з прынятымі абмежаваннямі: любы еўрапейскі клуб мог выпусціць на поле адначасова не больш як трох іншаземцаў і двух так званых асіміляваных ігракоў (якія пражывалі ў краіне не менш як пяць гадоў). Бельгіец звярнуўся па дапамогу ў ЕС. І толькі праз 5 гадоў суд вынес вердыкт, каб зняць усялякія абмежаванні. На мой погляд, гэтае рашэнне не на карысць футболу, паколькі відавочная выгада ў ім для элітных клубаў Еўропы.

**— Якія ў хуткім часе могуць скупіць усіх «зорак» кантынента?**

— Вядома. Праўда, у далёкай перспектыве ім не будзе дзе чэрпаць «зоркавае» папаўненне, паколькі ў астатніх еўрапейскіх клубах клас гульні знізіцца.

**— Як указанае рашэнне можа адбіцца на жыцці беларускіх клубаў?**

— Пакуль ніяк, паколькі наша краіна не член Еўрапейскага саюза.

**— Значыць, нашы клубы могуць быць таксама ўкамплектаваны аднымі іншаземцамі?**

— Атрымліваецца, што так. Толькі з нашымі фінансавымі магчымасцямі зрабіць гэта немагчыма.

Мне ўсё ж такі верыцца, што розум у дадзеным выпадку возьме верх, таму што футбол павінен радаваць не асобную кучку людзей, а ўсіх без выключэння балельшчыкаў.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## БЕЛАРУСКАЯ ПАЛЬЧАТКА НА РЫНГУ КАПЕНГАГЕНА

У сталіцы Даніі — Капенгагене стартаваў чарговы чэмпіянат Еўропы па боксу, у якім прымаюць удзел спартсмены больш чым з 30 краін кантынента. Сярод суіскальнікаў узнагарод чэмпіянату і ліцэнзій на Алімпійскія гульні ў Атланту ёсць і беларуская каманда, якая налічвае 10 спартсменаў ва ўсіх вагавых катэгорыях, і трэнерскі штаб у саставе трох чалавек.

Вось хто будзе абараняць гонар Беларусі на працягу 10 дзён:

**51 кг** (вагавая катэгорыя)
Раман Падапрыгора
**57 кг**
Сяргей Нікіцін
**60 кг**
Сяргей Астрашапкін
**63,5 кг**
Сяргей Быкоўскі
**67 кг**
Вадзім Мезга
**71 кг**
Віталь Шпакоўскі
**75 кг**
Сяргей Барысенка
**81 кг**
Сяргей Крупеніч
**91 кг**
Сяргей Дычкоў
звыш **91 кг**
Сяргей Ляховіч

На думку прэзідэнта Федэрацыі бокса Рэспублікі Беларусь, члена выканкома Еўрапейскай баксёрскай асацыяцыі Ігара Ражноўскага, наша зборная мае рэальныя шансы заваяваць медалі самай высокай пробы, паколькі ў саставе каманды вельмі многа баксёраў высокага класа.

Спаборніцтвы працягнуцца да 8 красавіка. Акрамя майстроў скуранай пальчаткі прадстаўляць рэспубліку на рынгу Капенгагена будзе беларускі арбітр Віктар Кашанскі.

## АЎТОГРАФ У ТАЙСАНА ЎЗЯЦЬ НЕ ЎДАЛОСЯ...

Матч стагоддзя — менавіта так называлі арганізатары паядынак баксёраў-прафесіяналаў — непераможнага Майка Тайсана і Фрэнка Бруна, які нядаўна праходзіў у Лас-Вегасе, у буйнейшым у свеце атэлі MGM Grand. Сведкамі незвычайнага відовішча сталі 17 тысяч гледачоў з усяго свету. Сярод шчаслівцаў быў і прэзідэнт Беларускай асацыяцыі прафесіянальнага бокса Эдуард Дубоўскі, які пасля прыезду ахвотна падзяліўся ўражаннямі ад матча.

Па словах прэзідэнта БАПБ, матч выклікаў незвычайны ажыятаж, і трапіць на паядынак было практычна немагчыма. Тым не менш, яму ўдалося купіць адзіны білет за 600 долараў, праўда, гэта яшчэ не азначала, што цябе пасадзяць недзе каля рынга. У зале не было дзе яблыку ўпасці, таму назіраць прыйшлося прыкладна з адлегласці 100 метраў. Для таго, каб атрымаць дазвол на правядзенне здымак тэлекамерай у межах рынга, арганізатары ўсяго толькі паставілі адну ўмову: вы нам чэк на сто тысяч долараў — мы вам гарантуем права здымаць на працягу ўсіх 12 раўндаў. Але, як потым аказалася, такое задавальненне было б занадта дарагім яшчэ і таму, што бой быў завершаны ўжо на 50-й секундзе трэцяга раунда. Напачатку Фрэнк Бруна астудзіў пыл саперніка, прымяняючы розныя захопы рукамі, і спрабуючы прытрымлівацца тактыкі блізкага бою. Тайсан змог навязаць спарынг-партнёру сваю манеру і ў трэцім раундзе правёў серыю ўдараў справа, пасля чаго Бруна не змог працягваць паядынак.

Аб прызавым фондзе афіцыйна не паведамлялася. Аднак з кулуарных размоў стала вядома, што пераможца атрымаў ганарар памерам у 30 мільёнаў долараў, а прайграўшы — у пяць разоў меншы — 6 мільёнаў «зялёных».

Пасля паядынку прабіцца да герояў матча было немагчыма, таму аўтограф узяць не ўдалося. Праўда, сітуацыю крыху выправіў прамоўтэр Майка Тайсана — знакаміты Дон Кінг, які ўсё ж пакінуў свой аўтограф Дубоўскаму.

Банкет, які быў наладжаны для герояў незвычайнага шоу, з удзелам Шварцэнегера, Ван Дама, Мэджыка Джонсана, Мухамеда Алі, Джэк Нікалс і іншых «зорак» Галівуда, спорту і буйных палітычных дзеячаў, аказаўся таксама недаступным.

Эдуард Дубоўскі шчыра прызнаўся, што ў такім моры людзей, якія гатовы дзеля сустрэчы з «зоркамі» вылажыць не адзін дзесятак тысяч долараў, адчуваеш сябе дробнай кузуркай.

Безумоўна, з-за нашай беднасці мы наўрад ці калі зможам трапіць на шоу такога рангу. Таму не дзіўна, што сярод шматтысячнай аўдыторыі балельшчыкаў практычна ніхто не ведае, што ў свеце ёсць такая Рэспубліка Беларусь. Іншаземцы ведаюць колішні Савецкі Саюз і Расію.

Тым не менш, лічыць прэзідэнт БАПБ, паездка была вельмі карыснай. У прыватнасці, пасля наведвання падобных шоу, дзе вывучаюцца пытанні тэхнікі, стратэгіі і тактыкі вядзення бою на такім узроўні, з'яўляецца вопыт, які ў далейшым дазволіць правесці прафесіянальныя баі ў Беларусі. Дастойныя сапернікі заўсёды знойдуцца, справа толькі за грашыма.

Эдуард Іосіфавіч упэўнены, што калі б нехта са спонсараў выказаў цікавасць да ідэі правядзення падобных паядынкаў, то баксёры-прафесіяналы не засталіся б у даўгу перад мецэнатамі.

Прэзідэнт БСРБ не забыў падзякаваць за фінансавую дапамогу ў паездцы за акіян адкрытай акцыянернай страхавой кампаніі «Багач» у асобе яе генеральнага дырэктара Пятра Андрэевіча Бабарыкі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПРАМАЯ ЛІНІЯ

**Паважаныя чытачы!**

**Сёння, 2 красавіка, на «прамой лініі» «Звязды» з 15 да 17 гадзін вечара будзе міністр спорту і турызму РБ Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў, які адкажа на вашы пытанні па тэлефонах:**

**32-38-92; 32-38-21.**

**Папярэдне пытанні можна задаць па тэлефонах:**

**68-27-81; 68-29-68; 68-29-19.**

# ДОМ І ЧАЛАВЕК

**ЗА ГАДЫ ЖУРНАЛІСЦКАЙ РАБОТЫ мне давялося нямала паездзіць па сваёй краіне, часам здараліся і замежныя паездкі. Плошчы, музеі, экспанаты, помнікі, увогуле нешта адметнае і ўнушальнае, чым хочуць уразіць гасцей. Не ведаю, можа, я не ўсюды пабывала ў Ізраілі, можа, многага не ўбачыла, але галоўныя ўражанні адсюль умяшчаюцца ў тры словы: дзяржава — дом — чалавек. Чалавек у сваім доме. Сімвал маленькай краіны, якую на добрым «аўто» можна за дзень праехаць і ўздоўж, і ўпоперак. І ўсюды будзеш здзіўляцца: як трэба любіць гэтую зямлю, ха-Арэц, каб літаральна кожны яе кавалачак, прыдатны для жыцця, зацвіў, прынёс карысць. Ля кожнага дрэва, газона, а таксама на абочынах дарог бачыш мноства правадоў: з дапамогай камп'ютэраў тут паліваюць усё жывое. Траву для газонаў прывозяць у рулонах і ўкараняюць: сама не расце. Гэтак і з людзьмі: пакліч, а потым пакінь без увагі — загубіш.**

Людзей ў Ізраілі ўсё большае. З моманту свайго стварэння дзяржава прыняла 2,5 мільёна рэпатрыянтаў — гэтая лічба больш чым у тры з паловай разы пераўзыходзіць колькасць яўрэяў, якія пражывалі тут на момант абвяшчэння незалежнасці (1948 год). Толькі за першыя чатыры гады існавання дзяржавы насельніцтва Ізраіля падвоілася — больш за 700 тысяч чалавек, галоўным чынам бежанцы з пасляваеннай Еўропы. Плюс амаль столькі ж — у выніку працэсаў у посткамуністычнай Еўропе. Зноў павелічэнне насельніцтва на 15 працэнтаў. Кожнаму патрэбна ўкараніцца тут, знайсці глебу для існавання, не перашкодзіць ранейшым насельнікам, не прывесці да канфлікту з неспакойнымі суседзямі. Тут вельмі мала зямлі і вады, няма энергетычных рэсурсаў.

— І таму галоўнае багацце краіны — людзі, — чулі мы падчас шматлікіх сустрэч, афіцыйных і неафіцыйных. — Людзі прыехалі дадому, яны доўга марылі пра гэта, і вельмі важна, каб іх спадзяванні спраўдзіліся, каб кожны знайшоў сябе.

Прага адзінага дома, адзінай незалежнай дзяржавы — стрыжань шматвекавой гісторыі (чытай: шматвекавых пакут) народа, які і дагэтуль рассеяны па ўсім свеце. «Праз год — у Іерусаліме!» — найлепшае сяброўскае пажаданне і тост. Перад адным са сваіх любімых святаў — Песахам (Пасхай) яўрэі ва ўсім свеце «садзяцца на кучкі» (як выгнаннікі ў пустыні — у шалашы) і моляцца, каб у Ізраілі прайшоў дождж, бо вада — гэта жыццё. Нават у самыя светлыя свае дні (напрыклад, вяселле) яўрэй павінен памятаць пра свой народ і ягоныя пакуты. Адсюль традыцыя разбіваць на вяселлі фужэры і шклянкі — «Іерусалім быў разбураны і храм». Яны насілі пейсы — каб не забыцца пра свае карані. Будавалі сінагогі — нізкія, нават з падвальным паверхам (бо яўрэям паўсюдна забаранялі будаваць свае культавыя памяшканні вышэй за адпаведныя збудаванні традыцыйных рэлігій). Там маліліся мужчыны: калі ёсць 10 добрых мужчынуяўрэяў, то можна выратаваць усю абшчыну, а значыць і народ. Імкнуліся рабіць для людзей добрае — за жыццё яўрэй павінен зрабіць 613 добрых спраў, таму трэба спяшацца: жыццё кароткае!

У музеі Дыяспары, што знаходзіцца на тэрыторыі Тэль-Авіўскага універсітэта, супрацоўніца музея Жэня Фогель правяла нас па ўсіх «станцыях» — тых пунктах на зямным шары, дзе давялося жыць яўрэям пасля выгнання з Іерусаліма. Былі часіны як спрыяльныя для народа («Іспанія — наш залаты век», «Вільнюс — наш Іерусалім»), так і цёмныя старонкі. Напрыклад, Візантыйскае выгнанне. Там яўрэям было забаронена вучыць сваю мову, мець свае школы. Гэта былі самыя страшныя забароны: хочаш знішчыць народ — адбяры ў яго культуру і мову. Як бачым, метады выпрабаваныя... Але гісторыя аказваецца ў рэшце рэшт разумнейшай за палітыкаў і правіцеляў. Дарэчы, тут, у музеі, можна праз камп'ютэр даведацца пра ўсё, што звязана з жыццём яўрэяў у любым горадзе свету (мы атрымалі раздрукоўкі па Мінску і Віцебску), а таксама выявіць свае генеалагічныя карані, зыходзячы з прозвішча.



Хутка паўвека, як Дзяржава Ізраіль набыла сваю незалежнасць. І з першых дзён яе існавання актыўна ідзе працэс «збірання рассеяных» — вяртання ўсіх жадаючых яўрэяў на «зямлю запаветную». Гучаць перасцярогі: ці вытрымаюць Ізраіль, яго эканоміка, яго абмежаваныя тэрыторыі, прыгодныя для пражывання, такую колькасць новых грамадзян? У людзей павінна быць такое права, лічаць тут. Трэба працаваць лепш, паляпшаць тэхналогіі, распрацоўваць новыя праекты, якія дадуць магчымасць асвойваць «дзікія» пустынныя тэрыторыі. Зараз тут працуюць над маштабным праектам атрымання прэснай вады за кошт перападу ўзроўняў Мёртвага мора і больш высокіх тэрыторый, над стварэннем магістральных дарог.

— Вялікі прыток эмігрантаў даў рэзкі штуршок нашай эканоміцы, — лічыць Абрахам Тальмар з аддзела міжнародных сувязей міністэрства фінансаў Ізраіля. — Да нас едзе вельмі многа адукаваных, кваліфікаваных спецыялістаў. Сярод «постперабудовачных» эмігрантаў — 50 тысяч інжынераў, 20 тысяч урачоў, больш за 5 тысяч навукоўцаў, каля 10 тысяч прафесіянальных музыкантаў. Усе яны вельмі хочуць працаваць, і, выкарыстоўваючы «мазгі», мы рэзка прасоўваем сваю эканоміку.

Зараз у Ізраілі пражывае больш за пяць мільёнаў чалавек. 81,5 працэнта насельніцтва складаюць яўрэі: сабры (ураджэнцы Ізраіля) і выхадцы прыкладна з 80 краін свету, а таксама арабы (17 працэнтаў). Астатнія паўтара працэнта — друзы, чаркесы і іншыя. Дзяржаўнай мовай з'яўляецца іўрыт — мова Бібліі. На працягу многіх стагоддзяў іўрыт не выкарыстоўваўся ў штодзённым жыцці, застаючыся мовай богаслужэнняў і паэзіі. Цяпер ён ужываецца паўсюдна. У школах, іншых навучальных установах вельмі грунтоўна вывучаецца гісторыя — менавіта адтуль пачынаецца патрыятызм, павага да нацыі і дзяржавы.

— Перарабляць тое, што зроблена са свядомасцю людзей за стагоддзі, вельмі цяжка, — разважае намеснік генеральнага дырэктара МЗС Ізраіля, кіраўнік дэпартамента Усходняй Еўропы і СНД Мірон Гордан. — Антысемітызм, антыарабскія настроі з'яўляюцца там, дзе людзей з дзяцінства не навучылі паважаць адзін аднаго менавіта як людзей — добрых і злых, незалежна ад нацыянальнасці. Зараз з Польшчай, напрыклад, мы стварылі агульную камісію, якая правярае падручнікі. З абодвух бакоў складаюцца спісы тых змяненняў, якія пажадана бачыць у падручніках, з тым, каб не вылучаліся, не раздзімаліся нейкія спрэчныя моманты. І такую работу я лічу галоўным з таго, што робіцца ў нашых узаемаадносінах. Будучыя праблемы — у тым ліку і міжнацыянальныя, міжнародныя — нараджаюцца (або вырашаюцца) у сённяшніх вучэбных класах.

Гэта адчуваюць і многія ізраільскія палітыкі. Зараз, калі тут разгараецца перадвыбарная кампанія па датэрміновых выбарах у Кнесет і адначасовых выбарах кіраўніка ўрада, некаторыя прэтэндэнты не абмінаюць нават старэйшыя класы школ. Ізраільскае грамадства вельмі палітызаванае, і тое, аб чым гаворыцца ў сем'ях, можа стаць вырашальным на выбарах.

Два прэтэндэнты на лідэрства: сённяшні кіраўнік урада Шымон Перэс (Партыя працы) і лідэр апазіцыі Бібі Нетаніягу (партыя Лікуд) вядуць між сабой гарачыя дэбаты па тэлебачанні. Фармальнай падставай для сустрэчы перад экранам тэлевізара стала абмеркаванне даты будучых выбараў (у нас пакуль такога парытэту падчас барацьбы за ўладу не назіралася). Але, нягледзячы на такі пачатак, выбары абяцаюць быць даволі гарачымі: побач з вырашэннем сацыяльных, эканамічных праблем, якія стаяць перад кожнай дзяржавай, у Ізраілі чакаюць мудрай палітыкі сваіх лідэраў ва ўрэгуляванні канфлікту з арабскімі дзяржавамі і захаванні непадзельнасці Іерусаліма. Кожнае надзвычайнае здарэнне — і нядаўнія тэрарыстычныя акты — тузаюць шалі вагаў: надта высокай цаной дастаецца народу спакой і парадак у агульным доме. Ад прадбачлівасці і разумнай кампраміснасці лідэраў многае залежыць.

... У музеі Дыяспары вас найперш сустракае вялікая экспазіцыя, што мяняецца кожную хвіліну. Гэта — людскія твары: дзіцячыя, старэчыя, вельмі прыгожыя і звычайныя, дамашнія. Гэта канкрэтныя людзі, якія жывуць у Ізраілі. Не проста абязлічаны народ, на які так любяць спасылацца палітыкі, а персоны, асобы. Ім — розным — аднолькава хочацца ў пятніцу, напярэдадні свята, зайсці ў бацькоўскі дом, дзе старэйшая жанчына — маці — запаліць свечкі, падасць вячэру, атуліць любоўю. Дзеля гэтага варта напружана працаваць цэлы тыдзень. І дзесяцігоддзямі вандраваць па пустыні, бачачы праз вякі адроджаную дзяржаву. Цяпер няхай будзе толькі адно: гараць свечкі, фаршыруецца рыба, гучаць малітвы. Думаю, вы ведаеце, пра што: пра мір у доме. І каб Бог даў дажджу.

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

**НА ЗДЫМКУ: праваслаўны храм у Іерусаліме.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● ЗША ПАДТРЫМАЛІ ПРАГРАМУ ЎРЭГУЛЯВАННЯ ЧАЧЭНСКАГА КРЫЗІСУ**

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын падпісаў указ аб праграме ўрэгулявання крызісу ў Чачэнскай Рэспубліцы. Згодна з указам галоўнымі накірункамі рэалізацыі праграмы ўрэгулявання з'яўляюцца: спыненне з 24 гадзін 1 красакавіка 1996 года вайсковых аперацый на тэрыторыі Чачні, паэтапны вывад федэральных сіл, што знаходзяцца ў Чачэнскай Рэспубліцы, на яе адміністрацыйныя межы ў адпаведнасці са схемай перадыслакацыі войскаў, пашырэнне зон згоды, бяспекі і міру, а таксама падрыхтоўка і правядзенне дэмакратычных выбараў у заканадаўчы орган дзяржаўнай улады Чачні. Адміністрацыя прэзідэнта ЗША Клінтана падтрымала праграму расійскага кіраўніцтва па ўрэгуляванню чачэнскага крызісу.

**● МІРНАЕ ЎРЭГУЛЯВАННЕ ПАЧАЛОСЯ З КРЫВІ**

На паўднёвым усходзе Чачні за апошнія дні сканцэнтравалася каля 800 дудаеўскіх баевікоў. У перадгор'е Вядзенскага раёна баевікі прасочваліся дробнымі групамі — да 30 чалавек кожная. Менавіта гэтыя атрады ажыццявілі ў ноч на 1 красавіка, ужо пасля спынення вайсковых аперацый, напад на калону падраздзяленняў Міністэрства абароны. У выніку бою 28 вайскоўцаў загінулі, 69 атрымалі раненні.

**● КАЎКАЗЦАЎ НЕЛЬГА ПАСТАВІЦЬ НА КАЛЕНІ**

Міхаіл Гарбачоў у сувязі з абнародаваннем Ельцыным планаў урэгулявання чачэнскага крызісу пацвердзіў сваю гатоўнасць выступіць пасрэднікам на перамовах з дудаеўскім бокам. Гарбачоў у якасці выйсця з чачэнскага тупіка бачыць толькі шлях палітычных метадаў урэгулявання крызісу. Ні адзін «каўказскі народ паставіць на калені немагчыма», — упэўнены экс-прэзідэнт СССР.

**● ПРЭЗІДЭНЦТВА Ў АБМЕН НА КУРЫНЫЯ КУМПЯЧКІ?**

Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Мядзведзеў расцаніў як грубую правакацыю паведамленне ў шэрагу замежных і расійскіх сродкаў масавай інфармацыі аб быццам бы заключанай здзелцы паміж прэзідэнтамі Расіі і ЗША. У гэтых паведамленнях размова вялася аб тым, што быццам бы падчас асабістай гутаркі Ельцын дамовіўся з Білам Клінтанам наконт таго, што атрымае падтрымку Вашынгтона на маючых адбыцца выбарах у абмен на працяг закупак Расіяй у ЗША курыных кумпячкоў.

**● ДАХОДНЫ БІЗНЕС**

Начальнік спецыяльнага антытэрарыстычнага падраздзялення калумбійскай паліцыі Альфрэд Радрыгес папярэдзіў у нядзелю іншаземных турыстаў, якія знаходзяцца ў краіне, аб небяспецы выкрадання. Вялікдзень можа быць выкарыстаны групоўкамі паўстанцаў для арганізацыі выкраданняў іншаземных турыстаў з мэтай атрымання выкупу. Групоўкі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Калумбіі, апошнім часам ператварылі захоп заложнікаў у даволі прыбытковы бізнес.

**● У КОСМАСЕ ГАВОРАЦЬ ПА-КІТАЙСКУ**

Даволі нетрадыцыйную форму зносінаў выбралі члены расійска-амерыканскай экспедыцыі, якія ажыццяўляюць палёт на арбітальнай станцыі «Мір». Між сабой яны размаўляюць на кітайскай мове. Справа ў тым, што 53-гадовая амерыканка за год падрыхтоўкі ў Зорным гарадку недастаткова добра вывучыла рускую мову. Не дапамаглі ёй і заняткі з выкладчыкамі ў ЗША за месяц да палёту ў космас. Такім чынам, варыянт зносінаў на рускай мове прыйшлося адхіліць. Не прайшла прапанова аб зносінах на англійскай, таму што станцыя «Мір» з'яўляецца расійскай тэрыторыяй, а камандзір экіпажа — грамадзянін Расіі.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ТРЫ СЦЯГІ Ў ГОСЦІ ДА НАС

**Беларуская чыгунка стала цэнтрам правядзення міжнароднай нарады па стварэнню доўгатэрміновага транспартнага права для грузавых зносінаў «Германія—Беларусь—Расія». У ёй прынялі ўдзел эксперты міністэрства шляхоў зносінаў Расіі, АТ «Дойчэ Бан АГ», Генеральнай дырэкцыі польскай дзяржаўнай чыгункі і ўпраўлення Беларускай чыгункі.**

Работа над стварэннем транспартнага права вядзецца ўжо некалькі гадоў. Перад распрацоўшчыкамі пастаўлена задача максімальна зблізіць Правілы перавозак грузаў, якія дзейнічаюць у Германіі, Польшчы і краінах СНД.

На нарадзе быў выпрацаваны праект дагаворнага транспартнага права «Германія—Беларусь—Расія», які ў бліжэйшы час будзе накіраваны для ўзгаднення ў транспартныя органы краін—удзельніц гэтай нарады.

**Алег ПАДАЛЯНІН.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.41 | 19.46 | 13.05 |
| Віцебск – | 6.30 | 19.37 | 13.08 |
| Магілёў – | 6.30 | 19.35 | 13.05 |
| Гомель – | 6.27 | 19.33 | 13.06 |
| Гродна – | 6.54 | 20.03 | 13.09 |
| Брэст – | 6.59 | 20.00 | 13.01 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 27 сакавіка.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Іаана, Сергія, Фаціны(Святланы), Віктара, Анатолія, Параскевы, Аляксандры, Клаўдзіі, Юльяніі, Яўфіміі, Нікіты К. Францішка, Тэадозіі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі ападкі, раніцай на дарогах галалёдзіца, па поўдню туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 1—3, Мінску, Магілёве — 2—4, Гродне — 3—5, Брэсце, Гомелі — 4—6 градусаў цяпла.

у наступныя двое сутак воблачна, на большай частцы тэрыторыі рэспублікі, а 3-га ўначы па паўднёва-ўсходняй палавіне ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу. Тэмпература — 1—6 градусаў цяпла; 4-га ўначы — мінус 2—плюс 3, удзень — 2—7 градусаў цяпла

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 2 КРАСАВІКА

У бліжэйшыя суткі захаваецца няўстойлівы характар атмасферных працэсаў. Надвор'е будзе вызначацца ўначы цыклонам, удзень — полем павышанага атмасфернага ціску. Чакаецца рост ціску (на 6—8 мб) і ўтрыманне кіслароду ў паветры. У такіх умовах можа пагоршыцца самаадчуванне ў хворых на гіпертанію, стэнакардыю, бранхіяльную астму.

Для прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, строга прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, і заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У брытанцаў галава больш за ўсё баліць ад болесуцішальных таблетак. Гэта вызначыў фізіёлаг з лонданскай бальніцы «Чарынг крос» Цімаці Стэйнер. Ён лічыць, што недамаганне, якое вызначаецца як хранічны галаўны боль, звязаны з празмерным ужываннем болесуцішальных таблетак. Ад такога недамагання пакутуюць сама меней адзін мільён брытанцаў. Пацыенты ж, якія адмовіліся ад такіх таблетак, часта адчувалі палёгку.

**ІТАР-ТАСС**

*Для чаго патрэбны масты? У многіх амерыканцаў свая думка наконт гэтага, ва ўсякім разе, адносна моста «Залатыя вароты» ў Сан-Францыска. З моманту яго збудавання ў 1937 годзе ён стаў месцам ... самазабойстваў. З таго часу ужо 1 тысяча амерыканцаў разлічыліся з жыццём, кінуўшыся ўніз з 67-метровай вышыні. Некалькі соцень чалавек удалося «ўтрымаць» ад ракавога кроку, 25 былі выратаваны. «Залатыя вароты» ўтрымліваюць першае месца ў свеце па ліку ажыццёўленых на ім самазабойстваў.*

**«Труд»**

Екацярынбургскія аматары кавы змогуць вырошчваць кафейныя плады ў кватэры.

Задавальненне назіраць, як развіваецца і пладаносіць гэтае дрэва, абыдзецца аматарам пакаёвых раслін ў 15 тысяч рублёў.

Па такой цане ў дэндрарыі прадаюцца маленькія парасткі, якія, як сцвярджаюць спецыялісты, могуць стаць вялікімі дрэвамі. Толькі праз пяць гадоў пасля пакупкі пры правільным доглядзе кафейнае дрэва прынясе першы ўраджай.

**ЕАН.**





# МАЦІ ЧАЛАВЕЧАЯ, МАЦІ БОЖАЯ

У якіх стагоддзях не славілі цябе, Маці? Якімі фарбамі не пісалі мастакі тваю постаць? Для сапраўднага майстра няма такой іншай крыніцы натхнення.

У мінскага мастака Міхася Карпука шмат твораў прысвечана жанчыне-маці. У яго майстэрні можна ўбачыць выяву прасвятой Дзевы Марыі, якая напісана для новай царквы ў Камянецкім раёне. Непадалёку ад яе — партрэт маці мастака — простай вясковай жанчыны. Пакінутая чарнобыльская вёска за яе спінаю — нібы напамін, праз якія пакутлівыя выпрабаванні пралягае шлях жанчыны не толькі ў мінулым, але і ў сучаснасці.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**36,6°**

# КОМПЛЕКС ПРАКТЫКАВАННЯЎ ДЛЯ ХВОРЫХ НА ПОЛІАРТРЫТ

**(распрацаваны кандыдатам медыцынскіх навук С. СІДАРАВЫМ)**

1. Седзячы, рукі на галаве, кісці ў «замку». Узнімайце рукі ўгору, вывернуўшы далоні наверх.
2. Адкінуцца на спінку крэсла, ногі выцягнутыя. Пакруціце кісцямі рук і ступнямі. Па 15 разоў у кожны бок.
3. Ногі выпрастаны, наскі цягніце на сябе, рукі на каленях. Сагніце рукі ў локцевых суставах да плячэй.
4. Ногі шырэй за плечы, рукі за галавой. Нахілы ў бакі.
5. Адна нага пад крэслам, другая выцягнута наперад, рукі на поясе. Змена ног.
6. Ногі шырэй за плечы, кісці рук у «замку». Кручэнне прамымі рукамі перад сабой.
7. Рукі да плячэй. Кручэнне ў плечавых суставах.
8. Адкінуцца на спінку крэсла, ногі выпрастаны, рукамі трымацца за сядзенне крэсла. Апісвайце кругі нагамі, не адрываючы іх ад падлогі.
9. Рукі ў бакі — удых, падцягніце правае калена да жывата з дапамогай рук — выдых. Тое ж — другой нагой.
10. Рукі перад грудзьмі, ногі шырэй за плечы. Павароты ў бакі з развядзеннем рук.
11. Адкінуцца на спінку крэсла, ногі выпрастаны. Адначасовае развядзенне рук і ног (ногі ад падлогі не адрываць).
12. Стоячы за крэслам, ногі шырэй за плечы, рукі на спінцы крэсла. Паўпрысядаючы, перанясіце цяжар тулава з нагі на нагу.
13. Стоячы тварам да крэсла, рукі на спінцы. Крокі наперад з прагінаннем (умераным).
14. Зыходнае становішча — тое ж. Павароты тулава ў бакі з адвядзеннем аднайменнай рукі назад.
15. Зыходнае становішча — тое ж. Махі свабоднай правай, потым левай нагой у бакі.
16. Зыходнае становішча — тое ж. Павольна апусціцца на калені, потым устаць з дапамогай рук, 2—4 разы.
17. Карысна таксама: пахадзіць на месцы з высока ўзнятымі каленямі па 20—30 секунд; некалькі разоў устаць з крэсла з дапамогай рук; развесці рукі ў бакі, узняць угору, наперад, сціскаючы кісці ў кулак і расціскаючы іх.

Тэмп выканання практыкаванняў павольны. Пачынаць з 4—6, паступова павялічваючы колькасць паўтораў практыкаванняў у залежнасці ад самаадчування (можна да 12—15). Выканаўшы 3-4 разы, рабіць паўзы па 12—15 секунд.

**Публікацыю падрыхтавала ўрач Ганна СНЕГІР.**




# ФІЛЬМАТЭКА

- **«Каханне французскае і рускае»**
- **«Уратуй мяне»**
- **«Дрэнныя дзяўчынкі»**
- **«Радасці інтымнага жыцця»**

Новую мастацкую кінастужку **«Каханне французскае і рускае»** прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Расіі. Пастаноўку фільма па свайму сцэнарыю ажыццявіў рэжысёр Аляксандр Аляксандраў.

Немалады француз (гадоў пад сорак), які камандзіраваны ў Маскву ў Міністэрства культуры для перагавораў, знаёміцца з рускай дзяўчынай Таняй. Жак улюбёны ў Расію, рускую літаратуру і музыку і страшэнна рады, што дзяўчына, якая яму спадабалася, носіць імя пушкінскай гераіні. Таццяне ж спачатку не да экзальтаванага француза. На рабоце ў яе не ўсё складваецца, муж у турме, хлопчык-палюбоўнік, напорысты і нахабны ў жаданні займацца з ёю з ранку да ночы сексам, праходу не дае. Ёсць праблемы і з гаспадаром кватэры, якую яна займае. Да таго ж Таня жыве ў разлуцы з маленькай дачкою, якую выхоўваюць свякроў і свёкар.

Ці да француза ёй з яго каханнем?!

Аднак Жак не «ўязджае» ва ўсе гэтыя перыпетыі. Ён закаханы! Закаханы самаадданa і палка, як можа кахаць сапраўдны француз...

У галоўных ролях заняты Алена Дробышава, Алег Шклоўскі, Сяргей Калтакоў і інш.

Кінематаграфістамі ЗША створана каляровая мастацкая кінакарціна **«Уратуй мяне»**. Аўтар сцэнарыя — Майк Сіндэр, рэжысёр — Артур Алан Сейдэльман.

На першы погляд, у гэтым фільме ёсць усё, каб аднесці яго да разраду класічнага «баевіка». Два гангстэры, якія выкралі дзяўчыну і разлічваюць на выкуп у чвэрць мільёна долараў, закаханы герой, пагоня за бандытамі, прыгоды ў гарах і па раўніннай мясцовасці, крыху стралянiны і традыцыйны «хэпі-энд».

Але ёсць у гэтай прыгодніцкай стужцы нешта з іншага жанру. Бандыты крыху недалёкія і пастаянна трапляюць у сітуацыі трагікамічныя. Яны і дзяўчыну выкралі выпадкова: калі яна апынулася ў іх машыне, проста не ведалі, што з ёй рабіць.

У ЗША знята таксама мастацкая стужка **«Дрэнныя дзяўчынкі»**. Яе пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Джанатан Каплан, сцэнарый напісалі Кен Фрыдман і Йоландэ Фінч.

Гэта было гадоў 100 назад, калі ішло асваенне дзікага Захаду і зухаватыя каўбоі гайсалі па прэрыях, пастрэльваючы ў тых, хто ім здаваўся дрэнным чалавекам. Кулямёт у тыя часы быў нечым накшталт лазернай зброі, а прадстаўніцам самай старажытнай прафесіі прыходзілася баяцца праклёнаў фанатычных прапаведнікаў і суда Лінча. Банкі ўжо існавалі і іх ужо на ўсю моц рабавалі. Усё гэта вы ўбачыце ў фільме аб прыгодах чатырох «дрэнных дзяўчынак».

Змогуць паглядзець гледачы і італьянскую мастацкую стужку **«Радасці інтымнага жыцця»**. Аўтары сцэнарыя — Жэрар Брак, Джэкі Фрышман і Крысціна Каменчыні, рэжысёр Крысціна Каменчыні.

Інтымнае жыццё — і фільм сцвярджае гэта — павінна прыносіць радасць. Але дзве гераіні фільма на гэта глядзяць па-рознаму. Графіня Жулі Рэнар адкрыта халодная да мужа, здаецца, не хвалююць яе і іншыя мужчыны, яе больш прываблiваюць страсці палітычныя. У правінцыяльнай актрысы Матыльды да сексу падыход чыста практычны, нездарма ж яна сваю прафесію сумяшчае з іншай, менш высакароднай, хаця і больш старажытнай.

Пры такой розніцы ў поглядах і сацыяльным становішчы гэтыя жанчыны знешне былі падобныя як дзве кроплі вады!

Апантаная ідэяй барацьбы за правы жанчын, Жулі рвалася ў Парыж, дзе рыхтавалася паўстанне жанчын. Каб захаваць свой ад'езд у сакрэце, яна ўгаварыла Матыльду замяніць яе. Патрабавалася правесці ў маёнтку Рэнарад усяго тыдзень, і актрыса згадзілася, купіўшыся на ганарар у 100 луідораў і паверыўшы, што ніхто не зможа яе выкрыць, паколькі муж Жулі надоўга з'ехаў. Але...

У фільме здымаліся Дэльфін Форэст, Крыстаф Малавуа, Джан Карла Джаніні і інш.



## *З днём нараджэння!*



Сардэчна віншуем з днём нараджэння Ніну Антонаўну Хмялёву!
Здароўя, спакою, цяпла і дабра табе, дарагая.
Сябры Валянціна і Віктар.



Віншуем з днём нараджэння любую матулю Л. Я. Маскоўскую (г. Салігорск).
Жадаем моцнага здароўя, шчасця.
Шыловічы.



Сардэчна віншуем з днём нараджэння Казлоўскага Аляксандра!
Сасноўскія, Казлоўскія, Адзярыха, сябры.





Віншуем з днём нараджэння Вікторыю Цімашкову!
Жадаем шчасця і здароўя.
Муж і дзеці.



Шчыра віншуем А. М. Пугачова з днём нараджэння!
Дарагі Алесь, дазволь з гэтай прыемнай нагоды ад усяго сэрца пажадаць табе моцнага здароўя, плёну і ўдзячнасці ў выкладчыцкай працы, творчых здабыткаў у навуковай дзейнасці і, вядома, шчасця і дабрабыту тваёй сям'і.
З павагай сям'я Красоўскіх.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634 Індэкс 63850.
Зак. № 1625.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12